# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае
свайго мінулага,
не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года**

**№ 2 ( 50) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2010 г.**


# 600 гадоў Грунвальдскай перамогі



**Вітаўт Вялікі** (1350 - 27.10.1430), Вялікі князь Літоўскі, пераможца ў Грунвальдскай бітве. Па яго загаду была пабудавана паўночна-ўсходняя вежа Лідскага замка.

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 2 ( 50 ) КРАСАВІК - ЧЭРВЕНЬ 2010 г.**

## *У НУМАРЫ:*





















***На першай старонцы выкладкі графічны ліст Міхася Басалыгі "Бітва пад Грунвальдам".***





**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

**Пасведчанне аб рэгістрацыі**
**№ 907**
**ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік і навуковы кансультант
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

231293, Лідскі р-н, в. Даліна
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 300 асобнікаў**
**9,5 друк. аркушаў**

**Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.**
**Замова № 18**
**Часопіс падпісаны да друку 30. 06. 2010 г.**
**Часопіс надрукаваны 24.12.2010 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес.- 2680 руб.**
**індывід. 6 мес.- 5360 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны**

ISSN 2218-1792






# КРОНІКА ЛІДЫ




У канцы 2009 года ў серыі “Кнігарня Нашай Нівы” выйшла кніга лідскага пісьменніка Сяргея Астраўца “Каты Ёзафа Ратцынгера”.







13 красавіка на лідскіх каталіцкіх могілках па вул. Энгельса былі ўстаноўлены асвечаны Катыньскі крыж і Катыньскі камень. Праз некаторы час камень знік.



*Уладзімір Цімчанка*

25 красавіка адбыліся выбары ў мясцовыя Саветы дэпутатаў 26 склікання. На першай сесіі Лідскага раённага Савета дэпутатаў старшынём Савета яшчэ на адзін тэрмін абраны Ўладзімір Цімчанка.




У траўні Лідская цэнтральная раённая бібліятэка імя Янкі Купалы і літаратурны гурток “Ветразь” СШ №12 г. Ліды выдалі зборнік вершаў “Мая маленькая Радзіма”.

1 траўня ў Ліду быў дастаўлены адноўлены крыж Святой Ефрасінні Полацкай.





1 чэрвеня адкрыты “Гасцінны двор” каля Цыбараў.

У чэрвені ў Лідзе выйшла з друку кніга паэзіі Віктара Бачарова “Птица из Персидского залива”.



У чэрвені ў Менску ў выдавецтве “Смэлтак” выйшла кніга краязнаўца Міколы Дзікевіча “Сялец. Прынёманская рэчаіснасць”.







У чэрвені РУП “Белпошта” выдала мастацкі маркаваны канверт з выявай лідскага храма Ўсіх святых.

У чэрвені падчас расчысткі балота каля сцен Лідскага замка іператварэння яго ў стаў быў знойдзены баявы клінок у дастаткова добрым стане. Клінок мае даўжыню каля 90 см, шырыню каля эфесу - 3 см. Па асноўнай даўжыні ляза шырыня - 2 см. Клінок на канцы звужаецца на востра. Лязо вострае з аднаго боку. Эфес выкананы са сплаву медзі, блізкага па складу (колеру) да латуні. Паводле папярэдняй ідэнтыфікацыі гэта руская, кавалерыйская, адналязовая, салдацкая шпага 18-га стагоддзя. Падобныя шпагі пачалі масава паступаць на ўзбраенне рускага войска пасля 1720 года. Найбольш верагодна, што шпага трапіла ў Ліду падчас паўстання Тадэвуша Касцюшкі, калі 6 ліпеня 1794 года рускія войскі генерала Кнорынга штурмам узялі горад, хаця магла трапіць і пры іншых абставінах. Шпага перададзена ў Лідскі гістарычна-мастацкі музей.





# Аб пераназванні вуліц і бульвара

Паводле прынятага рашэння Лідскага раённага Савета дэпутатаў **ад 25 чэрвеня 2010 года №17** у нашым горадзе пераназваны вуліцы і бульвар.

На падставе артыкула 15 Закона Рэспублікі Беларусь ад 5 траўня 1998 года "Аб адміністрацыйна-тэрытарыяльным дзяленні і парадку рашэння пытанняў адміністрацыйна-тэрытарыяльнага ўладкавання Рэспублікі Беларусь" Лідскі раённы Савет дэпутатаў ВЫРАШЫЎ:

1. Пераназваць у горадзе Лідзе:

1.1. вуліцу Ламаносава, абмежаваную з поўначы вуліцай 8 Сакавіка, з поўдня - вуліцай Ленінскай, участак вуліцы Перамогі, які з'яўляецца працягам вуліцы Ламаносава, абмежаваны з поўначы вуліцай Ленінскай, да скрыжавання з поўдня з вуліцай Камсамольскай, участак вуліцы Ф. Энгельса, абмежаваны з захаду вуліцай Радзюка, з паўднёвага ўсходу - вуліцай 1-й Навапрудскай, вуліцу 1-я Навапрудская, якая з'яўляецца працягам з поўначы вуліцы Ф. Энгельса і абмежаваную з поўдня вуліцай Транспартнай вёскі Шайбакі Трацьцякоўскага сельсавета, прысвоіўшы ім і праектаванаму ўчастку магістральнай вуліцы, які злучае вуліцу Ф. Энгельса з вуліцай Перамогі, найменне **"проспект Победы"** - на рускай мове, **"праспект Перамогі"** - на беларускай мове;

1.2. участак вуліцы Ф. Энгельса, абмежаваны з поўначы вуліцай Савецкай, з захаду - вуліцай Радзюка, прысвоіўшы яму найменне **"улица Грюнвальдская"** - на рускай мове, **"вуліца Грунвальдская"** - на беларускай мове;

1.3. участак вуліцы Камсамольскай, размешчаны ў гістарычным цэнтры горада, абмежаваны з паўночнага ўсходу вуліцай Савецкай, з паўднёвага ўсходу - вуліцай Перамогі, прысвоіўшы яму найменне **"уліца Замковая"** - на рускай мове, **"вуліца Замкавая"** - на беларускай мове;










1.4. бульвар Чапаева, абмежаваны з паўночнага ўсходу вуліцай Перамогі, з паўднёвага ўсходу - вуліцай Труханава, прысвоіўшы яму найменне **"бульвар князя Гедимина"** - на рускай мове, **"бульвар князя Гедыміна"** - на беларускай мове.

2. Апублікаваць гэтае рашэнне ў "Лідскай газеце".

3. Гэтае рашэнне ўступае ў сілу пасля яго афіцыйнага апублікавання.

(С) "Лідская газета".

***Да 600-годдзя Грунвальдскай перамогі***

# Спеў пра Міхайлу Гілігінавіча*

Ціха, мірна ў Лідскім замку,
Ды наўкола грозна,
Сытна, цёпла ў Лідскім замку,
Ды вакол марозна.

Зноў кігічуць пудка чайкі
Над Варажскім морам,
Зноў збіраюцца крыжакі
Ды вялікім зборам.

Не паспела ўскаласіцца
Жыта на абшарах,
Не паспелі загаіцца
Раны на баярах,

Зноў вайна грукоча ў дзверы,
І няма спакою,
Зноў за дзіды і сякеры
Брацца талакою.

Ды краіна ўжо не тая,
І не тыя людзі,
І крыжакаў злая зграя
Болей іх не пудзіць.

Бо стаіць над стольнай Вільняй
Князь Вітаўт скалою,
І ад Жмудзі да Валыні
Грозна ўсталі воі,

Кіеў, Бранск, Смаленск, Чарнігаў -
Пад літоўскім сцягам,
Наўгародцы склалі ціха
Вітаўту прысягу.

Не кігічце ж вы там чайкі
Над Варажскім морам,
Не пужайце вы нас чайкі
Гібеллю і горам.

Як вам чайкі не лятаці
Над Літвы лясамі,
Так нас болей не спужаці
Чорнымі крыжамі.

* * *

Заклубіўся пыл далінай
Ды пад капытамі,
Што нясуць нам за навіну
Коннікі з мячамі?

Праз Вавёрку вершнік гоніць -
Меч над галавою,
Знак Літоўскае Пагоні
Ён нясе з сабою.

Да баярына Міхайлы
Панабеглі людзі:
- Божа, Божа! Што дзе стала?
- Божа, што дзе будзе?

Гілігінавіч-баярын
Выйшаў за вароты,
На высокі, гонкі явар
Кінуў зрок употай.

А той явар, як каменны -
Ліст не варухнецца:
- Так і мне трымаць нязменна
За Вітаўта сэрца.

Збор быў рупны, збор быў споры
Почата ў дарогу,
І, з жалеза ўздзеўшы ўборы,
Шыхт трымаўся строга.

Плачуць жонкі, плачуць дзеці,
Плача ўся Вавёрка:
- Вы куды, куды ідзеце?
- Горка нам, ой, горка.

- Мы ідзём у замак Лідскі,
Дзе збіраюць вояў,
А пасля за свет няблізкі
Біцца з немчурою.

- Рана плакаць вам, матулі,
Рана плакаць дзеці,
Бог магутны нас атуліць
Ад бяды і смерці.

- Мы ўсёй сілаю збяромся,
Каб было не мала,
Мы мячамі адаб’ёмся
Ад ліхой навалы.

* * *

Замак Лідскі, замак слаўны
Браму адчыняе,
Кашталян там пільна, спраўна
Вояў аглядае.

* **Міхайла Гілігінавіч** - ваверскі баярын, удзельнік Грунвальдскай бітвы. Адзіны вядомы рыцар Лідскай харугвы, які вярнуўся з-пад Грунвальда жывым. У 1413 годзе пабудаваў у Ваверцы касцёл.

Пазбіраліся баяры
Ад двароў і весяў,
Грозны воблік грозных твараў
З-пад шаломаў свеціць.

На Гародню воі тыя
Рушылі паходам -
Конна шыхты баявыя,
Слугі на падводах.

І ў Гародні не стаялі,
Каб задоўга вельмі,
Неўзабаве ўжо ступалі
На чужыя землі.

Поле бітвы ля Дуброўны
Выбіралі самі,
Тут да бою кожны роўны,
А пасля - Бог з намі.

Пад харугваю з Пагоняй
Ліда ўся стаяла,
Хутка-хуценька зазвоняць
Тут мячы па сталі.

Бой пачаўся, цэнтр грукоча,
Крыжакі пруць валам,
Адступаць ніхто не хоча,
Толькі сілы мала.

Да баярына Якуба
Мчыць ганец ад князя:
- Цэнтр закрыць, бо будзе згуба,
Перамесяць з граззю!

І рванулі ў бой лідзяне -
Лёс на Божых вагах,
Меч двувостры - вось твой шанец,
А яшчэ адвага.

Не хіснуліся тэўтоны,
Пруць далей таранам,
А ліцвінскія калоны,
Хто палёг, хто ў ранах.

Ад лідзян няма паловы,
Не хапіла долі,
Леглі буйныя галовы
На Грунвальдскім полі.

Ледзь-наледзьве выйшлі з бою,
Да ляска прастуюць,
Ну а там між рэдкіх хвояў
Зноў рады шыхтуюць.

Князь Вітаўт узрос на войнах,
Славу знаў, паразы,
Ды заплаціць ён тэўтонам
Сёння ўсё адразу.



***Панцырны баярын ВКЛ XIV ст.***
*Рэканструкцыя Ю. Бохана.*

Вось крыжакі ў табар лезуць,
Шыхту не трымаюць,
А ліцвіны з пералескаў
Поле заступаюць.

І як рынулі ў атаку
Грознымі шыхтамі,
Закруціліся крыжакі
На агні вужамі.

Сам магістр заўважыў гэта,
Рынуў на падмогу,
Ды ліцвін убачыў мэту,
Згледзеў перамогу.

Меў магістр даволі сілы,
А ліцвіны духу,
І глушылі, і валілі,
Церлі ў пацяруху.

Гілігінавіч Міхайла
Цэл, і жыў, і б'еццa,
Крыжакоў сякерай валіць
І мячом сячэцца.

Як з нябёс Святы Міхайла,
Ён тут Божай карай,
І нічога не трымала
Страшных тых udараў.

Ззяюць вочы грознай іскрай,
Перуном з-пад хмараў,
Вылятае на магістра
Waверскі баярын.

Што ж магістр магутны ў сечы
І бранёй пакрыты,
А Міхайла гахнуў мечам -
Падае забіты.

Грымнуў цяжка, бразнуў шолам,
Аб камень закрэсіў,
А Міхайла - тарчу з долу,
Да сядла прывесіў.

І памчаўся ў бітву далей,
Не сказаўшы імя,
І пра вычын яго зналі
Толькі між сваімі.

Летапісцы ўпішуць хітра
Ў вечныя аналы,
Што забіў таго магістра
Нейкі вой удалы.

І застанецца вякамі,
Рыцар безымянным,
Толькі мы то знаем з вамі,
Чый той вычын слаўны.

* * *

Бітва скончана цяжкая.
І вайна - за ёю.
Князь паволі адпускае
Да сядзібаў вояў.

І Міхайла наш прыехаў
У сваю Вавёрку,
Стаў для ўсёй радзіны ўцехай
Той хвілінай горкай,

Бо палегла надта многа
З ваверскай дружыны,
І глядзелі вельмі строга
На яго жанчыны.

Што ж жывым прыйшоў Міхайла
З той вайны цяжкое,
Богу дзякаваў нямала
Ён з нагоды тое.

І сказаў ён у Вавёрцы
Косцел будаваці,
Каб маглі там усе людцы
Бога шанаваці.

Як канец будоўлі бліжаў,
То тады памалу
Белу тарчу з чорным крыжам
Выцягнуў Міхайла.

Над дзвярыма ў тым касцёле
Добрымі цвікамі
Прыбівалі з Божай волі,
Каб яна вякамі

Тут вісела і казала
Злым і добрым людзям,
Што са злыднямі бывала
І што далей будзе.

* * *

Час сышоў. Няма Міхайлы.
І касцёл з гадамі,
Асядаў у дол памалу,
Абрастаў імхамі.

Крыж на тарчы з'ела сонца,
Тарча бляхай стала
І згубілася ў бясконцых
Войнах і навалах.

Не мінула ж, пэўна, нечых
Клапатлівых рук,
Высек засланку да печы
Ваверскі дзяцюк.

Часам здарыцца, сярдзіта,
Быццам незнарок
Тарча велькага магістра
Бразне аб гаршчок.

Загучыць тады заспалы,
Глухаваты звон,
Ды нікому пра Міхайлу
Не напомніць ён.

***Станіслаў Суднік.***

# Лідскія юбіляры 2010 года

**КРАЕЎСКІ Вільгельм** (9.04.1860-22.06.1905) адзін з арганізатараў шкляной вытворчасці на Лідчыне, у 1891 г. разам з Ю. Столе арандаваў шкляны заводзік Ленскага ў Магодзіна, у 1900 г. функцыянавалі два заводы "Нёман-А" і "Нёман - Б" з гадавой вытворчасцю 413 тысяч рублёў. Патануў у Нёмане. Жонка - Казіміра з Дамакоўскіх (03.1864 - 4.11.1921). Сыны: Уладзімір Краеўскі (18.11.1888-24.10.1931) і Едрус (1904-1910). Уся сям'я пахаваная на могілках паблізу в. Агароднікі каля Вашкевіцкага касцёла з заходняга боку.

**БУКАТКА Бярнард** (1910 ? -). **Вучыўся ў Лідскай гімназіі**. Жыл у Ваўкавыску. Удзельнічаў у вайне 1939 г. У пачатку 1941 г. пасля вызвалення з лагера ваеннапалонных у Нямеччыне прыбыў у Берлін, прымаў актыўны ўдзел у нацыянальным руху. З 1943 па 1945 гг. кіраваў Беларускім прадстаўніцтвам у Берліне, супрацоўнічаў з германскімі спецслужбамі. Адзін з ініцыятараў склікання ў Берліне з'езду Беларускага камітэта самапомачы (23.03.45). 21.01.45 уведзены ў склад БЦР, прызначаны загадчыкам адміністрацыйнага аддзела, аддзел у перспектыве павінен быў быць ператвораны ў Міністэрства ўнутраных спраў. Пасля вайны уцёк у Чэхаславакію. *(А.К.Салаўёў. Беларуская цэнтральная рада.Мінск, 1995, с.149).*




***Пліта з імем Вільгельма Краеўскага***

**БАРАНАВА** (у дзявоцтве Галаватая) **Наталля Пятроўна**. Нарадзілася 23 чэрвеня 1950 г. у г. Навазыбкаве Бранскай вобл. У 1960 г .сям'я пераехала ў Ліду. Пайшла ў першы клас у Лідзе. *( ЛГ. 27 сакавіка 2008 № 35 (11560).* Вучылася і скончыла СШ № 1. Класная В. Д. Івашына. Канфліктавала з фізікам. Усе класы скончыла на выдатна. У першы год не паступіла ў інстытут замежных моў. Працавала прадаўшчыцай, на абутковай фабрыцы, у райкаме камсамолу. Паступіла на другі год.

Ккандыдат педагагічных навук, дацэнт, рэктар Менскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта замежных моў (з 1995 г.). Член Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы.Член Рады па адукацыі ў Радзе Еўропы. "Менчанін 2007 года". Муж - нам. галоўнага лекара ў адной з менскіх клінік. Дачка - педагог, дзве ўнучкі.



**Наталля Баранава пра праблемы навучання замежным мовам у Беларусі.**

- Хачу заўважыць, што ў савецкай школе перад настаўнікам не стаяла задача навучыць вучня гутарковай мове. Галоўны акцэнт на ўроках замежнай мовы рабіўся на работу з тэкстамі: школьнікаў вучылі чытаць, перакладаць тэкст са слоўнікам, ну, і, зразумела, размаўляць. Але развіццё гутарковай мовы, падкрэслю, на першым месцы не стаяла. Аднак ішоў час, пашыраліся міжнародныя культурныя і дзелавыя кантакты, у многіх беларускіх прадпрыемстваў з'явіліся замежныя партнёры, беларускія навукоўцы ўсё часцей пачалі выязджаць за мяжу, актыўнымі тэмпамі пачаў развівацца турызм, таму і спатрэбіліся беларусам навыкі гутарковай мовы. Цяперашняя сістэма вывучэння замежных моў у школе арыентавана якраз на авалоданне камунікатыўнай кампетэнцыяй.

Але давайце разбяромся, што такое мінімум валодання замежнай мовай. У рамках агульнаеўрапейскіх падыходаў можна выдзеліць тры асноўныя ўзроўні валодання ёй. Першы ўзровень дазваляе наладзіць бытавыя зносіны. Гэта той самы мінімум, які не можа забяспечыць свабодны ўзаемаабмен думкамі ці прафесійныя зносіны. Авалоданне другім узроўнем гарантуе, што цябе зразумеюць і будуць меркаваць, што ты атрымаў добрую адукацыю. Няхай, і з некаторымі памылкамі, што ўласціва для ўсіх, хто спрабуе размаўляць на замежных мовах, але ты зможаш выкладаць свае думкі па ўсіх асноўных бытавых пытаннях і прафесійных тэмах. Аднак навучыць свабодна размаўляць выпускніка агульнаадукацыйнай школы, дзе замежная мова выву-

чаецца дзве гадзіны ў тыдзень, немагчыма Гэта пацвярджае не толькі беларуская, але і сусветная практыка. Каб пачаць размаўляць на замежнай мове, ёй трэба пастаянна карыстацца, неабходна падтрымліваць моўныя навыкі, але ў нас адсутнічаюць дадатковыя падтрымальныя магчымасці пры вывучэнні замежнай мовы. У сям'і замежная мова не гучыць. Жыццёвыя сітуацыі, у якіх бы шліфаваліся моўныя навыкі, для большасці з нас таксама вялікая рэдкасць. Менавіта па гэтай прычыне і падчас работы над новай канцэпцыяй вывучэння замежных моў у школе вялася размова аб стварэнні адпаведнага моўнага асяроддзя: гэта можа быць нейкі вучэбны тэлеканал, выпуск дзіцячых фільмаў на замежных мовах, выданне арыгінальных, але адаптаваных да магчымасцяў школьнікаў дзіцячых кніжак.

А што мы маем сёння на практыцы — усяго дзве акадэмічныя гадзіны ў тыдзень. Аднак і на школьным уроку дзіця не размаўляе, а, пераважна, слухае. За 45 хвілін настаўніку трэба папрацаваць і з лексікай, і з граматыкай, і з тэкстам. У прынцыпе авалоданне ў школе замежнай мовай на дастатковым камунікатыўным узроўні магчыма. У тых школах, дзе замежная мова вывучалася на павышаным ці паглыбленым узроўнях, усё больш аптымістычна, і гэта могуць пацвердзіць іх выпускнікі, у якіх няма праблем з наладжваннем зносінаў з равеснікамі падчас акадэмічных студэнцкіх абменаў ці паездак за мяжу. Калі дзіця займаецца замежнай мовай хоць бы тры разы на тыдзень, яго аператыўная памяць утрымлівае тое, што адбывалася на папярэднім уроку, плюс набытыя навыкі падмацоўваюцца падрыхтоўкай хатняга задання, і дзіця пакрысе пачынае рухацца наперад, а не таптацца на адным месцы. Гэта дае нам падставы сцвярджаць, што навучыць дзіця гутарковай мове ў сценах школы можна, але пры ўмове дабаўлення трэцяй гадзіны ў тыдзень, ці дабаўлення гадзін на вывучэнне замежнай мовы ў рамках факультатыўных заняткаў. У некаторых еўрапейскіх краінах на вывучэнне замежных моў адводзіцца да 40 працэнтаў вучэбнага часу.

**Наталля Баранава пра ранняе вывучэнне мовы.**

- У дзяцей адсутнічае псіхалагічны моўны бар'ер. Яны абсалютна натуральна ўспрымаюць замежную мову, і, наадварот, з узростам ім усё цяжэй адыходзіць ад граматычных і сінтаксічных структур роднай мовы. Дзеці без праблем пераключаюцца з адной мовы на іншую, калі гэтага патрабуе сітуацыя. У адрозненне ад дарослых дзеці не баяцца памыліцца, і ў гэтым іх перавага — яны больш хутка пачынаюць размаўляць. У дзяцінстве закладваецца інтуітыўнае адчуванне мовы. І чым раней яе пачынаеш вывучаць, тым прасцей яна даецца, тым раней ты пераходзіш на гутарковы ўзровень. У дзіцяці трэніруюцца адначасова памяць, інтэлект, фармуюцца камунікатыўныя здольнасці, павышаецца яго самаацэнка.

**Наталля Баранава пра беларускія падручнікі.**

- Вельмі крыўдна было яшчэ 8-10 гадоў таму мець справу з падручнікамі, у якіх было напісана: "Масква — сталіца маёй Радзімы". Масква — горад, бясспрэчна, блізкі ўсім, хто жыў у Савецкім Саюзе, аднак сталіца нашай Радзімы — Менск. Паколькі любы школьны прадмет выхоўвае патрыятызм і любоў да роднай культуры, мы імкнуліся да таго, каб напоўніць нашы падручнікі беларускай рэчаіснасцю. Неабходна, каб наш вучань пры размове з замежнымі аднагодкамі мог расказаць ім пра сваю краіну і яе культуру, пра гістарычныя помнікі і знакамітых людзей, пра родны горад ці вёску. Таксама ў падручніках абавязкова павінен прысутнічаць міжкультурны кампанент, які прадугледжвае ўключэнне інфармацыі пра гісторыю і традыцыі краіны, мова якой вывучаецца. Асноўная задача, якая вырашаецца аўтарамі пры падрыхтоўцы падручніка па замежнай мове, — арганізацыя моўнага працэсу такім чынам, каб ён садзейнічаў узаемаразуменню паміж народамі, носьбітамі іншых культур. Але тэксты абавязкова павінны адпавядаць узроставым асаблівасцям вучняў. Я скажу вам так: лёгка падручнікі крытыкаваць, але я асабіста вельмі ўдзячная людзям, якія рызыкнулі ўзяць на сябе адказнасць і напісаць першыя беларускія падручнікі. Многія з іх у хуткім часе ўжо будуць перавыдавацца і, напэўна, многія аўтары пажадаюць унесці ў іх нейкія карэктывы. Але першы, самы цяжкі, крок ужо зроблены. Больш за тое, на змену аднаму вучэбнаму дапаможніку ці падручніку прыходзяць цэлыя вучэбна-метадычныя комплексы, якія ўключаюць вучэбны дапаможнік, кнігу для настаўніка, рабочы сшытак і гукавы дапаможнік. Гэта найбольш правільны і сучасны падыход у вывучэнні прадмета.

**Наталля Баранава пра дамінаванне англійскай мовы і павышаны попыт на яе.**

- Я стаўлюся да гэтага факта як да аб'ектыўнай рэчаіснасці. Аналагічны працэс назіраецца ў многіх краінах свету: англійская мова выціснула ці выціскае там усе іншыя замежныя мовы. Гэта адбываецца па той прычыне, што англійская мова стала сусветнай мовай зносінаў, і з яе дапамогай можна вырашыць свае праблемы ў любой краіне свету, цябе паўсюдна зразумеюць. Таму бацькоў, якія імкнуцца да таго, каб іх дзеці авалодалі менавіта гэтай мовай, можна зразумець. Але памылкова думаць, што для нашай краіны перспектыўная толькі англійская мова. У нас наладжаны шырокія сувязі з Германіяй, таму нямецкая мова — вельмі запатрабаваная. Добрыя перспектывы мае іспанская і кітайская мовы. Увогуле еўрапейская моўная палітыка зыходзіць з таго, што сёння кожны дарослы адукаваны чалавек павінен валодаць сама меней дзвюма, а лепш трыма замежнымі мовамі. Адной з замежных моў абавязкова павінна быць англійская мова, другой — мова, якая запатрабаваная чалавекам з-за прафесійных ці жыццёвых абставінаў, і трэцяя — нейкая рэгіянальная мова. Для беларуса гэта могуць быць англійская, нямецкая і польская мовы ці англійская, нямецкая і літоўская мовы. Хачу заўважыць, што нашы выпускнікі, якія вывучалі польскую і турэцкую мовы, вельмі добра ўладкаваліся ў жыцці.

*Прапанова, выказаная Н. Баранавай па ўвядзенні трэцяй гадзіны замежнай мовы ў школе рэалізавана з 1 верасня 2010 г.*

# Памяць пра род Іваноўскіх у Старых Васілішках

## *Да 130-годдзя з дня нараджэння Вацлава Іваноўскага*

**ІВАНОЎСКІ Вацлаў Леанардавіч** (25.05.(7.06) 1880- 7.12.1943) нарадзіўся ў маёнтку Лябёдка Лідскага павету, цяпер Шчучынскага раёна. Доктар тэхналагічных навук (1909). Беларускі грамадскі і палітычны дзеяч.

Заснавальнікам лідскай галіны Іваноўскіх з'яўляецца Станіслаў Іваноўскі (1819-1900) - службовец канцылярыі Гарадзенскага дваранскага дэпутацкага збору і Гарадзенскай палаты дзяржаўных маёмасцяў. Пасля трох шлюбаў з мясцовымі шляхцянкамі: Антанінай Рыла-Быкоўскай (памерла ў 1852 годзе ў веку 35 гадоў), Каралінай Клімантовіч (памерла ў 1856 годзе) і Станіславай-Філяменай Губарэвіч становіцца ўладальнікам фальваркаў Лябёдка, Лябёдка Клімантовічаў, часткі маёнтка Галавічполь у Стара-Васілішскай воласці Лідскага павету (цяпер Шчучынскі раён) і бацькам траіх дзяцей: Марыі, Юзэфы і Леанарда.

Леанард Станіслававіч Іваноўскі (1845-1919) быў адзіным сынам Станіслава і Антаніны і пасля смерці маці стаў паўнапраўным уладальнікам Лябёдкі. Ён атрымаў добрую адукацыю: Віленская гімназія, Санкт-Пецярбургскі тэхналагічны інстытут (1868). Больш за дваццаць гадоў будаваў прамысловыя прадпрыемствы па ўсёй Расіі.

У 1874 г. Леанард Іваноўскі і яго сябар Вацлаў Карафа-Корбут — пабраліся з сёстрамі Ядвігай і Геленай Райхлёўнамі з ваколіц Пятркова. Але дзяўчаты не былі стопрацэнтнымі ляшкамі: іх бацька, Амон барон фон




***Мемарыяльная шыльда ў касцёле ў Старых Васілішках у памяць фундатараў касцёла Леанарда і Ядвігі з Рэйхеляў Іваноўскіх ды Алены з Рэйхеляў Карафа- Корбут.*** *Здымак С. Судніка.*



***Карціна ў касцёле ў Старых Васілішках, прысвечаная пабудове касцёла. Адзін з мужчыны злева - Леанард Іваноўскі. Карціна публікуецца ў беларускіх СМІ ўпершыню і патрабуе дадатковага вывучэння і апісання. Усе персанажы карціны рэальныя, да прыкладу, у Лідзе жывуць праўнукі і прапраўнукі арганіста (крайні справа).*** *Здымак Валерыя Сліўкіна.*

Райхель, паходзіў з Эльзаса, у мінулым — кадравы вайсковец, які пасля выхаду ў адстаўку купіў сабе маёнтак Замосце каля Пятркова, затое маці паходзіла з дому Хжаноўскіх з Трамбоўлі. Сёстры былі выхаванкамі курсаў прафесара Баранэцкага ў Кракаве і мелі добрую, як на тыя часы, адукацыю. Леанард атрымаў за жонкай у якасці пасагу частку маёнтка Райхеля над ракой Вальборкай каля Вальбромя. Але чужая старонка яго не вабіла. Ён прадаў гэтую зямлю і за выручаныя грошы павялічыў гаспадарку ў Лябёдцы.

Аднак і пасля жаніцьбы Леанард не асеў у Лябёдцы стала. Разам з жонкай ён вярнуўся ў Расію, пасля 1891 г. некалькі гадоў правёў у Варшаве, нарэшце, самае позняе ў 1899 г. уладкаваўся ў Пецярбургу. Тут ён дасягнуў вяршыні сваёй прафесійнай кар'еры: стаў праўдзейным дзяржаўным дарадцам, членам Тэхналагічнага камітэта Галоўнага акцызнага ўпраўлення і кіраўніком яго капітальнага аддзела, а таксама членам Дзяржаўнай Рады па справах харчовых прадуктаў.



***Правы край карціны.*** *Здымак В. Сліўкіна.*



***Левы край карціны. Адзін з мужчын у цывільным - Л. Іваноўскі.***
*Здымак В. Сліўкіна*

Леанард часта выязджаў за мяжу, добра ведаў некалькі моваў. Супрацоўнічаў з Дз. Мендзялеевым, разам з ім ездзіў у Лондан, дзе ў Каралеўскім Хімічным Таварыстве перакладаў на ангельскую мову яго даклад аб перыядычнай сістэме элементаў. Прафесійная кар'ера мела для яго надзвычайную прыцягальнасць, і толькі Першая Сусветная вайна прымусіла амаль 70-гадовага Леанарда адмовіцца ад дзяржаўнай службы і вярнуцца ў Лябёдку, на гэты раз — назаўсёды.

Леанард шмат сродкаў укладваў у Лябёдку. Пры яго непасрэдным і фінансавым удзеле пабудаваны касцёл у Старых Васілішках (1897-1903). У касцёле ёсць карціна, прысвечаная будаўніцтву касцёла. Паводле закрыстыяна касцёла на карціне паказаны Леанард Іваноўскі і, магчыма, Станіслаў Іваноўскі або барон Райхель. Імёны Леанарда і Ядвігі Іваноўскіх выбіты на мемарыяльнай дошцы, размешчанай злева пры ўваходзе ў касцёл. У касцёле захаваліся таблічкі на персанальных лаўках Іваноўскіх і Райхелеў. Імя барона Райхеля, брата Ядвігі Іваноўскай, устанавіць пакуль не ўдалося, а вось жонка яго хутчэй за ўсё - Фларэнціна Райхель, хрышчоная маці Юрыя Іваноўскага - старэйшага сына Леанарда. Па ўсім відаць брат Ядвігі, барон Райхель, з сям'ёй таксама жыў у Лябёдцы. Ёсць інфармацыя, быццам бы ён у 1915 годзе супрацоўнічаў з немцамі. Леанард з Ядвігай мелі пяць дзяцей:Юрыя (1876-1965), Вацлава (1880-1943), Тадэвуша (1882-1970), Алену і Станіслава (1887). Пра хрышчэнне ўсіх сыноў ёсць запісы ў метрычнай кнізе касцёла ў Старых Васілішках. Кожны з іх пражыў жыццё яркае і выдатнае.

Безумоўна, карціна ў Стара-Васілішскім касцёле залугоўвае прафесійнага вывучэння, не так шмат у нас свецкага манументальнага жывапісу ў храмах.

*Паводле кнігі Юрыя Туронка "Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі" ды матэрыялаў, сабраных Валерыем Сліўкіным і Станіславам Суднікам.*

# Іван Бірыла

## *110 гадоў з дня нараджэння*

***БІРЫЛА Іван Антонавіч** (1900, м. Голтна Менскай губ - 3.03.1945, Ліда). Хірург. Кандыдат медыцынскіх навук (1938). Закончыў медыцынскі факультэт БДУ (1927). Асістэнт хірургічнай клінікі Беларускага медыцынскага інстытута (1935), старшы навуковы супрацоўнік эксперыментальнай лабараторыі АН БССР. Удзельнік фінскай кампаніі. Вялікая Айчынная вайна заспела на адпачынку ў Друскеніках. Адыходзіў, пад Смаленскам патрапіў у палон. Вярнуўся ў Менск, дзе з сям'ёй жыў да вайны. Дом згарэў, загінулі матэрыялы доктарскай дысертацыі. З сям'ёй пераехаў у Ліду, пачаў працаваць у хірургічным аддзяленні лякарні для мясцовага насельніцтва. Перадаваў партызанам медыкаменты. **З траўня 1942 па 3 сакавіка 1945 г. жыў у Лідзе, пахаваны ў Лідзе**. Распрацоўнік методыкі ажыўлення шляхам артэрыяльнага нагнятання крыві ў сэрца. Упершыню ў свеце ва ўмовах клінікі прымяніў артэрыяльнае нагнятанне крыві для ажыўлення людзей, якія знаходзіліся ў стане шоку, агоніі, клінічнай смерці.*

***Дацэнт М.К. КУЗЬМІН***

## ПАТРЫЯТЫЧНЫ І НАВУКОВЫ ВЫЧЫН ХІРУРГА І.А. БІРЫЛЫ (1900-1945)

І.А. Бірыла нарадзіўся, у 1900 г. у мястэчку Голтна Менскай губерні ў сям'і рабочага*. Дзяцінства яго і гады вучобы працякалі ў вялікай галечы. Бачачы выдатныя здольнасці сына і яго любоў да ведаў, бацькі, каб даць яму магчымасць вучыцца, пераехалі ў Менск. Тут І.А. Бірыла скончыў рэальную вучэльню, а затым медыцынскі факультэт і ў 1927 г. пачаў працаваць сельскім лекарам.

З 1932 па 1935 г. І.А. Бірыла ўзначальваў міжраённае хірургічнае аддзяленне ў Слуцку.

У кастрычніку 1935 г. ён абраны асістэнтам хірургічнай клінікі Менскага медыцынскага інстытута.

У 1938 г. І.А. Бірыла паспяхова абараніў кандыдацкую дысертацыю "Артэрыяльнае ўліванне крыві пры шоку, агоніі і спыненні сэрца". Па прапанове праф. Ф.А. Андрэева, І.А. Бірыла першы ў свеце ва ўмовах клінікі ўжыў артэрыяльнае нагнятанне крыві з мэтай ажыўлення людзей, якія знаходзіліся ў стадыі шоку, агоніі і клінічнай смерці. Ён ажывіў 5 хворых з арганічнымі змяненнямі ўнутраных органаў, не сумяшчальнымі з жыццём, таму эфект ажыўлення быў недоўгачасовым.

У клініку паступіў хворы**, 55 гадоў, з дыягназам: правабаковы плеўрыт, сардэчная недастатковасць, асцыт. Адзначаліся аслабленае дыханне, пашырэнне межаў сэрца, задышка, асцыт, ацёкі ног і твара, пачашчэнне пульсу да 104 удараў у хвіліну. Крывепусканне, кісларод, сардэчныя сродкі не палепшылі стану хворага.

Запрошаны на 3-ці дзень да хворага хірург І.А. Бірыла заспеў яго ў стане прастрацыі. Рэзкі цыяноз твару і канечнасцяў, павярхоўнае дыханне, зрэнкі пашыраныя, пульс ледзь прамацваўся, на пытанні не адказваў. Хвораму была зроблена венесекцыя і выпушчана 200 мл крыві, праз 20 хвілін у правую локцевую артэрыю ўведзена 130 мл кансерваванай крыві першай групы



*І.А. Бірыла*

пад ціскам 160 мм рт. сл. Праз паўхвіліны хворы пачаў асэнсавана аглядацца, упэўнена адказваў на пытанні, назваў сваё прозвішча, адрас, пазнаў дачку, размаўляў з ёй, прасіў піць. Пульс палепшыўся, стаў больш роў-

* Карыстаемся выпадкам падзякаваць М. І. Давыдзенка, жонцы І.А. Бірылы, якая даслала нам біяграфічныя звесткі пра свайго мужа.

** І.А. Біры ла. Артэрыяльнае ўліванне крыві пры шоку, агоніі і спыненні сэрца. Хірургія, 1939, № 8, стар. 3-17.

ным, добрага напаўнення. У такім стане хворы знаходзіўся 2 гадзіны. Затым наступіла пагаршэнне. Хворы памёр праз 4 гадзіны.

Хворая, 56 гадоў, пакутавала крупозным запаленнем лёгкіх (пры ўскрыцці ўстаноўлена размягчэнне шэрага рэчыва мазгоў). Праведзенае 12/IV 1937 г. артэрыяльнае нагнятанне крыві дало часовы эфект. Праз 10 гадзін наступіла смерць.

Хворая, 70 гадоў, пасля праведзенай аперацыі знаходзілася ў атанальным стане. У выніку паўторнага артэрыяльнага нагнятання крыві па 200 мл у прамянёвую артэрыю быў дасягнуты часовы эфект. Праз 6 гадзін хворая памерла.

У хворай, 30 гадоў, пасля аперацыі (разліты перытаніт пасля прападной язвы страўніка) знік пульс. Праз 15 хвілін у прамянёвую артэрыю было ўведзена пад ціскам 200 мл крыві. Пульс 140 удараў у хвіліну. Праз суткі наступіла смерць ад перытаніту.

Пятаму хвораму кроў уводзілася ў правую плечавую артэрыю. Эфект таксама быў часовы.

І.А. Бірыла тлумачыць часовасць эфекту ажыўлення тым, што ва ўсіх хворых меліся арганічныя змяненні ўнутраных органаў, не сумяшчальныя з жыццём. Таму ён рэкамендаваў скарыстоўваць метад артэрыяльнага нагнятання крыві толькі ў выпадках смерці ад "вострага працэсу" пры здаровай сардэчнасасудавай сістэме.

І. А. Бірыла разглядаў аганальны стан і клінічную смерць "як аварачальны працэс" (1939).

Праца І.А. Бірылы прыцягнула ўсеагульную ўвагу. Ён быў запрошаны ў якасці старэйшага навуковага супрацоўніка ў эксперыментальную лабараторыю Беларускай акадэміі навук.

Пра метад ажыўлення людзей ва ўмовах клінікі І.А. Бірыла выступаў з дакладамі на паседжаннях навуковых таварыстваў, з'ездах хірургаў.

У 1939 г., калі пачалася вайна з Фінляндыяй, І.А. Бірыла арганізаваў брыгаду лекараў і выехаў на фронт, дзе яму і яго памочнікам з дапамогай метаду артэрыяльнага нагнятання крыві ўдалося ажывіць 5 параненых. Добры ўстойлівы эфект ажыўлення быў у 4 цяжкапараненых. Яны былі выпісаныя з палявога шпіталя праз 10 дзён у добрым стане. Нажаль, падрабязныя апісанні гэтых выпадкаў беззваротна загінулі, бо рукапіс доктарскай дысертацыі І.А. Бірылы згарэў у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Ацалелі толькі некаторыя запісы эксперыментальных даследаванняў на стужцы кімографа. Пасля вяртання ў Менск абарона доктарскай дысертацыі І.А. Бірылы была прызначаная на верасень 1941 г. Але пачалася Вялікая Айчынная вайна, і навуковец далучыўся да вайсковых частак, каб аказваць хірургічную дапамогу параненым байцам і камандзірам.

18/VII 1941 г. падчас цяжкіх баёў пад Смаленскам І.А. Бірыла паслаў ліст у Маскву Ў.А. Нягоўскаму, з якім ён пазнаёміўся незадоўга да вайны*:

*"Глыбокапаважаны Ўладзімір Аляксандравіч! Пішу са слабой надзеяй, што ліст патрапіць да Вас, бо і Вы, відаць, прызваныя ў шэрагі Арміі.*

*Калі Вас не прызвалі, то неабходна ажыццявіць арганізацыю хірургічнай групы па ўжыванні артэрыяльнага пералівання крыві, пра якую я з Вамі некалькі разоў гаварыў, быўшы ў Маскве. Сам я знаходжуся ў адным з палявых шпіталяў. Становішча і ўмовы працы не дазваляюць заняцца гэтым пытаннем.. Вашы меркаванні па гэтым пытанні прашу паведаміць мне".*

У адным з цяжкіх баёў І.А. Бірыла быў захоплены ў палон. Праходзячы праз родныя месцы Беларусі ў калоне ваеннапалонных, ён адстаў, быў збіты канваірамі, зваліўся. У несвядомым стане ўвечар каля ўзбочыны дарогі І. А. Бірыла быў падабраны сялянамі, якія даглядалі яго 4 месяцы. Наступствы кровазліцця ў мазгі паступова прайшлі.

У траўні 1942 г. І.А. Бірыла дабраўся да Менска, акупаванага нямецкімі войскамі. Дом, у якім ён жыў, згарэў. І.А. Бірыла змушаны быў пераехаць у Ліду, дзе ўзначаліў гарадскую лякарню і арганізаваў хірургічнае аддзяленне. Хлопчыку 6 гадоў ён зрабіў складаную аперацыю - штучны стрававод; лёс дзіцяці нам невядомы.

У 1944 г. І.А. Бірыла перанёс шырокі інфаркт міякарду; 8/Ш 1945 г. ён памёр ад паўторнага інфаркту. Навуковая спадчына І.А. Бірылы невялікая. Ён паспеў напісаць усяго 16 прац. Усе яны прысвечаныя праблеме ажыўлення.

Гарачымі прыхільнікамі метаду ажыўлення сталі савецкія навукоўцы Ў.А. Нягоўскі, С.С. Аведзісаў, У.А. Палякоў і інш.

У 1943 г. У.А. Нягоўскі ўзначальваў брыгаду лекараў, якія выехалі на фронт. У ваенна-палявых умовах яго брыгада ажывіла некалькі дзесяткаў цяжкапараненых, якія знаходзіліся ў стане цяжкага шоку, агоніі і клінічнай смерці. Устойлівае ажыўленне было дасягнута ў 12 выпадках.

Гвардыі шараговец У. Д. Чарапанаў, ажыўлены ў 1944 г., да цяперашняга часу жыве і працуе ў Дзяржынску Горкаўскай вобласці.

У пасляваенныя гады Лабараторыяй эксперыментальнай фізіялогіі АМН СССР пад кіраўніцтвам праф. У.А. Нягоўскага распрацаваны і перададзены ў практыку комплексны метад ажыўлення. Пры гэтай лабараторыі створаны Ўсесаюзны метадычны цэнтр па ажыўленні арганізму. Недалёка той час, калі кожны хірург будзе ў дасканаласці валодаць метадам ажыўлення людзей.

**ЛІТАРАТУРА:**

Бирилло І. А. Хирургия, 1939, № 8, стар. 3. - Бирилло І.А., Берман С.Ш. Там жа, 1941, № 6-7, стар. 50.

* Сардэчна дзякуем глыбокапаважанаму Ў.А. Нягоўскаму за прадстаўленую магчымасць працаваць у архіве лабараторыі і азнаёміцца з лістом І.А. Брылы.

*Артыкул дацэнта М.К. Кузьміна ў перакладзе на беларускую мову перадрукаваны з часопіса "Советская медицина" № 6 за 1962год, ст. 143-144.*

***Да 65-годдзя Перамогі***

# ЗАБЫТЫ

Пры падрыхтоўцы артыкула аб партызанскім атрадзе “Іскра” сустрэў у музейных фондах невялікі запіс: ***“3 сакавіка 1944 г. партызан атрада “Іскра” тав. Грынько Л.Л. падарваў чыг. круг на ст. Ліда. Затрымана 36 паравозаў на 48 гадзін”*** *(са спасылкай на Фонд 3617, воп.1, зв.1, спр.2, арк.159, у былым Партархіве).* Адклаў я тады гэтую цыдулку ў бок з сумневам. Такога партызана ў атрадзе “Іскра” не было, быў Пётр Лук’янавіч Грынько з в. Ганцавічы, у атрад ён прыйшоў у красавіку 1944 г.; 22 чэрвеня 1944 г. у складзе трэцяй роты ўдзельнічаў у баі каля в. Навіны *(Там жа, Ф.3618, воп.1, спр.3, стар.157).*

Прызнаюся, не паверыў: невядомы партызан з бомбай прабраўся ў ваеннай Лідзе на станцыю і падарваў паваротны круг - адно з галоўных прыстасаванняў чыгуначнай станцыі; ды за такое ордэнамі ўзнагароджвалі. А тут ні партызана, ні ўзнагарод.

Праз некаторы час патрапіў у рукі невялікі сшытак з успамінамі братоў Грынько - Пятра Лук’янавіча, Барыса Лук’янавіча і Веніяміна Лук’янавіча родам з в. Ганцавічы. Успаміны былі запісаныя ў 1973-75 гг. Барыс Лук’янавіч жыў тады ў Тальяцi, Пётр Лук’янавіч - у Брацку, а Веніямін Лук’янавіч - у Лідзе. Хтосьці з музейных супрацоўнікаў запісаў іх успаміны пры наведванні Лідскага музея.

Яны распавялі, што быў у іх брат Грынько Леанід Лук’янавіч 1923 г.н., пасля заканчэння сямігодкі жыў у Лідзе ў брата Барыса* каля лесагандлёвага склада. Барыс працаваў на чыгунцы машыністам, а Леанід - слесарам на элесктрастанцыі. *“Лёнька быў энергічным, таварыскім хлопцам, захапляўся тэхнікай, любіў майстраваць, быў добрым слесарам. Схільны быў падзівачыць, любіў спяваць, быў вясёлым хлопцам”.* Падчас акупацыі працаваў слесарам на электрастанцыі ў электрацэху. Ён нікому нічога не распавядаў і хаваў свой удзел у падпольнай дзейнасці. Аднойчы знайшлі на агародзе закапаныя гранаты, у другі раз сусед



***Леанід Грынько***

Сімаковіч пайшоў у адрыну даваць корм карове і знайшоў у сене гранаты. Ён прыйшоў да Барыса і сказаў, каб той папярэдзіў Лёньку, *“каб лепей хаваў”*.

*“Сябраваў Лёня з Сашам Клімко, якога ўсё клікалі Шуркам”*. Барыс успомніў, як яны абодва вучылі яго спяваць: «В далекий край товарищ улетает». Браты

***Грынько Барыс Лук’янавіч** у 10 раніцы 22 чэрвеня дазнаўся, што пачалася вайна. *“Сказалі: адпачываць няма калі, павядзеце цягнік у Ліду. Даехалі да Гаўі, нас разбамбілі. Адтуль па шпалах пайшлі ў Ліду. Прыйшоў у Ліду, усё гарыць, у дэпо - нікога. Справы асабістыя валяюцца проста на вуліцы. Знайшоў свае дакументы і пайшоў да бацькоў у Ганцавічы. Мае ўжо і не чакалі мяне жывым.*

*Бярозаўскі мост пры адступленні быў спалены. Уначы стукаліся і прасілі перавезці. У вёсцы многія перавозілі, я таксама перавозіў. Аднойчы мяне, бацьку і яшчэ 5 мужчын арыштавалі і павялі на ст. Нёман. Там паставілі каля сцяны і хацелі расстраляць, перакладчык растлумачыў: за перавоз салдат. Але солтыс в. Ганцавічы Шулейка паручыўся за нас. Усіх адпусцілі, акрамя мяне. Бацька таксама са мной застаўся. Мне перакладчык паказвае спіс, дзе маё прозвішча, і гаворыць, што мяне пасылалі вучыцца на камуніста (ездзіў на курсы машыністаў) і за тое, што я камуніст, расстраляюць. Я, вядома, гавару, што я не камуніст, і на камуніста наогул не вучаць, потым паказаў дакументы, мяне адпусцілі. Бацька мяне чакаў. Гаворыць: “Пойдзем”. А я з месца ссунуцца не магу. Тады Новак (паляк з Познані, працаваў на ст. Нёман, перакладчыкам), за рукаў мяне тузануў і гаворыць: “Уцякай хутчэй”. Мы з бацькам пайшлі дадому, а там плач стаіць. Неўзабаве я сыйшоў у Ліду, тут пачалі забіраць усіх машыністаў на працу, працаваць пачаў і я. Разам са мной у Ліду прыйшла мая каханая дзеўчына Галя Калясінская.”*

Грынько былі знаёмыя і з Леанідам Халявінскім, ён некалькі раз прыязджаў да іх у Ганцавічы. Нагадаю, што Аляксандр Клімко і Леанід Халявінскі - вядомыя лідскія падпольшчыкі.



***Пётр Грынько***

У траўні 1944 г. у хаце Клімко, па аповядзе Барыса Лук'янавіча, на гарышчы нешта падарвалася. Сашу Клімко і яго бацьку Аляксандра Сцяпанавіча назаўтра арыштавалі. Праз дзень на электрастанцыі арыштавалі Леаніда Грынько. Здарылася гэта 5 або 6 траўня. Старэйшы брат папярэдзіў Лёню, што Шурку арыштавалі. Лёня адказаў, што Шурка не выдасць, і раніцай, як звычайна, паехаў на працу на ровары. Больш яго сваякі і не бачылі.

Веніямін Лук'янавіч паведаміў, што пасля вайны гаварылі, быццам немцы ў турме перабілі Лёню рукі, таму што ён спрабаваў зрабіць адмычкі; а Шаронаў - уцякач з месца растрэлу падпольшчыкаў - распавядаў, што менавіта Лёня падаў каманду ўсім скакаць з машыны і ўцякаць. Сам ён быў моцна збіты, і ўцячы не мог. Другі шчаслівец, уцякач з-пад расстрэлу - І. Гарбачэўскі, сцвярджаў, што *"Хлопцы! Душы гадаў! За мной!"* крыкнуў Міхась Ліхарад.

Паводле звестак, што маюцца ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі, пра ўскрыццё магілы падпольшчыкаў, расстраляных 3 ліпеня 1944 г., напісана, што браты Грынько Лёню не апазналі. Але сястра Ірына Лук'янаўна Урбановіч (Грынько) сцвярджае: *"Брат Барыс ездзіў на апазнанне. па пінжаку пазнаў."*

Вельмі дзіўна, але Леаніда Грынько няма ні ў спісах расстраляных, ні ў спісах падпольшчыкаў, няма прозвішча Грынько і на помніку "Звон" на праваслаўных могілках.

У чым справа? Хлопец здзейсніў найбуйную дыверсію - падарваў паваротны круг, на двое сутак спыніў рух па чыгунцы - гэта пацверджана дакументацыяй атрада "Іскра". Ён быў у машыне, у якой 3 ліпеня везлі маладых падпольшчыкаў на расстрэл, магчыма менавіта ён прапанаваў уцякаць, што дазволіла чацвярым выратавацца. Пасля гэтага знік на доўгія 60 гадоў. Ніхто ні разу не згадаў яго ні ў артыкулах, ні ва ўспамінах. Упершыню ён з'явіўся ў кнізе "Памяць", як загінулы мірны жыхар в. Ганцавічы, і сёлета пра свайго брата Леаніда нагадала Ірына Лук'янаўна Урбановіч *("Лідская газета" ад 23 сакавіка 2010 г.)*.



***Колішняя хата сям'і Грынько ў Ганцавічах. Здымак 2010 г.***

Патэлефанаваў я Ірыне Аляксандраўне, і яна дапоўніла мае веды аб яе блізкіх сваяках. Была вялікая дружная сям'я. У Лук'яна Ігнатавіча і Надзеі Іванаўны Грынько было 7 дзяцей: Барыс 1919 г.н., Леанід 1923 г.н.., Пётр 1925 г.н., Ірына 1930 г.н., Веніямін 1932 г.н., Марыя 1935 г.н., і Георгій 1938 г.н.



***Ірына Лук'янаўна Урбановіч (Грынько). Здымак 2010 г.***

Леанід быў высокі, каржакаваты, прыгожы, вельмі здольны *(надта спасобны)*. *"Малы быў, сканструіруе што, діву даваліся. Ён ім (Клімко) міны рабіў. Калі не прыйшоў начаваць Галя, жонка Барыса, пайшла на электрастанцыю дазнацца, дзе ён прапаў, там адказалі, што яго ў Германію як добрага слесара забралі, а на самой справе пасадзілі ў турму, у падвал, дзе казармы 77 палка."*

Сям'я мела вялікую хату ў Ганцавічах. "Белыя" у 1944 годзе зладзілі ў хаце штаб. Пасля вайны за "супрацоўніцтва з АК" і за добрую гаспадарку Лук'ян Ігнатавіч як кулак і памагаты акаўцаў атрымаў 25 гадоў. На судзе не было прынята да ўвагі, што сын Пётр быў партызанам; сведкавыя паказанні пра Леаніда даў Шаронаў, які ўцёк з-пад растрэлу. Паказанні Сямёна Платонавіча Каламыцкага, партызана і старшыні сельсавета пераважылі, акаўцы расстралялі яго бацьку, маці і бабулю. Праз 7 гадоў Лук'яна Ігнатавіча вызвалілі, з прыпіскай: "Вярнуць усё канфіскаванае". Вялікае гумно да таго часу разабралі, а хату родавую вярнулі. Яна і зараз стаіць. Дзеці Марыі Лук'янаўны Бібліс выкарыстоўваюць яе як дачу. Падазраю, што расстралянага немцамі Леаніда Лук'янавіча Грынько забывалі наўмысна. Не мог быць героем "сын кулака" і "памагатага акаўцаў".

***Валеры Сліўкін.***

# «ХАЙ НЕ БУДУ АДКІНУТЫ НАВЕКІ»

## АДОЛЬФ КЛІМОВІЧ (1900—1970)

### Культурна-грамадскі і рэлігійны свецкі дзеяч, удзельнік беларускага хрысціянскага руху ХХ ст., палітык, выдавец, публіцыст

У самым цэнтры Клюшчанскіх могілак, непадалёк ад старога разгалістага клёна стаіць, крыху пахіліўшыся, высокая каменная пліта, на якой пабеларуску лацінкай напісана: “Інжынер Адольф Клімовіч. 1900–1970. Беларускі дзеяч-патрыёт. “У табе, Божа, паклаў я надзею, хай не буду адкінуты навекі. Te Deum Laudamus”.

Адольф Клімовіч. Калісьці гэтае імя было шырока вядомае беларускаму патрыятычнаму грамадству. А як жа! Інтэлігент еўрапейскай культуры, выпускнік Пражскага ўніверсітэта, адзін з лідэраў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, супрацоўнік Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры, таленавіты журналіст, рэдактар і выдавец. А яшчэ – нястомны барацьбіт за незалежнасць Беларусі, тэарэтык і практык нацыянальна-вызвольнага руху.

Ён нарадзіўся 5 траўня (па новым стылі) 1900 года ў вёсачцы Казаноўшчына Свянцянскага павету Віленскай губерні (цяпер – Астравецкага раёна Гарадзенскай вобласці).

Бацька, Юстын Клімовіч быў слынным на ўсю акругу кавалём. А маці Петрунэля… Вось з маці ў біёграфаў Клімовіча якраз праблемы – вядома, што яна працавала ў паноў Сволькенаў, але кім? Краязнаўца Янка Драўніцкі сцвярджае, што Петрунэля была бонай, г.зн. выхавальніцай панскіх дзяцей, і ў першым шлюбе была замужам за эканомам маёнтка Сволькенаў, што добра ведала французскую мову. Канешне, усё магчыма, але калі разважаць лагічна… Сволькены жылі ў Шайкунах толькі ў летні перыяд – асноўным месцам іх жыхарства была кватэра ў Вільні, дзе пан працаваў інжынерам (пра гэта расказвае ў сваіх успамінах іх зяць Далінскі), значыць, жонка эканома павінна была б кожную восень пакідаць свайго мужа ў адзіноце і ехаць услед за панскімі дзецьмі. І потым: пасля замужжа з эканомам выйсці за вясковага каваля – поўны мезальянс.

Так ці інакш, але адно вядома дакладна: Петрунэля ведала грамату і нават мела сваю бібліятэку (хаця ў той час у вёсцы бібліятэкай маглі лічыцца і 3-4 кнігі). Бацькі Адольфа пажаніліся, калі Юстыну было 43-44, а Петрунэлі – 34-35 гадоў. Праз год нарадзіўся сын, а яшчэ праз чатыры гады Юстын памёр ад раку. Да Петрунэлі некалькі разоў сваталіся, але яна адмаўляла – сэнсам і зместам яе жыцця стаў сын Адольф. Яму яна прысвяціла ўсё сваё жыццё.

Адольф закончыў пачатковую школу і ў 1914 годзе паступіў у Свянцянскае вышэйшую пачатковую навучальню. У выдатніках не хадзіў, затое ў цвёрдых “дабрыстах” – на працягу ўсёй вучобы. А на канікулах спяшаўся дамоў – касіць, баранаваць, нарыхтоўваць



дровы… І як бы за дзень ні даводзілася яму напрацавацца, па вечарах ён абавязкова ішоў на вясковыя вячоркі, дзе звінелі беларускія песні ды тупацела іскрыстая лявоніха.

У 1914 годзе пачалася Першая Сусветная вайна – Свянцянскі павет, як, дарэчы, амаль уся Віленшчына, апынуўся пад нямецкай акупацыяй. Праўда, Адольф Клімовіч паспеў 1 траўня 1915 года скончыць навучальню, атрымаць пасведчанне і вярнуцца дамоў. А ў Клюшчанах у гэты час пробашчам парафіі быў ксёндз Канстанцін Стэповіч, які, як вядома, арганізаваў пры касцёле хор, і на базе якога крыху пазней узнікла грамадскае аб’яднанне “Хаўрус сваякоў”. Мэтай арганізацыі было “выхаванне духу і цела”. Дзеля канспірацыі сябры “Хаўрусу” мелі свае псеўданімы і мянушкі. Да прыкладу, мастак Рамуальд Ракіцкі быў вядомы як Роміч, Віктар Смаленскі – як Лаўровы, Адольф Клімовіч – як Альфіч…

Да святкавання першых угодкаў хору быў прачытаны рэферат на тэму “Аб беларускай песні”. Яго напісаў кс. Стэповіч, а прачытаў Адольф Клімовіч. Нягледзячы на маладыя гады, Клімовіч усё больш набываў аўтарытэт здольнага арганізатара, актыўнага

прапагандыста беларускай культуры, кіраўніка навакольнай моладзі. У вольны час ён шмат займаўся самаадукацыяй. Аднойчы ксёндз Стэповіч параіў яму не спыняцца на дасягнутым, а працягваць вучобу далей, і нават паабяцаў матэрыяльную дапамогу.

Падчас нямецкай акупацыі Віленшчыны ўзнікла магчымасць стварэння беларускіх школ, але не хапала настаўнікаў, таму падчас Каляд 1915 года Кастусь Стэповіч арганізаваў кароткачасовыя настаўніцкія курсы, слухачом якіх стаў і Адольф Клімовіч. Зімой 1916 года ў Клюшчанскай парафіі адкрылася сем школ – у Казаноўшчынскай школцы настаўнічаў Адольф Клімовіч. Яны праіснавалі тры гады, а пасля былі зачынены польскімі ўладамі. Ксяндза Стэповіча перавялі вікарыем на Беласточчыну, але распачатая ім беларуская дзейнасць не спынілася. "Хаўрус Сваякоў" працягваў працаваць. Актыўным яго сябрам быў Клімовіч, які наладжваў святкаванні Калядаў, вёў заняткі ў беларускай школе, распаўсюджваў газеты і часопісы, ездзіў ў Вільню на сустрэчы з дзеячамі-адраджэнцамі. І ўвесь час ліставаўся з ксяндзом Стэповічам, які праз пісьмы раіў, што і як рабіць.

У пачатку 1918 года "Хаўрус сваякоў" атрымаў запрашэнне для ўдзелу ў рабоце Беларускай канферэнцыі, якая мелася адбыцца ў Вільні ў канцы студзеня. Мэта канферэнцыі: узгадніць дзейнасць беларускіх арганізацый, адпрацаваць асновы беларускага народнага прадстаўніцтва і пакласці першы камень пад будоўлю нашай дзяржаўнай будучыні. Вось на такі прадстаўнічы форум сваім дэлегатам клюшчанцы выбралі Адольфа Клімовіча.

Клімовіч застаўся ў Нова-Вільні, дзе працаваў на розных часовых работах. Наездамі бываў у Вільні, пазнаёміўся з рэдакцыямі газет "Гоман" і "Грамадзянін". У канцы года ён перабраўся ў Вільню. Працаваў спачатку карэктарам у Віленскім выдавецкім таварыстве, потым летам 1919 года вучыўся на Беларускіх настаўніцкіх курсах. У пачатку 1919 года пачалі разносіцца чуткі, што ў Вільні будзе адчынена беларуская гімназія – пра гэтую вестку Адольфу расказаў ксёндз Адам Станкевіч. Ён жа параіў хлопцу пайсці ў гімназію вучыцца. "Некалькі фармальнасцяў – і 20 кастрычніка 1919 года я ўпершыню пераступіў парог беларускай школы", – напісаў потым Адольф Клімовіч у сваіх успамінах.

Паспяхова здаўшы ўступныя экзамены, Адольф Клімовіч быў залічаны ў шосты клас "на падставе пасведчання аб сканчэнні поўнага курса Свянцянскай Вышэйшай Пачатковай навучальні". Усе гады вучобы ў гімназіі Адольф быў круглым выдатнікам, а яшчэ актыўным удзельнікам яе грамадскага жыцця. Дарэчы, у адным класе з ім вучылася будучая слынная паэтка Наталля Арсеннева.

25 чэрвеня 1921 года Адольф Клімовіч атрымаў атэстат сталасці і некалькі месяцаў настаўнічаў у адной з васьмі адчыненых у той час у Вільні беларускіх школ. У гэты час Клімовіч супрацоўнічаў з многімі перыядычнымі выданнямі, уваходзіў у склад беларускіх культурна-асветніцкіх арганізацый, часта сустракаўся з беларускімі культурнымі і грамадскімі дзеячамі. Падчас



***Адольф Клімовіч у Празе***

адной з такіх сустрэч Браніслаў Тарашкевіч прапанаваў яму ехаць вучыцца ў Прагу. У якасці своеасаблівага пропуску ў Чэхаславакію паабяцалі даць пасведчанне ад рады. Але пры гэтым перад Клімовічам паставілі дзве ўмовы: атрымаўшы адукацыю, ён павінен выдаць кнігу на беларускай мове і за свой кошт даць магчымасць вучыцца яшчэ аднаму суайчынніку.

У пачатку 1922 года Адольф разам са сваім аднакласнікам па гімназіі Алесем Сасноўскім выехаў з Вільні. У Чэхаславакіі яны спачатку жылі і займаліся на падрыхтоўчых курсах у Езафове – за 150 кіламетраў ад Прагі, а харчаваліся ў бясплатнай сталоўцы, якую адчыніў амерыканскі Чырвоны крыж. Здаўшы экзамены, хлопцы сталі студэнтамі Інстытута сельскай і лясной гаспадаркі Чэшскага тэхнічнага ўніверсітэта ў Празе.

І зноў не толькі вучоба цікавіць Клімовіча – ён з галавой акунаецца ў грамадскае і палітычнае жыццё. Становіцца сябрам Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый (АБСА), і нават сам арганізоўвае выданне газеты "Беларускі студэнт". З 11 лістапада 1927 года ён пачаў узначальваць Аддзел міжнародных зносінаў АБСА і да кожнага з'езду Міжнароднай студэнцкай канфедэрацыі выдаваць беларускі інфармацыйны бюлетэнь на французскай мове. Акрамя таго, Адольф неаднойчы выбіраўся ў склад кіраўніцтва АБСА, быў намеснікам старшыні, скарбнікам, сакратаром... Чалавек глыбока веруючы, ён актыўна супрацоўнічаў і з беларускімі рэлігійнымі арганізацыямі. Бачачы страшны канфесійны падзел беларускага народа, прыходзіў да высновы, што толькі аднаўленне уніі прывядзе да міру і хрысціянскай гармоніі ў грамадстве. Таму ён – пастаянны ўдзельнік уніяцкіх сходаў, канферэнцый, кангрэсаў.

Такая бурная дзейнасць Клімовіча выклікала не толькі павагу сярод студэнцтва і старэйшай беларускай

грамады, але і пільную цікавасць з боку органаў бяспекі Польшчы і бальшавікоў. Нездарма яго прозвішча часта згадваецца ў аналітычных запісках, тэзісах дакладаў, рэзалюцый пленумаў ЦК КП(б)Б, якія прысвячаліся дзейнасці беларускіх арганізацый за мяжой.

У Вільню Адольф Клімовіч вярнуўся 13 снежня 1928 года і… папоўніў шэрагі беспрацоўнай беларускай інтэлігенцыі. Польскім уладам не патрэбны былі беларусы з дыпломамі. Але Клімовіч не марнуе дарэмна час – аднаўляе старыя і заводзіць новыя знаёмствы ў Віленскай беларускай гімназіі, Беларускім студэнцкім саюзе, грамадскіх і палітычных арганізацыях. Наведвае Казаноўшчыну, Свянцяны. Часта бывае ў ксяндзоў Адама Станкевіча і Вінцэнта Гадлеўскага, наладжвае добрыя адносіны з Янкам Шутовічам, адным з будучых кіраўнікоў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры.



*Стаяць ксёндз АдамСтанкевіч і Адольф Клімовіч*

Неўзабаве Адольф Клімовіч становіцца даволі вядомым і аўтарытэтным дзеячам незалежніцкага кірунку. Беларускую хрысціянскую дэмакратыю (БХД) доўгі час узначальвалі дзве роўнавялікія постаці, два ксяндзы – Адам Станкевіч і Вінцэнт Гадлеўскі. Але ў канцы 1928 года віленскі арцыбіскуп Ялбжыкоўскі забараніў католікам, а тым больш святарам належаць да БХД і чытаць яе прэсавы орган "Беларускую крыніцу". Святары павінны былі адысці ад спраў – іх месца занялі людзі свецкія, сярод якіх быў і Клімовіч. У той час ён уваходзіў у склад кіраўніцтва БХД, БІГіК, з'яўляўся адным з заснавальнікаў Беларускага каталіцкага выдавецтва. У другой палове 1930 года ён выкладае ў Беларускай настаўніцкай семінарыі імя Францішка Багушэвіча, якая адчынілася ў Вільні.

Адольф Клімовіч становіцца адным з ідэолагаў і кіраўнікоў нацыянальнага кааператыўнага руху ў Заходняй Беларусі. Шмат піша на гэту тэму ў перыядычных выданнях. А ў канцы снежня 1933 года арганізоўвае завочныя Беларускія кааператыўныя курсы пры часопісе "Самапомач" – піша і высылае зацікаўленым свае адпаведна падрыхтаваныя лекцыі. Як працяг курсаў ён праводзіць "Месяц беларускай кааперацыі", у рамках якога прапануе ў кожнай вёсцы, мястэчку, хутары правесці супольныя чытанні беларускіх кніжак, часопісаў сельскагаспадарчай накіраванасці.

У 30-ыя гады Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры лічыўся адной з самых уплывовых арганізацый у Вільні, яго Віленскім аддзелам кіраваў Клімовіч. Ён выдаў шмат кніг сельскагаспадарчай і эканамічнай тэматыкі: "Пясчанае золата", "Землякробская чытанка", "Лекі на здзекі", "І культура, і палітыка"…

Але Адольф Клімовіч апантана працаваў яшчэ і ў структурах Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Сучаснікі лічылі яго правай рукой ксяндза Адама Станкевіча, прызнанага лідара беларускіх хадэкаў. Клімовіч актыўна ўдзельнічаў у з'ездах партыі, якія адбыліся ў 1931 і 1936 гадах. Як прадстаўнік гэтай партыі ўваходзіў у склад Беларускага нацыянальнага камітэта. Займаў там розныя пасады.

У 1935 годзе, як прадстаўнік ЦК БХД, Адольф Клімовіч разам з Янкам Шутовічам вёў перамовы з кіраўнікамі Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі наконт стварэння адзінага Народнага фронту, накіраванага супраць усё больш нарастаючай пагрозы поўнай фашыстызацыі краіны. Але жаданага выніку перамовы не далі.

У канцы 1936 года польскія ўлады спынілі дзейнасць Таварыства беларускай школы і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. У 1937 годзе рэпрэсіі супраць беларусаў працягваліся. Асабліва жорсткі шавіністычны наступ на ўсё беларускае пачаўся ў 1938 годзе. Але і ў такіх умовах беларусы працягвалі працаваць. 7 студзеня 1939 года на падставе дэкрэта прэзідэнта вядомыя сваёй антыпольскай дзейнасцю беларусы былі выселены з Вільні. Сярод іх аказаўся і Клімовіч. Разам з жонкай Веранікай ён выехаў на Беласточчыну. У Вільню вярнуўся у канцы кастрычніка 1939 года. І адразу ўключыўся ў грамадскую дзейнасць. Быў на прыёме ў прэзідэнта Летувы Сметаны, перамаўляўся з іншымі прадстаўнікамі летувіскай адміністрацыі. Тэма: адраджэнне беларускасці. Але ў палітыцы няма сяброў – ёсць інтарэсы. Літоўцы не аказалі падтрымкі беларускаму адраджэнню.

Нейкі час Клімовіч працаваў раённым аграномам у Зямельнай палаце, выдаваў і рэдагаваў аднаўленую беларускую газету "Крыніца".

З прыходам у Вільню бальшавікоў савецкія органы бяспекі пачалі арышты сярод беларускай інтэлігенцыі. Быў арыштаваны і Клімовіч – знаходзіўся пад арыштам з 12.07.1940 па 2.05.1941.

У канцы чэрвеня Вільню занялі немцы і пачалі ўводзіць свой новы парадак. Ключавыя пасады ў горадзе дасталіся літоўцам і палякам, якія беларусаў, як канкурэнтаў, няшчадна знішчалі. З мэтай абароны нацыянальных правоў паўстаў Беларускі Нацыянальны камітэт, сярод арганізатараў якога быў Клімовіч.

У канцы 1941 г. у Лідскай акрузе склалася нетрывальная для беларусаў сітуацыя. Усе пасады ў цывільнай адміністрацыі занялі палякі, яны стварылі гарадскую ўправу, паліцыю. Службовай мовай зрабілі польскую. Ва ўмовах вайны беларускае насельніцтва апынулася

пад падвойнай нямецка-польскай акупацыяй. У Лідзе з'явілася ініцыятыўная група, якая стварыла Беларускі камітэт. Старшынём камітэта вылучылі 40-гадовага інжынера Вячаслава Якубавіча Лаўскага. Ён меў вышэйшую адукацыю, скончыў інстытут у Празе (які - пакуль не вядома) і працаваў начальнікам Лідскага дарожнага кіравання. У склад Камітэта ўвайшлі будучы бурмістр Пінкевіч, натарыюс Кабычкін, рабочы Вяргейчык і былы студэнт Варшаўскага інстытута (якога - таксама не вядома пакуль) Пётр Рандарэвіч. Яны дабіліся ў немцаў афіцыйнага прызнання і нават атрымалі памяшканне.

Не маючы пісьменных людзей, Камітэт звярнуўся па дапамогу ў Віленскі Беларускі камітэт. Адольф Юстынавіч Клімовіч пагадзіўся з Вільні пераехаць у Ліду. Ён адабраў з віленскай беларускай інтэлігенцыі некалькі чалавек (5 або 6), і ў канцы кастрычніка на грузавой машыне Лаўскага яны прыехалі ў Ліду.

А. Клімовіч узначаліў Лідскі Беларускі камітэт. Дэлегацыя Камітэта адправілася да гэбітскамісара фон Ганвега. Ён і яго памочнік прынялі дэлегацыю. Пагадзіліся, каб у мясцовую адміністрацыю ўвайшлі прафесійна падрыхтаваныя і пісьменныя беларусы. Фон Ганвег прызначыў А. Клімовіча перакладчыкам у гэбітскамісарыят, Віктара Адамавіча Ярмалковіча (1917-97) - намеснікам бурмістра Лідскага гарадскога кіравання, трэцяга (не вядома каго) - перакладчыкам у Лідскае гарадское кіраванне, чацвёртага - школьным сакратаром. Акруговым школьным інспектарам да гэтага часу быў А. Макарэвіч - беларус з вышэйшай адукацыяй, старэнькі чалавек са слабым здароўем.

Гэта было сур'ёзнае пасоўванне ў беларускай справе. Да гэтага перамовы з фон Ганвегам вяліся праз фольксдойча які нарадзіўся ў Польшчы. Дзякуючы старанням Камітэта ў лістападзе 1941 г. у горадзе была адчыненая школа з беларускай мовай навучання. Кожны тыдзень у памяшканні Камітэта для насельніцтва чыталі лекцыі па гісторыі і беларускай літаратуры. Клімовіча ў гэбітскамісарыяце паважалі, гэбітскамісар фон Ганвег лічыўся з ім. Яму ўдавалася зрабіць многае для мясцовага насельніцтва: ратаваў арыштаваных, знішчаў даносы, абараняў чальцоў Камітэта. Ён выратаваў солтыса скрыбаўскай валасці Баума, той ехаў з Вільні ў Ліду ў цягніку, некаму з мясцовых палякаў не спадабалася, што ён размаўляе па-беларуску. Баўма спрабавалі задушыць, ён выхапіў пісталет і забіў нападніка. Быў арыштаваны жырмунскімі жандарамі, і толькі ўмяшанне А. Клімовіча выратавала яму жыццё. Па рэкамендацыі Клімовіча кіраўніком Лідскай электрастанцыі быў прызначаны інжынер-электрык беларус Маладжавы.

У студзені Лідскі беларускі камітэт быў пераtвораны ў Лідскі акруговы камітэт Беларускай Народнай Самапомачы. Адной з галоўных задач Камітэта была арганізацыя харчовай дапамогі галадаючым менчукам. Гэта дазволіла арганізаваць Камітэты Самапомачы ў раёнах і валасцях. Насельніцтва вёсак прывозіла збожжа ў Ліду, і адгэтуль збожжа накіроўвалася ў Менск. БНС з часам ператварылася ў культурна-гаспадарча -палітычную арганізацыю. У некаторых валасцях удавалася паставіць солтысамі мясцовых людзей.

Быў яшчэ нейкі таямнічы беларус з Гародні па прозвішчы Кіслы які працаваў у нямецкай выведцы. Ён стараўся дапамагаць Камітэту. У сакавіку 1942 г. з Менска прыехаў міравы суддзя Шыдлоўскі, справы ён разбіраў на беларускай мове, Віктар Ярмалковіч, пасаду якога ў гарадской управе ліквідавалі, перайшоў да яго практыкантам.

У канцы траўня 1942 г. Лідскую акругу наведаў краявы школьны інспектар з Менска ксёндз Вінцэнт Гадлеўскі. У Дакудаве ён сустрэўся з мясцовым насельніцтвам. Людзі сабраліся, як на вялікае свята. Праз тыдзень на ўправу валасці чырвоныя партызаны зрабілі напад. Управа валасці на чале з Паўлам Таўлаем - бацькам Валянціна была разагнаная, а 19-гадовы хлопец з Ліды Барысевіч забіты, яго пахавалі на праваслаўных могілках у Лідзе з надпісам "Загінуў за Бацькаўшчыну".

21 ліпеня 1942 г. былі забітыя Пётр Рандарэвіч - працаўнік раённай Шчучынскай управы і арганізатар Шчучынскага Камітэта БНС, настаўніка Павел Шляхтун і Грудскі.Забілі іх васілішскія паліцыянты. Акруговы Камітэт БНС запатрабаваў у гэбітскамісара замяніць краявую адміністрацыю беларусамі і афіцыйнай мовай зрабіць беларускую. Лідскі гэбітскамісар пайшоў на саступкі: бурмістрам Ліды быў прызначаны Пінкевіч, суддзёй у Шчучын - Віктар Ярмалковіч, замест Макарэвіча акруговым школьным інспектарам быў прызначаны Мікалай Іванавіч Дзямідаў (1888-1967). Паўсюдна ў школах была ўведзены беларуская мова. Раённымі школьнымі інспектарамі былі прызначаныя пісьменныя людзі з беларусаў. Увосень 1942 г. у Шчучыне была адчынена настаўніцкая семінарыя і Дом беларускай культуры. Лідская гарадская, раённыя і валасныя ўправы пачалі пераходзіць на беларускую мову.

Захады па перайманні кіраўніцтва беларусамі выклікала незадаволенасць у палякаў. Яны здолелі дамовіцца з нямецкімі кіраўнікамі Лідскай акругі. Гэта быў час, калі пачаўся партызанскі чырвоны рух. Немцы дапамаглі белым арганізавацца. Клімовіч прысутнічаў на сустрэчы фон Ганвега з кіраўнікамі АК. Белыя пракраліся ў краявыя ўправы, паліцыю і нават у гэбітскамісарыят і нямецкую паліцыю. Неўзабаве былі арыштаваныя працаўнік Акруговага Камітэта БНС Кучэйка і солтыс Дакудаўскай валасці Павел Таўлай. Але і пастаўлены ў такія неспрыяльныя палітычныя ўмовы Клімовіч выкарыстоўваў любы момант для легальнай і актыўнай беларускай дзейнасці. Зрэшты, не толькі легальнай – калі следам за бацькамі за сувязь з партызанамі гестапа арыштавала паэта **Валянціна Таўлая**, Адольф з рызыкай для ўласнага жыцця змог яго выратаваць.

У пачатку 1943 г. у Менску сабраліся кіраўнікі Камітэтаў БНС, у тым ліку А. Клімовіч, і запатрабавалі, каб немцы дазволілі арганізаваць беларускую дзяржаўнасць. Улетку 1943 г. пры генеральным камісары стварылі Краявую Раду Даверу, якая складалася з акруговых кіраўнікоў БНС. А. Клімовіч увайшоў у яе склад.

Аднак у Лідскай акрузе сітуацыя не змянілася. Палякі паступова перахоплівалі ініцыятыву. Белыя пачалі



***Першы з'езд акруговых кіраўнікоў Беларускай Народнай Самапомачы ў Менску ў 1942 г.***
***Сядзяць: Сымон Кандыбовіч, Рыгор Зыбайла, Вацлаў Іваноўскі, Наталля Арсеннева, Іван Ермачэнка, Галіна Вайтэнка, Юльян Саковіч, Адольф Клімовіч, Аляксандр Скурат.***
***Стаяць: Пецюкевіч, Жверблянка, Іван Касяк, Антон Адамовіч, Аляксей Сянькевіч, Часлаў Найдзюк, Антон Сокал-Кутылоўскі, д-р Вайтэнка, Канстанцін Якуцэвіч, Барыс Рагуля, Янка Гінько.***

рабаваць вёскі, збіваць сялян і страляць пісьменных беларусаў. У Лідзе застрэлілі бурмістра Пінкевіча, Кіслага, Канчука, старога Каратынскага. У канцы 1943 г. Дзямідаў склікаў маладых настаўнікаў, якія знаходзіліся ў небяспецы, і пасяліў іх у Лідзе. Нямецкая паліцыя пачала арыштоўваць не столькі падазраваных, колькі тых, з каго можна было садраць залатыя дзесяцірублёўкі. Сітуацыю ратавалі ўкраінскія залогі.

У канцы чэрвеня Адольф Клімавіч і Мікалай Дзямідаў прынялі ўдзел у Другім Усебеларускім Кангрэсе.

8-12 ліпеня 1944 года Лідская акруга была вызвалена ад нямецкай акупацыі. Клімовіч з'ехаў у Прагу.

14 жніўня 1952 года Адольф Клімовіч быў арыштаваны. Амаль адразу яго, "як асабліва небяспечнага беларускага буржуазнага нацыяналіста", перавезлі ў Маскву. Прайшоў усе кругі сталінскага пекла і 28 лютага 1953 года быў прыгавораны да вышэйшай меры пакарання – расстрэлу. Выкананне прысуду па нейкай прычыне адкладвалася, і, калі памёр Сталін, расстрэл быў заменены на 25 гадоў лагераў. З камеры смяротнікаў Клімовіч выйшаў белы, як снег, але ад сваіх перакананняў не адмовіўся. Пакаранне адбываў у Інце Комі АССР.

У 1956 годзе спецыяльная камісія Вярхоўнага Савета СССР перагледзела яго справу і не знайшла ў ёй складу злачынства. У верасні 1957 года Клімовіч выйшаў з лагера. Жыць у Вільні разам з сям'ёй яму забаранілі, і Клімовіч да 60 года жыве ў Барысаве, працуе арганістам у касцёле. Шмат піша ў розныя СМІ – аргументаваныя, палітычна і эканамічнаспелыя лісты на тэмы будучыні Беларусі. У адказ В. Таўлаю, які напісаў верш "Цені Сваяка", дзе, вырваўшы з біяграфіі Казіміра Сваяка некаторыя звесткі, пачаў выказваць бяздоказныя думкі, што наш паэт меў намер парваць з "ксяндзоўскай сутанай", якая перашкаджала яму ў жыцці, верны вучань свайго настаўніка Адольф Клімовіч кінуўся ў яго абарону: "Сваяка нельга чвярткаваць. Яго можна браць толькі цэлага. Інакш гэта будзе як крыўда, як здзек".

У 1960 годзе Клімовіч перабіраецца ў Вільню. Яго эканамічныя і арганізатарскія здольнасці тут таксама не патрэбны. Адольф ўладкоўваецца арганістам у касцёл на Звярынцы. Кола людзей, з якімі ў гэты час ён мае зносіны, невялікае: жонка Вераніка, паэтка Зоська Верас, мастак Пётр Сергіевіч, пісьменнік Фелікс Аніщчык… Перапісваецца з Ларысай Геніюш, Міколам Ермаловічам і інш.

У тыя, ужо далёкія 60-ыя гады Адольф Клімовіч у віленскім беларускім асяродку меў рэпутацыю чалавека энцыклапедычных ведаў і сумленнага, шчырага сэрца. Вось толькі друкаваць яго творы адмаўляліся, не існавала і трыбуны, з якой ён мог бы выступаць – дзяліцца сваім найбагацейшым досведам і ведамі. У апошнія гады жыцця працуе над біяграфічным слоўнікам беларускіх рэлігійных, культурных і палітычных дзеячаў.

24 лістапада 1970 года Адольфа Клімовіча не стала. Пахаваны ў адпаведнасці з яго апошняй воляй на могілках у Клюшчанах – побач з бацькам і маці.

***Паводле Мар'яна Дуксы,***
***Андрэя Вашкевіча і***
***Валерыя Сліўкіна***

# Пра першае каханне Валянціна Таўлая

Нядаўна сланімчанка Вера Кузьмінічна Кулак перадала мне вось гэты фотаздымачак. На ім адлюстраваны партрэт беларускага паэта Валянціна Таўлая. На адваротным баку здымка напісана: ***"На добрую памятку Тоні К. ад Валянціна Таўлая. Рудаўка. 19.VIII.1929 г."***.



Сам па сабе здымачак арыгінальны. Але ж паўстае пытанне: хто ж гэта такая Тоня К.? Што за прыгажуня, якой, ужо вядомы на той час паэт, дараваў свой фотаздымак і прысвячаў вершы, напісаныя ў Рудаўцы і ў Слоніме:

*Не гаруй — надарвеш толькі грудзі,*
*Без пары жаўрука не кляні:*
*Серабром аб замерзлыя груды*
*Жаўруковае сэрца звініць…*

Тоня К. — гэта дзяўчына з вёскі Рудаўка Слонімскага павету — Антаніна Кулак. Яна на 3 гады была старэйшая за Валянціна. У Рудаўцы прайшлі дзіцячыя і юнацкія гады Валянціна Таўлая. Там прыйшло да яго і першае каханне — Тоня Кулак. Чым жа ён запомніўся Антаніне Кулак? Чаму яна выбрала менавіта яго, Валю? Валя, так у вёсцы ўсе называлі Валянціна Таўлая, быў прыгожы, гаваркі, адукаваны. Ён вучыўся ў Віленскай беларускай гімназіі, а калі прыязджаў у Рудаўку, то прывозіў шмат навінаў, кніг, сябрам чытаў свае вершы. Валя быў завадатарам і арганізатарам моладзі. Яго слухалі, любілі, ішлі за ім.

Хлопцы і дзяўчаты з Рудаўкі і суседняй Вялікай Кракоткі, падахвочаныя Валянцінам Таўлаем, змагаліся за сваю беларускую школу, пісалі дэкларацыі, складалі заявы, а ў 1927 годзе заснавалі Вялікакракоцкую беларускую бібліятэку — асяродак нацыянальнага руху. Нездарма яны самі далі ёй імя Янкі Купалы. Гэта была першая ўстанова культуры ў Беларусі, якой было нададзена імя песняра беларускага народа. Яе наведвалі дзесяткі беларускіх пісьменнікаў, некалькі разоў у бібліятэку прыязджала жонка паэта Уладзіслава Францаўна Луцэвіч. На вялікі жаль, гістарычную Вялікакракоцкую бібліятэку імя Янкі Купалы ў 2008 годзе закрылі.

Антаніне Кулак свой фотаздымак Валянцін Таўлай падараваў 19 жніўня 1929 года. А 29 жніўня 1929 года ў слонімскай дэфензіве з'явіўся фотаздымак паэта з ганебнай арыштанцкай дошкай на грудзях. Валянцін, напэўна, прадчуваў арышт, таму і напісаў каханай дзяўчыне: "На памятку…" Але ў турме ён думаў пра каханую:

*Кожную ноч салавейка пяяў,*
*Зоры глядзелі ў вочы.*
*Дзе ж ты сягодня, дзяўчына мая?*
*Дзе ж вы, шчаслівыя ночы?..*

А вось як напісаў Мікола Арочка ў сваёй кнізе "Валянцін Таўлай" (Мн., 1969): "На мулкіх астрожных нарах малады паэт не знаходзіў сабе месца ад успамінаў пра "салаўіныя ночы" і дзявочыя рукі. Як шчасліва яму мроілася, калі ён зноў бачыў сябе з ёй, зграбнай, усмешлівай, самай прыгожай з усіх рудаўскіх дзяўчат — з Тоняй Кулак. Там, на волі, дзе, здавалася, яго ўсяго забірала праца падполля, усё ж хапала начэй і на "сцежкі ў жытным", на пяшчотную радасць быць поруч з ёй…".

Тоня кахала Валянціна. Але аднойчы так здарылася, што сям'я Антаніны Кулак пераехала ў вёску Вішава Слонімскага павету. Бацька яе Кузьма Андрэевіч Кулак працаваў на чыгунцы брыгадзірам будаўнікоў, таму прыходзілася мяняць месца жыхарства. Вёска Вішава даволі далёка знаходзілася ад вёскі Рудаўка, зусім у іншым канцы павету. Там, у Вішаве, да Тоні пасватаўся мясцовы юнак Віктар Бараноўскі. Бацькі пачалі рыхтавацца да вяселля і нават купілі дачцэ вэлюм. І раптам Тоня атрымлівае пісьмо ад Валянціна Таўлая, які прасіў яе не выходзіць замуж за Віктара. Прачытаўшы ліст ад свайго былога сябра, Тоня заявіла бацькам, што вяселля не будзе, што яна паедзе ў Рудаўку. І бацькі не пярэчылі дачцэ, а Кузьма Андрэевіч на возе неяк адвёз дзяўчыну ў Рудаўку…

Але пазней, лёсы Антаніны Кулак і Валянціна



Таўлая разышліся. У снежні 1932 года паэта з Савецкай Беларусі, куды ён перабег ратуючыся ад чарговага арышту, накіроўваюць у Варшаву для падпольнай работы. У дарозе Валянціна заўважылі шпікі, але яму ўдалося на хаду саскочыць з цягніка і да канца зімы хавацца ў гумне ў Рудаўцы. Тоні перадалі сябры, што Валянцін у Рудаўцы. Яна яго вельмі чакала, але каханы да яе чамусьці не прыйшоў. Чаму — застаецца загадкай: ці то баяўся арышту, ці то не хацеў падстаўляць дзяўчыну, ці была нейкая іншая прычына.

У 1933 годзе Антаніна Кулак выйшла замуж за Браніслава Гародку, які тады працаваў настаўнікам у Рудаўцы. Браніслава хутка мабілізавалі ў Войска Польскае. Ён ваяваў з немцамі, нават трапіў да іх у палон. Але потым яго з палону вызвалілі англічане. Пасля вайны Браніслаў Гародка на Слонімшчыну ўжо не вярнуўся, ён застаўся жыць у Польшчы ў горадзе Чэнстахова. У 1946 годзе да яго пераехала і жонка Антаніна Кулак.

Малодшая родная сястра Антаніны Кулак Вера, якая жыве ў Слоніме, сказала, што апошні раз яна наведала сястру ў Польшчы ў 1999 годзе. Як толькі ўвайшла ў яе кватэру, Тоня адразу спытала: "А ці прывезла ты кнігу вершаў Валі Таўлая?"…

Антаніна Кулак пражыла 89 гадоў. Яна ўсё жыццё кахала Валянціна і помніла пра яго. А ў сямейным альбоме захоўвала вось гэты фотаздымачак юнага Таўлая з аўтографам. І калі Валянціна ад'язджала на Беларусь, Тоня дастала з альбома гэты здымак і перадала яго сястры: "Вазьмі, Вера, гэты фотаздымак. Няхай ён вяртаецца на Беларусь, на бацькоўскую зямлю. Я яго тут берагла, няхай цяпер ён зберагаецца дома. Там ён не прападзе".

Вера абняла Тоню на развітанне і заўважыла, як з вачэй старэйшай сястры паліліся слёзы.

Першае каханне Валянціна Таўлая Антаніна Кулак памерла ў 2000 годзе і пахавана побач з мужам Браніславам Гародкам на могілках у Лодзі.

***Сяргей ЧЫГРЫН.***

**На здымках:** 1. Валянцін Таўлай, 1929 г. 2. Антаніна Кулак — першае каханне Валянціна Таўлая, 1930-я гады.

Валеры Сліўкін

# Да пытання аб лакалізацыі Дайнаўскага княства

6 ліпеня 1253 года на Вялікага князя Літоўскага Міндова (Міндоўга) і яго жонку Марту былі ўскладзены каралеўскія кароны. Міндоў стаў першым, адзіным і апошнім каралём Літвы. Акт каранавання здзейсніў кульмскі біскуп Хейдэнрык (Гейндрых, Гейдэнрэйх, Гедэнрых, Гайдэнрык) у прысутнасці магістра Лівонскага ордэна Андрэя Стырланда (Стырланта, Стукланда), прускага архібіскупа Альберта Заўэрбэра (Суебэра, Суербэра), прадстаўнікоў Тэўтонскага, дамініканскага і францысканскага манаскіх ордэнаў і літоўскіх нобіляў.

Пасля каранацыі Міндоў склаў дамову з братамі «Нямецкага дому ў Лівоніі». Пры заключэнні дамовы прысутнічалі *«пан Кульмскі біскуп, Андрэй, майстар памянёных братоў, і яго браты Андрэй, Ян чашнік, Сітэр стольнік і Тэадорык с Гасэндорпу, ад братоў прапаведнікаў Сіндэрам, ад братоў меншых Адольф і яго паплечнікі ды многія іншыя»*. Адбылася гэтая падзея *«у Летовіі на нашым двары, у год Пана MCCLIII (1253), у месяцы ліпені»*. У тэксце дамовы кароль падзякаваў братам Тэўтонскага ордэна і папе Інакенцію IV за каранаванне і будучую падтрымку ў барацьбе з нявернымі, падарыў Тэўтонскаму ордэну 12 земляў (7 - цалкам, 5 - напалову) і паабяцаў падтрымку супраць ворагаў. Тэкст дамовы напісаны на латыні, пераклад на беларускую мову ажыццявіў Алесь Жлутка: *«...мы са згоды нашых дзедзічаў перадалі іхняму дому на вечнае, вольнае і бяспечнае валоданне ніжэй названыя землі… Назовы ж земляў гэткія: Расейнаў (Rasseyene) палова, Лукава (Lukowe) палова, Бетыголы (Betegalle) палова, Айраголы (Eregalle) палова, Дайновы (Deynowe) палова, Кулені (Kulene) ўсе, Каршава (Karsowe) ўсё, Крожы (Crase) ўсе, Недарова (Nederowe) ўся, Вейжы (Weyze) ўсе, іншыя Вейсі (Weyse) ўсе, Вангі (Wange) ўсе»* (Міндаў кароль Літовіі, у дакументах і сведчаннях. 1.2)

## Зямля Дайноў

Упершыню ў афіцыйным дакуменце згадваецца зямля Дайноў (Deynowe). Менавіта на гэтую дамову 1253 г. спасылаюцца гісторыкі, калі ўспамінаюць Дайноўскае княства. Назвы пералічаных земляў даследчыкі дамоў Міндова ўпэўнена звязалі з сучаснымі селішчамі: Rasseyene - гэта Расейняй, Lukowe - Лаўкува, Betegalle - Бетыгола, Eregalle - Арыогала, Kulene - Калненай, Crase - Кражай, Karsowe - Каршува. Гэтыя сем селішчаў размешчаныя ў Жамойтыі на паўночны захад ад зліцця Віліі і Нёмана. Астатнія землі вызначаліся з некаторай доляй верагоднасці: Weyze - Віжайны ў Польшчы ля мяжы з Літвой, Weyse-Вейсеяй у Ладзіяйскім раёне Літвы, Wange - Вангай у Прэнайскім раёне Літвы, Nederowe - магчыма былая пруская зямля Надровія ў Калінінградскай вобласці. З нагоды Deynowe - меркаванні падзяліліся - гэта альбо Дайновішкяй у Лаздзіяйскім раёне Літвы, альбо Данова ў Сувалкіі, альбо ўся пруская зямля Дайнова.

Расеінаў, Лукава, Бетыголы, Айраголы, Дайноў перадаваліся Тэўтонскаму ордэну па дамове напалову, такім чынам, гэтыя землі прызнаныя памежнымі, а гэта, у сваю чаргу значыць, што зямля Дайноў у 1253 г. размяшчалася на заходняй мяжы каралеўства Летовія.

21 жніўня 1253 г. папа Інакенцій IV зацвердзіў перадачу земляў Нямецкаму Ордэну, у тым ліку і палову зямлі Дайнова (Dainowe): "*мы даведаліся, што найдаражэйшы ў Хрысце сын наш, найяснейшы кароль Летовіі… падараваў, як вы сцвярджаеце, вам і вашаму шпіталю землі Вангі і Коршава, а таксама палову мясцовасцей, якія папросту называюцца Дайнова і Расіёны, ды некаторыя іншыя мясцовасці і маёмасці, якія наколькі вядома, належалі яму. Таму мы, ...апостальскай уладай гэта завяраем і зацвярджаем моцай гэтага ліста.*" (Там жа, II.9.)

12 сакавіка 1254 *г. Міндоў*: *«добра параіўшыся з сваімі, прынялі вялебнага айца пана Хрысціяна, якога папрасілі высвяціць на біскупа нашага каралеўства, уводзячы яго ў дзяржанне, а таксама прызначаючы яму ж у трыманне палову Расейнаў, палову Бетыголы, палову Лукава, на вечную памяць пра гэтую справу мы далі зацвердзіць гэты ліст нашай пячаткаю. Учынена гэта ў прысутнасці і са згоды нашых сыноў Рэплі і Герстута, ды нашага вернага Парбуся». (Там жа,1.3 ).* Гэтым дарчым дакументам тры з пяці памежных земляў 1253 г., а менавіта палова Расейнаў, палова Бетыголы, палова Лукава, былі падораныя біскупу Хрысціяну. Айраголы і Дайнова ў дакуменце не згадваюцца, з чаго выцякае, што гэтыя дзве зямлі засталіся памежнымі.

Трэці раз зямля Дайноў згадваецца ў дамове Міндова з Нямецкім Ордэнам у Лівоніі ад 7 жніўня 1259 г. Гэтую дамову J. Latkowski (1892) і W. Ketrzynski (1907) лічылі фальсіфікацыяй. K.Maleczynski (1936) даказваў яе сапраўднасць. Калі гэта і фальсіфікацыя, то тых часоў, што дазваляе ставіцца да геаграфічных назваў мясцовасцяў і селішчаў як да дакладных. Па дамове 1259 г. Міндоў, быццам бы, саступіў крыжакам амаль усю Дайнову: "*...мы са згоды нашых дзедзічаў перадалі іхняму дому на вечнае, вольнае і бяспечнае валоданне ніжэй названыя землі, нічога не пакідаючы сабе з права ці юрысдыкцыі або ўлады на іх. ... Назовы ж земляў гэткія: Данова (Denowe) ўся, якую таксама некаторыя называюць Етвезь(Ietwesen) , з выняткам некаторых невялікіх земляў, а менавіта Сентаны (Sentane), Дзернаў (Dernen) і Крэсмаў (Cresmen), і вёскі, якая называецца Губініты (Gubiniten), з трыма*

*вёскамі ў Вельцаве (Welzowe), якія захоўваем у сваім валоданні. Звыш таго мы далі згаданым братам усю зямлю Скалову (Schalowen), усю Жамойць(Seymeten), з выняткам толькі тых маёмасцяў у самой Жамойці, якія мы перадалі вялебнаму айцу і пану біскупу Летовіі" . (Там жа,1.8.)*

W. Ketrzynski (1907) і H. Lowmianski (1932) лакалізавалі тры тапонімы з гэтай дамовы: Sentane - гэта Свентайна, Dernen - Дзярнова, Cresmen - Скаментна. Гэтыя селішчы знаходзяцца ў Польшчы ў паўднёвай частцы Судавіі, паміж Мазурскімі азёрамі і р. Бебжа.

Такім чынам, з тэкстаў дамоў 1253 і 1259 гг. вынікае, што зямля Дайноў (Дайнова) спачатку была падзеленая на дзве паловы, адна з якіх была падораная братам Тэўтонскага Ордэна ў Лівоніі, а праз 6 гадоў, магчыма, і другая палова, за малым выключэннем была перададзена ў іх валоданне. Зямля гэтая размяшчалася на заходнім памежжы каралеўства, у Судавіі.

Яшчэ раз зямля Дайноў згадваецца ў Салінскай дамове 1398 г., калі Вялікі князь Літоўскі Вітаўт у чарговы раз саступіў крыжакам палову Судавіі.

## Дайноўскае княства

Дайноўскае (Дайнеўскае) княства згадваецца ў "Летапісцы Вялікіх князёў Літоўскіх": *«А пятый брат Тройндень мешкал пры брате своем великом князе Нарымонъте. И доведался князь великий Нарымонт, што ж князи Ятвезъские померли, а люди их мешкают без господара. И князь Нарымонт поидеть на них. И они не противечыся поддалися и поклонилися ему. А так он, оставшы им господарем и вземшы их, дал брату своему Тройндену за вдел. И князь великий Тройдень наидеть гору красную над рекою Бебрею. И сподобалося ему там вельми и зарубил город иназоветь его Райгород, и прозоветься князем Ятвезским и Дойновъским»;* у Хроніцы літоўскай і жамойцкай: *"Тройден ятвиги, где теперь Подляше и* ***князство Дойневское****, доброволне собъ поданое, опановал, который, заъехавши з пригоды в пущу на ловы, нашол гору роскошную над Бобром ръкою, которой положене собъ уподобавши, збудовал Райгородок замок" (ПСРЛ. Т.32. М.1975, с.32)*; у хроніцы Быхаўца: *"Y kniaz weliki Troyden nayde hora krasnu nad rekoiu Bebroju, y spodobalosia jemu tam welmi, y zarubil horod, y nazowet ieho Rayhorod, y prozowetsia welikim kniazem jatwizskim y doynowskim" (Там жа, с. 135)*. Беларуска-літоўскія познія хронікі сходзяцца ў тым, што быў такі князь Трайдзень, што без бітваў і гвалту "апанаваў" ён тэрыторыю яцвягаў і дайноўцаў; што яцвягі жылі ў Падлессі, побач размяшчалася княства Дайноўскае; на тэрыторыі яцвягаў над ракой Бабёр Трайдзень знайшоў гару, на гэтай гары пабудаваў Райгорад і стаў князем яцвяжскім і дайноўскім.

Сучасны Райгорад з Замкавай гарой размешчаны ў Польшчы ў Падляскім ваяводстве, у Граеўскім павеце, за 24 км ад Аўгустова на беразе Райгародскага возера. Трохі на поўдзень працякае р. Бабёр - Бебжа папольску - правы прыток Нарава. На паўднёвы захад ад Райгорада за 10 км размешчана вёска Данова і крыху далей яшчэ адна в. Данова. Мясцовыя краязнаўцы лічаць, што ў сярэднія стагоддзі на востраве, дзе ўзвышаўся груд, яцвягі заклалі ўмацаваны горад Рай. Горад быў галоўнай рэзідэнцыяй яцвяжскага племені злінцаў. Ахоўваў ён гандлёвы шлях, які вёў з Мазовіі ў глыбіні яцвяжскіх земляў. Горад меў вялікае значэнне, яго неаднаразова заваёўвалі, спальвалі і зноўку адбудоўвалі. Каля 1290 года быў заняты князем літоўскім Нарымунтам, і з таго часу за горадам замацавалася назва Райгорад.

Адзначым супярэчнасць паміж тэкстам дамовы 1259 г. і беларуска-літоўскімі хронікамі. У дамове Данова - зямля, *"якую таксама некаторыя называюць Етвезь (Ietwesen)"*, у хроніках - князь Трайдзень быў князем яцвяжскім і дайноўскім. Супярэчнасць дазволіла даследчыкам раздзяліцца ў меркаваннях, адны лічаць, што Данова і Яцвягія -сінонімы, іншыя, што гэта дзве розных тэрыторыі - Яцвягія і Дайнова, на якіх пражывалі розныя прускія плямёны - яцвягі і дайноўцы. Меркаванняў у сапраўднасці яшчэ больш, напрыклад: яцвягі - агульная назва прускіх плямёнаў; дайнова - літоўская назва яцвягаў.

Нягледзячы на наяўныя супярэчнасці відавочна, што ў другой палове 13-га стагоддзя зямля Дайноў і Дайноўскае (Дэйноўскае) княства знаходзіліся на заходняй ускраіне Вялікага Княства Літоўскага ў Сувалкіі (цяпер Падляскае ваяводства Польшчы).

## Сцвярджэнне Т. Нарбута

Але, як гэта нярэдка здараецца, знайшоўся аўтарытэтны гісторык, які меў свае меркаванні з нагоды месцазнаходжання Дайноўскага княства. Тодар Нарбут, апісваючы вельмі сумніўны паход легендарнага вялікага князя Скірмунта ў 1160 г. на князя ўладзіміра-валынскага Мсціслава Ізяслававіча, перамогу ў бітве з рускімі над берагам Ясельды, здабычу Пінска і Турава: *"zkad przyniosl trofea zwycieztwa i radosne wiesci ojcowi swojemu do Dziewialtowa - адкуль прынёс трафеі перамогі і радасныя весткі бацьку свайму ў Дзяволтве";* завяршыў абзац цалкам нечаканай фразай: *"Do tej lub blizkiej epoki odnosi sie przylaczenie stale do Litwy Xieztwa Dejnowskiego, dzis czesc wschodnio-poludniowa powiatu Lidzkiego. - Да гэтай, альбо блізкай эпохі адносіцца поўнае далучэнне да Літвы Княства Дайноўскага, цяпер паўднёва-ўсходняя частка Лідскага павету" (Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T.3. S.298.)*

І затым некалькі раз упарта паўтарыў гэтую думку ў 4 і 5 тамах сваёй "Гісторыі літоўскага народа": *"w roku 1234 Rus, polozona miedzy Dzitwa i Pelasa, z jednej, a Niemnom z drugiej strony, od ujscia Gawii do ujscia Kotry, juz zaczela nalezec do Wielkiego Xieztwa Litewskiego, nie mniej Dejnow, Lida, Dabrowna i po rzeke Zyzme, jak dopiero jest granica miedzy powiatami Lidzkim i Oszmianskim. = ... у 1234 г. Русь, размешчаная паміж Дзітвой і Пелясой, з аднаго, і Нёманам з другога боку, ад вусця Гаўі да вусця Котры, ужо пачала належаць Вялікаму Княству Літоўскаму, уключаючы Дайноў, Ліду, Дуброўну і па рацэ Жыжме, як зараз ёсць мяжа*

*паміж паветамі Лідскім і Ашмянскім" (T.4. S.74)*

*"Byl on razem Xiazeciem Dojnowskim, ...wydzial ten od Dojnowa, znajotej wlosci dotad, w powiecie Lidzkim, nazwany, skladaly parafie tego powiatu Ruskie, gdyz czesc Peluzyi, czyli parafie Litewskie". "Dojnaw, czyli jak dzis pisza Dejnow, lezy nie daleko Lidy i Myta. = Быў ён адначасова князем Дайноўскім,* (гэта пра Трайдзеня) *... названы ад Дайнова, вядомай воласці дагэтуль, у павеце Лідскім, парафіі гэтага павету былі рускія, у той час як частку Пелюзыі складалі парафіі літоўскія. Дайнаў, або як сёння пішуць, Дэйнаў, ляжыць недалёка ад Ліды і Мыта" ( T.4. S. 285).*

*"To miejsce, po zawojowaniu Xieztwa Dejnowskiego, okolo r. 1180, w ktorem lezalo, jest osada litewska; poniewaz Lida, znaczy trzebiez, pole z lasu oczyszczone.= Гэтае месца, пасля заваёвы Княства Дайноўскага, каля 1180 года, у якім нахадзілася, ёсць селішча літоўскае; таму што Ліда, азначае парубка, поле, ачышчанае ад лесу"(T.5. Dodatki ... S.1).*

Дзякуючы гэтым нічым не пацверджаным фантазіям Т. Нарбута Дайноўскае княства аказалася лакалізаваным на Лідчыне, а горад Ліда, як пачалі пісаць у некаторых энцыклапедыях, з'явіўся ў 12-м стагоддзі.

Павінен адзначыць, што Т. Нарбут быў знаёмы з тэкстам дамовы Міндова з Нямецкім Ордэнам 1259 г. (T.1У Dodatki. s.15) і з літоўска-беларускімі хронікамі. Следам за тэкстам Хронікі літоўскай, ён піcаў: *"Wielki Xiaze Litewski Narimund, okolo roku 1268, wtargnal z wojskiem do Podlasia Jadzwinskiego i przymusili narod do przyjecia pana z reki swojej wyznaczonego. Byl nim Trojden, brat Narimunda rodzony, ktory zostal xiazeciem Jatwezkim i Dojnowskim, z obowiazkiem ulegloscі Wielkiemu Xiazeciu Litewskiemu i placeniem pewnej daniny. Ten Xiaze zbudowal zamek Rajgrod, pojal xiezniczke Mazowiecka za zone. = Вялікі князь Літоўскі Нарымунт, каля 1268 г, уварваўся з войскам у Яцвяжскае Падлессе і прымусіў народ прыняць гаспадара ад рукі сваёй прызначанага. Быў ім Трайдзень, родны брат Нарымунта, які стаў князем Яцвяжскім і Дайноўскім, з абавязальніцтвам падпарадкаванасці ВКЛ і выплаты вызначанай даніны. Гэты князь пабудаваў замак Райгорад, і ажаніўся з мазавецкай князёўнай..." (T. 2, S. 189).*

## Паслядоўнікі

За Т. Нарбутам рушылі ўслед I.Iaroszewicz (1844): *"Дэйна - гэта цяперашняя Дайнова, пасял. на захад ад Ліды"*; Н.П. Барсаў (1873, 1885): *«Область Денова находилась между Неманом и Вилией, по притокам Немана, Меречанки, Дитве и Жижме, в теперешних уездах Лидском, Ошмянском и в южной части Виленского, и, может быть, Вилейского. Здесь до сей поры находятся несколько населенных мест, сохранивших древнее областное название. Нам известны - по р. Меречанке и ее притокам: Дойнова и Дойновка к югу от Медников (верстах в пяти), Дайнова на юго-запад от них (верстах в двадцати), Дайнишки и Дайнова на р. Сольче, Дейново на юг от Сольчи (все в Вилейском уезде); по Дитве - Дойново к западу от Лиды верстах в пяти; по Жижме; Дайнувка у верховьев ее на Виленско-Ошмянской границе, Дайновка ниже Германишек; два селения Дайнова, между Жижмой и Ольшанкой, к северо-востоку от Лиды. Сверх того, подобноименные селения встречаются и в южной части Ошмянского уезда, на Минской границе, в области Неманского притока Березины: Дойнова Большая и Дойновка на речке Пурвиле»*; А.Кіркор (Живописная Россия, 1882): *«Древнъйшая же столица Дейновцевъ, Дейново, въ 15 верстахъ от Лиды, нынъ небольшая деревня. Дейновское княжество существовало еще въ начале XIII столътия.... В Дейновъ сохранился большой камень, который народъ называет кобылкою, ибо, по преданію, на нем казнили преступниковъ*"; Э.А. Вальтэр (1893, Энциклопедия Брокгауза): *«Дейновское княжество XII в. находилось в пределах нынешнего Лидского у. Виленской губ. Около фольварка Дейнова (близ р. Дзитва) заметны следы замка и города, который был главным в Д. княжестве. Сохранился большой камень, называемый "кобылкой", на котором, по преданию, казнили преступников»*; Ф.В. Пакроўскі (1893) і інш.

Сцвярджэнне Т. Нарбута, дзякуючы гэтак аўтарытэтнай падтрымцы даследчыкаў, большасць з якіх былі хутчэй літаратарамі, чым гісторыкамі, дажыло да канца мінулага стагоддзя: *"Дайноўцы – нашчадкі яцвяжскага племя, што жылі на правым беразе Нёмана. У 13-14 ст. мелі княства, якое займала тэр. паміж Нёманам (правыя прытокі Дзітва, Гаўя з р. Жыжма) і Віліяй. Упершыню княства ўпамінаецца пад 1259 у грамаце Міндоўга. З 1260-х гадоў дайноўцы, страціўшы сваіх князёў, запрасілі да сябе кн. Трайдзеня. З цягам часу асіміляваліся большасцю ў беларусаў, астатнія – у літоўцаў" (ЭГБ. Том 3. 1996. с.195).*

Пад канец 20-га стагоддзя абазначылася пераняcенне Дайноўскага княства на паўночны захад ў ніжнюю плынь р. Меркіс: *«Дайнава (Дайнова), гіст. вобласць у Літве і на Пн-З Беларусі. Упершыню ўпамін. у 1255 у грамаце Міндоўга крыжакам (магчыма, падробленай). Першапачаткова ўяўляла сабой, напэўна, тэрыторыю аднайменнага заходнебалцкага (яцвяжскага) пляменнага княства, якое ў 2 пал. 13 ст. увайшло ў склад ВКЛ і было паступова асіміліравана на Пн літоўцамі, на Пд - беларусамі... Асноўная тэрыторыя Д. ахоплівала правабярэжжа Нёмана на Пн - У ад Гродна, у ніжнім цячэнні р. Мяркіс (суч. Варэнскі р-н Літвы) і прылеглых частках суч. Гродненскага, Шчучынскага і Воранаўскага р-наў, адкуль адбывалася рассяленне далёка на Пд (нават на левабярэжжа Нёмана) і на У. У 15 ст. і пазней большасць гэтага абшару займала слабазаселеная Дайнаўская пушча» (Беларуская энцыклапедыя. Т. 6. Мінск, 1998. С. 11).*

У часы сённяшнія - у другім томе кнігі "Вялікае Княства Літоўскае" У. Пазднякоў, сабраўшы ўсе звесткі аб Дайноўскім княстве, пакінуў пытанне адкрытым.

Такім чынам, існуе замацаванае ў гістарычнай літаратуры пераканнанне, якое базуецца на галаслоўным сцвярджэнні Т. Нарбута аб размяшчэнні Дайноўскага княства паміж Лідай і Мыто ў Лідскім павеце. Ніякіх фактаў, якія гэта пацвярджаюць, акрамя назвы вёскі і

зніклай кабылкі, няма. Больш за тое, яно супярэчыць дакументам XIII стагоддзя. Сумневы і спрэчкі аб месцазнаходжанні Дайнаўскага княствы даўно страцілі б сэнс, калі б не тапонімы Дайнава і невялікі артыкул акадэміка В.В. Сядова.

## Меркаванне акадэміка Сядова

В.В. Сядоў у працы "Яцвяжскае племя Дайнова" пацвярджае выяўленае раней Т.П. Барсавым і А. Камінскім адпаведнае засяроджванне тапонімаў вытворных ад Дайнавы і прыводзіць карту, на якой відаць, што 80% іх канцэнтруюцца на міжрэччы Віліі і Нёмана (мал. 1).

Тут жа ў басейнах рэк Мерач, Дзітва, Гаўя В.В. Сядоў выяўляе раён шырокага распаўсюджвання каменных магілаў 13 -14 стагоддзяў (мал. 2). Ён звяртае ўвагу на наступныя моманты:

1. У канцы XII і ў XIII ст. у міжрэччы верхняга Нёмана і Віліі на змену каменным курганам прыходзяць каменныя магілы.

2. Пахаванні ў каменных магілах здзяйсняліся па абрадзе інгумацыі (трупапакладання).

3. Рэчавы матэрыял каменных курганоў з трупапакладаннямі і каменных магілаў аднатыпны.

Зыходзячы з падабенства каменных курганоў і каменных магілаў, аднатыпнасці іх рэчыўнага складу В.В. Сядоў сцвярджае, што каменныя магілы на гэтай тэрыторыі з'яўляюцца эвалюцыяй каменных курганоў і належаць да адной этнічнай групы насельніцтва. Выснову ён робіць адназначную: *"Каменныя магілы засяроджаны ў тых раёнах міжрэчча Віліі і Нёмана, дзе выяўляецца канцэнтрацыя тапонімаў тыпу "Дайнова" і дзе, паводле паданняў, знаходзілася Дайноўскае княства."*

## Тапонімы *Дайнава*

Сапраўды, селішчаў з назвай вытворным ад Дайнава (Дэйнова, Дайнова, Дайноўка, Дайнуўка, Дайнішкі) - больш за сорак. На тэрыторыі сучаснай Літвы А. Камінскі налічыў 28, у Гарадзенскай вобласці ў цяперашні час -10. У межах Лідскага павету ў пачатку




**Рис. 4. Карта распространения топонимов типа «Дейнова»:**

*1* — топонимы Дейнова, Дейновка, Дейновщизна, Дайнова, Дайновка, Дайновская; *2* — топонимы Данова, Дановка, Дановски; *3* — местоположение столицы Дейновского княжества (по преданиям); *4* — северная, восточная и южная границы расселения ятвяжских племен (по данным гидронимики и археологии); *5* — ятвяжско-прусская и ятвяжско-галиндская границы (по А. Каминскому)




**Рис. 5. Карта распространения каменных могил Верхнего Понеманья (древности Дейновы XIII—XV вв.):**

*1* — каменные могилы; *2* — ареал концентрации топонимов типа «Дейнова»; *1* — Церемец; *2* — Ульбины; *3* — Киюце; *4* — Саланяцишки (?); *5* — Пузеле; *6* — Раки; *7* — Верки; *8* — Уланы; *9* — Ковляны; *10* — Шлавенце; *11* — Концовщизна; *12* — Веизовщизнъ; *13* — Ганелки; *14* — Собакинцы; *15* — Дворчане; *16* — Веребьи; *17* — Глушня; *18* — Тоболиче; *19* — Угольники; *20* — Мацики; *21* — Сырни; *22* — Кульбачин; *23* — Дунич — Могилицы; *24* — Опановцы; *25* — Полянки; *26* — Ольшаны *27* — Скуратов (?); *28* — Маркенты; *29* — Хотенчицы; *30—33* — Красница, Старое Село, Ивашкевичи, Клепачи

XX стагоддзя мелася 5 вёсак і адзін фальварак з назвай Дайнова. Здавалася б шмат, калі не прымаць да ўвагі таго, што ў гэты час на тэрыторыі павета налічалася больш за 2 тысячы селішчаў. 6 тапонімаў на 2000 - гэта ўсяго 0,3%.

Чаму Т. Нарбут вызначыў прыдзітвянскую Дайнаву сталіцай княства - не зразумела. Нараўне з Дайнавой Дзітвянскага сельсавета паблізу ад Ліды маюцца яшчэ тры Дайнавы - у Бастунскім і Беняконскім сельсаветах Воранаўскага раёна і ў Геранёнскім сельсавеце Іўеўскага раёна. Дарэчы, каля бастунскай Дайнавы ляжаць два валуны (4х1.85х0.3 м і 3,3х3,2х1.8 м) нічым не горшыя за кіркораўскую "кобылку". Толькі на тэрыторыі Воранаўскага раёна вядомыя 17 велізарных валуноў, два з іх з ямкамі *(Аляшкевіч, 2006).*

У Гарадзенскай вобласці маюцца шматлікія тапонімы з назвамі Барцякі, Гуды, Жамойдзь, Крывічы, Літва, Латышы, Ляхавічы, Мазуроўшчына, Маскалі, Татарцы, Хахлова, Цыганоўка, Чаркесы, Чэхі, Швабы, Шлавенцы, Яцвезь. Але ніхто ж не спрабуе сцвярджаць, што на Гарадзеншчыне існавалі Ляхавіцкае, Маскальскае і

да т. п. княствы. Назвы гэтыя сведчаць аб тым, што насельніцтва вобласці поліэтнічнае. І не больш за тое.

Лічу, што вёскі з назвай тыпу Дайнава - гэта селішчы дайнаўцаў, уцекачоў з Сувалкіі. Наяўнасць гэтых селішчаў на шырокім абшары паўднёва-ўсходняй Літвы і паўночна-заходняй Беларусі сведчыць аб дыскрэтным рассяленні плямені па абсягах Прынёмання. Сяліліся там, куды змаглі дайсці або там, дзе ім прапанавалі.

## Каменныя магілы

В.В. Сядоў каменныя магілы Панёмання аднёс да 13-14 стагоддзяў, не да 12 стагоддзя, не да 13 толькі, а да 13-14. Трапіўшыя пад удары мазаўшан, а затым пад "тэўтонскі бульдозер" дайнаўцы змушаныя былі перасяліцца на вольныя землі ў глыбіню Літоўскай дзяржавы. З сабой яны прынеслі на гэтыя землі свае пахавальныя абрады і помнікі, якія атрымалі назву каменных магілаў. У свой час гэтую думку выказала Ф.Д. Гурэвіч (1962): *"Есть все основания полагать, что во второй половине Х111 в. часть населения из Побужья переселилась в Понеманье и принесла с собой новый тип погребальных сооружений. ... не только тип погребальных сооружений, но и ряд специфических находок становится общим для Побужья и Понеманья".* Ёсць гэтаму пацверджанне і ў "Вялікай Хроніцы": *"У гэтым жа годзе* (1260 - *В.С.*) *ахрышчаныя прусы са сваім каралём Мендольфам з-за шматлікіх нягод, прычыненых ім крыжакамі, пакінуўшы хрысціянскую веру, якую прынялі раней, сыйшлі з некаторымі братамі Ордэна крыжакоў да літоўцаў, адважна да іх далучыўшыся" (гл. 132).*

## Высновы

Прыйдзецца адмовіцца ад цэлага шэрагу ўстояных хібных палажэнняў:

- На Лідчыне ніколі не было Дайнаўскага княства. Дайнаўскае княства, калі такое было, у сярэдзіне 13-га стагоддзя размяшчалася ў Сувалкіі паміж Мазурскімі балотамі і р. Бебжай (Бабром);
- Лідская Дайнава ніколі не была сталіцай Дайнаўскага княства;
- Дайнаўцы не жылі ў 10 - 12 стагоддзях на міжрэччы Дзітвы - Гаўі;
- Дайнаўцы пасяліліся на Лідскай зямлі ў 13 - пачатку 14 стагоддзя і хутка растварыліся ў славяна-балцкім асяроддзі.

**Першакрыніцы:**

Аляшкевіч Д.С. Сучасны стан геалагічнай спадчыны, помнікі прыроды і геолага –геамарфалагічная характарыстыка раёна.// З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны. Ліда. 2006. с. 245.

Барсов Н.П. Очерки русской исторической географии. Варшава, 1873; 2-е изд., Варшава, 1885. с.237

Беларуская энцыклапед. Т. 6. Мінск, 1998. С. 11.

"Великая хроника" о Польше, Руси и их соседях Х1-Х111 вв. Издательство МГУ. 1987. с.185.

Вялікае Княства Літоўскае. Том 2. с.

Вольтер Э.А. Дейнова. // Энциклопедический словарь Брокгауза, т.Х.1893. С.94-95.

Гуревич Ф.Д. Древности Белорусского Понеманья. М-Л. 1962. с.139.

Живописная Россия. Литовское и Белорусское Полесье. Репринтное воспроизведение издания 1882 года. Минск. 1993. с.170.

Ілюстраваная храналогія гісторыі Беларусі.1995. С.45;

Квятковская А.В. Ятвяжские могилы Белоруссии (10 - 17 века);

Міндаў кароль Літовії, у дакументах і сьведчаньнях. Менск. 2005.

Narbutt T. Dzieje starozytne narodu litewskiego. T.2. S.189; T. 3. S.298; T.4. S.74, 285; T.5. Dodatki … S.1)

Покровский Ф.В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893

ПСРЛ. Т.32. М.1975 с. 32 и 135.

Седов В.В. Ятвяжское племя Дейнова.// Краткие сообщения Института археологии. М. 1968. Вып. 113.

ЭГБ. Том 2. 1994. с.388.

ЭГБ. Том 3. 1996. с.195.

***Станіслаў Суднік***

# Аўтобусная суполка “Лідзянка” *1935 - 1939*

На пераломе 19-га і 20-га стагоддзяў цераз Ліду прайшлі дзве чыгункі і ў горадзе ўзнікла вузлавая чыгуначная станцыя. Ліда стала буйным транспартным цэнтрам, усталявалася надзейная транспартная сувязь з буйнымі прамысловымі і адміністрацыйнымі цэнтрамі краю. Горад пачаў імкліва расці і ўсё больш упэўнена заваёўваць пазіцыі асноўнага эканамічнага і гандлёвага цэнтра вялізарнага сельскагаспадарчага рэгіёна.

У 1864 годзе ў Лідзе жыло 2208 чалавек. 30 снежня 1884 года адкрыты рух па чыгунцы Вільня-Лунінец. Уведзена ў эксплуатацыю чыгуначная станцыя Ліда. У 1895 годзе ў Лідзе жылі 7864 чалавекі, у 1897 годзе - 9323 чалавекі. У 1904 годзе ў Лідзе 15025 жыхароў. У 1906 годзе пачаўся рух па чыгунцы Маладзечна – Ваўкавыск. Пабудавана новае дэпо на 4 паравозы. У 1914 годзе ў Лідзе жыве 16 тысяч чалавек. 704 зарэгістраваныя гандлёва-прамысловыя прадпрыемствы. 1-я Сусветная вайна, рэвалюцыя не спынілі развіццё Ліды.

Колькасць насельніцтва горада дынамічна расла і пасля ўстанаўлення польскай улады, як і колькасць прадпрыемстваў. (Перад 1939 годам у Лідзе жыло каля 26 тысяч чалавек.) Чыгункі працавалі. Аднак транспартная сістэма Лідскага павету абапіралася якраз не на чыгункі. Асноўным відам транспарту для перавозкі грузаў у межах павету заставаўся гужавы - конь і воз, зрэдку вялікія параконныя вазы. Людзі па сваіх патрэбах хадзілі ў асноўным пяшком, пяшком хадзілі ажно ў Вільню. “Два дні - і там.” Са з’яўленнем у абіходзе равароў пачалі ездзіць на раварах. Але ровар быў даступны далёка не кожнаму. На вёску іх бывала адзін ці два. У павеце былі аўтамабілі, але вельмі мала.

Разам з тым інтэнсіўнасць перамяшчэння насельніцтва ўзрастала. Людзі вымушаны былі вучыцца, гандляваць, судзіцца, дабірацца на працу і г.д. У Еўропе і Паўночнай Амерыцы ў гэты час развіваўся грамадскі транспарт. Польшча ў гэтым пытанні адставала, але рухалася ў тым жа кірунку. І альтэрнатывы аўтобусным перавозкам не было. У заходняй Польшчы развіццё аўтобусных пасажырскіх перавозак ішло больш інтэнсіўна. На “Крэсы” цывілізацыя дабіралася са значным спазненнем. Але прыйшоў час, і аўтобусы з’явіліся ў Лідзе.

Аўтобусная суполка “Лідзянка” - прадпрыемства для аказання паслуг у перавозцы пасажыраў і багажу - узнікла ў Лідзе ў 1935 годзе. Паводле сведчання Збігнева Ганцэвіча* заснаваў яе Эдвард Крыгер (Kruger).

Аўтобус (скарачэнне ад **аўтамабіль-амнібус**) - аўтамабіль, які ўмяшчае больш за 8 чалавек і прызначаны для перавозкі пасажыраў. У адрозненне ад тралейбуса і трамвая аўтобус не мае патрэбы ні ў падвясных правадах, ні ў рэйках.

Самы першы ў свеце аўтобус зрабіў у 1801 годзе Рычард Трэвітык, а дэманстрацыя яго адбылася 24 снежня таго ж года ў Кэмборне (Карнаул, Англія). Гэта была машына з паравым рухавіком, якая магла перавозіць 8 пасажыраў.

Першы электрычны аўтобус з’явіўся ў Лондане ў 1886 годзе. Ён мог ездзіць са сярэдняй хуткасцю 11,2 км/г. Першы электрычны аўтобус у Расіі быў пабудаваны ў 1901 годзе на маскоўскім заводзе “Дукс”. Гэта быў 10-месцавы аўтобус, які мог развіваць хуткасць да 20 км/г і меў запас ходу 60 км.

Першы ў свеце аўтобус з рухавіком унутранага згарання, які працуе на бензіне, быў пабудаваны ў Германіі ў 1894-1895 гадах заводам “Бенц”. Ён умяшчаў 8 пасажыраў і курсаваў па 15-кіламетровай трасе паміж нямецкімі гарадамі Зыген, Нетфен і Дойц. У Расіі першы аўтобус з рухавіком унутранага згарання быў пабудаваны ў Санкт-Пецярбурзе ў 1903 годзе на фабрыцы “Фрэзе”. Ён меў адкрыты кузаў, які змяшчаў 10 чалавек. На аўтобусе быў усталяваны аднацыліндровы матор магутнасцю 10 конскіх сілаў. Аўтобус мог развіць хуткасць да 15 км/г.



***Першы ў свеце аўтобус з рухавіком унутранага згарання***

Першы ў свеце гарадскі аўтобус з рухавіком унутранага згарання выйшаў на маршрут 12 красавіка 1903 года ў Лондане. У Расіі аўтобус у якасці грамадскага транспарту пачаў выкарыстоўвацца з чэрвеня 1907 года ў Архангельску. У горад быў прывезены аўтобус нямецкай маркі НАГ. Гэтая машына была разлічаная на 25 пасажыраў і важыла 6 тон. Магутнасць рухавіка 26 к.с. А 11 лістапада 1907 года першы

---

** Збігнеў Ганцэвіч нарадзіўся 10.03.1939 года ў Лідзе. Бацька яго, Францішак Ганцэвіч, 1910 г.н., меў невялікі маёнтак у Ганцавічах (Лідскіх). Маці яго нарадзілася ў тым жа 1910 годзе ў Ваўкавыску, там жа закончыла настаўніцкую семінарыю. Прыехала на працу ў вясковую школу ў Ганцавічы і тут выйшла замуж. Яе сястра (кузіна) Катажына з Цюхновічаў была замужам за Эдвардам Крыгерам.*

*Францішак Ганцэвіч у 1939 годзе быў мабілізаваны ў войска, трапіў у нямецкі палон. Быў каля Магдэбурга. У 1945 годзе вярнуўся ў Польшчу. Памёр у Польшчы.*

Эдвард Крыгер *(прозвішча нямецкае, пішацца цераз и-умляўт, па-берлінску чытаецца Кругер, па-саксонску - Крыгер. Ганцэвіч прамаўляў: Крыгер. У некаторых дакументах напісана: Kryger)* заснаваў аўтобусную суполку "Лідзянка" не адзін. Заснавальнікаў было пяцёра: Юзаф Раманоўскі, Эдвард Крыгер, Невах Апановіч, Бэрка Кавальскі і Вацлаў Пуйдак.

***Асабістыя подпісы заснавальнікаў аўтобуснай суполкі "Лідзянка"***

Паводле фінансавых дакументаў кіраўніком суполкі "Лідзянка" быў Эдвард Крыгер, бухгалтарам Невах Апановіч.

Кантора суполкі размяшчалася на вуліцы Мацкевіча, 2/2. Мела тэлефон № 174.

Паводле З. Ганцэвіча суполка пачынала з аднаго аўтобуса. Але ў раскладзе руху аўтобусаў па станцыі Ліда ад 15 траўня 1935 года пазначаны 11 штодзённых рэйсаў, а ў сераду 12. Відавочна, што ў раскладзе пададзены рэйсы, якія ажыццяўлялі аўтобусы іншых аўтапрадпрыемстваў, магчыма з Вільні, Гародні і Шчучына.

Колькасць маршрутаў гаворыць пра тое, што пасажырскі аўтобусны маршрут быў адкрыты ў Санкт-Пецярбурзе. З гэтай нагоды ў "Пецярбургскім лістку" было змешчана паведамленне: *"На дванаццаць гадзін дня да Аляксандраўскага саду, супраць Узнясенскага праспекта, прыехаў аўтамабіль-амнібус або, як іх зараз завуць, аўтобус"*. У Маскве аўтобусны рух упершыню быў адкрыты 13 жніўня 1908 года, а сталы аўтобусны рух толькі з 8 жніўня 1924 года, калі на першы рэгулярны маршрут паміж Каланчоўскай плошчай і Цвярской Заставай вышлі 8 аўтобусаў маркі "Лейланд".




***Рэклама суполкі "Лідзянка" ў даведніку 1937 г.***



***Аўтобус у Санкт-Пецярбурзе, 1912 г.***

Гісторыя беларускага аўтобуса пачынаецца не з гарадскіх ліній, а з міжгародных - у 1910 г. першыя машыны звязалі Менск з Берасцем, Слуцкам, Бабруйскам, Беластокам і Баранавічамі. "Мінскі лісток" пакінуў іх маляўнічае апісанне: *"Аўтобус уяўляе сабой вагон фургоннага тыпу, груваскі і пастаўлены на чатыры колы. Ён падзелены на дзве паловы, у пярэдняй частцы восем месцаў для пасажыраў 1 класа, у задняй змяшчаюцца пасажыры 2 класа і, нарэшце, на даху пад адкрытым небам - пасажыры 3 класа і багаж"*. Па фатаграфіях, якія захаваліся, можна выказаць здагадку, што першыя міжгародныя аўтобусы былі германскімі, маркі "Бенц-Гагенаў".

Што датычыцца менскіх вуліц, то яны маглі ўбачыць першы гарадскі аўтобус у 1914-м. У снежні 1913 г. мянчук Выгоцкі прасіў дазволу ў менскай думы арганізаваць перавозкі пасажыраў у 20-месцавым аўтобусе. Аднак распачатая Першая Сусветная вайна перашкодзіла ажыццяўленню гэтай ідэі. У выніку днём нараджэння менскага аўтобуса стала 23 кастрычніка 1924 года. Тады на вуліцы выйшла шэсць машын. Да вясны 1925 г., пасля таго, як з Масквы прыбылі новыя "Форды", у горадзе было 11 аўтобусаў.

Аўтобусы сярэдзіны 20-х па зразумелых прычынах былі выключна імпартнымі - савецкіх тады папросту не было. Па вуліцах Менска хадзілі ангельскія "Лейланды", амерыканскія "Форды", італьянскія "Фіяты", германскія "Маны", французскія "Рэно", аўстрыйскія "Штайры". Усё гэта былі невялікія машыны, разлічаныя на 20-40 пасажыраў. У дзень кожны такі аўтобус паспяваў зрабіць 10-12 рэйсаў і перавезці прыкладна 700 чалавек.

У канцы 20-х у Менск пачалі паступаць першыя айчынныя аўтобусы - 12-месныя маскоўскія АМО-Ф15, а ў 1931-м -- больш ўмяшчальныя (от 27 до 35 мецаў, былі варыянты) яраслаўскія Я-6.

# Rozkład jazdy

pociągów osob. od 15.V 1935 r. autobusów podmiejskich

st. Lida

| | Przybycie | Odejście | | Przybycie | Odejście |
|---|---|---|---|---|---|
| Wilno | $9^{25}$ | $5^{22}$ | Bielica | $6^{30}$ | 21 |
| " | $15^{41}$ | $9^{30}$ | Nowogródek | 8 | 19 |
| " | $17^{45}$ | $16^{10}$ | Lipniszki-Iwje | $7^{30}$ | 19 |
| " | $20^{31}$ | $20^{36}$ | " w środę | $7^{30}$, $18^{30}$ | 8, 21 |
| Mołodeczno | $7^{38}$ | $14^{20}$ | Wasiliszki | | |
| " | $20^{26}$ | $21^{50}$ | Szczuczyn | $8^{30}$ | 19 |
| Baranowicze | $9^{05}$ | $9^{44}$ | Grodno | 10 | 7 |
| " | $20^{19}$ | $20^{51}$ | " | 20 | 16 |
| Warszawa | $9^{10}$ | $9^{37}$ | Raduń-Ejszyszki | $8^{30}$ | $15^{35}$ |
| " | $20^{10}$ | $21^{10}$ | Wilno | 13 | $6^{45}$ |
| | | | " | $18^{30}$ | $8^{45}$ |
| | | | " | $20^{30}$ | 17 |

***Расклад руху цягнікоў і аўтобускаў па станцыі Ліда ад 15 траўня 1935 года***

рэйсавыя аўтобусы пайшлі праз Ліду значна раней, чым была ўтворана суполка "Лідзянка", магчыма, з пачатку 1930-х гадоў. Больш позняе з'яўленне свайго аўтапрадпрыемства ў Лідзе ў параўнанні з іншымі гарадамі Польшчы тлумачыцца меншай патрэбнасцю. Многія транспартныя праблемы ў адрозненне ад, скажам, Шчучына вырашаліся за кошт чыгункі.

14 кастрычніка 1935 года суполка "Лідзянка" атрымала канцэсійны дакумент №3 у Наваградскім ваяводскім урадзе.на права платных перавозак пасажыраў і багажу.

У 1936 годзе у суполцы ўзніклі нейкія нелады, і, відавочна, Юзаф Раманоўскі выйшаў са складу суполкі "Лідзянка" і заснаваў



***Аўтобус "Беліца - Вільня"***

# ROZKŁAD JAZDY

## Autobusów podmiejskich m. LIDA

### Spółka szczuczyńska

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Wilno | Przybycie | $11^{30}$, $17^{40}$, $22^{05}$ | Odejście | $6^{45}$, $8^{45}$, $17^{10}$ |
| Grodno | „ | 10. 20. | „ | 7. 16. |
| Szczuczyn | „ | $8^{20}$. | „ | $18^{10}$. |
| Wasiliszki | „ | $8^{50}$. | „ | $18^{30}$. |
| **Nowogródek** | „ | $7^{30}$. | „ | 9. |

**Spółka autobusowa „Lidzianka" ul. Mjr. Mackiewicza 2.**

**Posiada autobusy zapasowe w dowolnym kierunku.**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Bielica - ~~Ejszyszki~~ | Przybycie | $7^{45}$. | Odejście | $19^{30}$. |
| **Lida-Raduń-Ejszyszki-Orany** | „ | $8^{45}$.. | „ | $15^{30}$.. |
| Lida - Iwie | „ | $7^{30}$. i 18 | „ | $11^{30}$ i 19. |
| W środy i dnie targowe | | 7.30. i 18. | | 9. i 19 |
| Lubcza | | 8.40. | | 17. |
| Ejszyszki | | 18.30. | | 9. |
| Sobotniki | | 7.30. | | 18.50. |

**Chrześcijańska Spółka Autobusowa - kier. J. Romanowski**

Autobusy kursują na linii

Lida - Sobakińce

Odjazd z Lidy 12. 19. **Przyjazd do Lidy** $8^{35}$, $16^{20}$.

**Wynajem aut dla wycieczek grupowych.**

***Расклад руху прыгарадных аўтобусаў па станцыі Ліда (1937? год)***

сваю ўласную “Хрысціянскую аўтобусную суполку”, на што атрымаў канцэсійны дакумент № 8 ад 3 верасня 1936 года.

Суполка “Лідзянка” развівалася даволі дынамічна. У 1937 годзе “Лідзянка” ажыццяўляла штодзённыя рэйсы: на Беліцу - 1; па маршруту Ліда-Радунь-Эйшышкі-Араны - 1; на Іўе - 2, а ў сераду і гандлёвыя дні яшчэ 2; на Любчу - 1; на Эйшышкі - 1; на Суботнікі - 1. Пры гэтым дадатковыя рэйсы на Іўе, рэйсы на Любчу, Эйшышкі і Суботнікі былі для суполкі ў 1937 годзе новымі. Для забеспячэння ўсіх рэйсаў суполка павінна была мець не меш за 7 аўтобусаў.

“Хрысціянская аўтобусная суполка” Юзафа Раманоўскага ажыццяўляла 2 рэйсы штодзённа на Сабакінцы і прадстаўляла аўтобусы для групавых паездак. Раманоўскі для гэтага мусіў мець 2 аўтобусы.

Цераз Ліду хадзілі ў гэты час аўтобусы Шчучынскай аўтобуснай суполкі, якія ажыццяўлялі штодзённа 3 рэйсы на Вільню, 2 рэйсы на Гародню, 1 рэйс на Шчучын, 1 рэйс на Васілішкі, 1 рэйс на Наваградак.

Польскія ўлады падтрымлівалі захады па развіцці транспартнай сістэмы. Развівалася дарожная сетка.

# ROZKŁAD JAZDY

**Pociągów osob. od 22.V 1937 r.** **Autobusów podmiejskich**

**st. LIDA.**

| | Przybycie | Odejście |
|---|---|---|
| Wilno | $1^{08}$ (1 | $2^{18}$ (6 |
| „ | $7^{55}$ | $5^{12}$ (7 |
| „ | $9^{40}$ (k | $9^{56}$ |
| „ | 16 | $16^{50}$ |
| „ | $17^{45}$ (2 | $18^{08}$ |
| „ | $20^{39}$ | $20^{58}$ (k |
| Warszawa | $9^{35}$ | $10^{06}$ |
| „ | $20^{10}$ | $21^{48}$ |
| Mołodeczno | $7^{30}$ | $10^{40}$ |
| „ | $20^{25}$ | $21^{40}$ |
| Bohdanów | $18^{25}$ (3 | $14^{20}$ (8 |
| Lwów | $9^{31}$ | $9^{59}$ (k |
| „ | $20^{47}$ (k | $20^{57}$ |
| Łuniniec | $18^{48}$ | $7^{38}$ |
| Niemen | $12^{06}$ (4 | $10^{33}$ (9 |
| „ | $22^{06}$ (5 | $19^{35}$ (10 |

**Drukarnia i wytw. stempli**
**J. Kaplińskiego**
**LIDA, ul. Suwalska 10.**
**Wykonuje wszelkie roboty drukarskie**
— Czcionki najnowsze —
CENY NAJNIŻSZE.

| | Przybycie | Odejście |
|---|---|---|
| Wilno | $11^{30}$ | $6^{45}$ |
| „ | $17^{40}$ | $8^{45}$ |
| „ | $22^{05}$ | $17^{10}$ |
| Grodno | 10 | 7 |
| „ | 20 | 16 |
| Szczuczyn | $8^{20}$ | $18^{10}$ |
| Ejszyszki | $18^{30}$ | 9 |
| Orany | $8^{45}$ | $15^{30}$ |
| Iwie | $7^{30}$ | $11^{30}$ |
| „ | 18 | 19 |
| „ | $7^{30}$ (* | 9 (* |
| „ | 18 (* | 19 (* |
| Lubcza | $8^{40}$ | 17 |
| Bielica | $7^{45}$ | $19^{30}$ |
| Sobotniki | $7^{45}$ | $18^{50}$ |
| Nowogródek | $7^{30}$ | 9 |
| „ | 17 | $18^{30}$ |
| Wasiliszki | $8^{58}$ | $18^{30}$ |
| Sobakińce | $8^{50}$ | $16^{05}$ |
| „ | $8^{37}$, $16^{27}$ | 12. 19 |

UWAGA : *) w środę i dnie targowe.

UWAGI: 1) i 6) kursują w dnie poświąteczne
2) nie kursuje 24, 25.XII 37 r. i 16, 17.IV 38 r.
7) nie kursuje 25, 26.XII 37 r. i 16, 17.IV 38 r.
3) i 8) kursują w dni nauki szkolnej
4), 5), 9) i 10) kursują od 20.VI do 29.VIII 37 r. w dnie świąteczne.
litera k) oznacza pociągi pośpieszne.

*Расклад руху цягнікоў і аўтобуспа станцыі Ліда ад 22 траўня 1937 года*



*Аўтобус суполкі "Лідзянка" на зімовай дарозе*

Метадам шарварку брукаваліся вуліцы і дарогі, рамантаваліся масты, але аб'ёмы работ былі далёкія ад патрэбных. Дарогі ў абсалютнай большасці былі грунтавыя. Хуткасць руху аўтобусаў была невялікая, але машыны спраўляліся. Вялікія праблемы ўзнікалі зімой, калі даводзілася ўручную чысціць вялікія ўчасткі дарог.

Пра далейшае развіццё дзейнасці суполкі "Лідзянка" дакладную інфармацыю падае "Канцэсійны

WOJEWODA NOWOGRÓDZKI

L. KD.D-13/3/18 /38r.

Nr. rejestru 3.

Nowogródek, dn. 12 stycznia 1938 r.

DOKUMENT KONCESYJNY.

Na podstawie art. 3 ustawy z dnia 14 marca 1932 r. o zarobkowym przewozie osób i towarów pojazdami mechanicznemi (Dz. U. R. P. Nr. 32, poz. 336) i § § 38 p. (1), 39 p. (1 i 2) rozporządzenia Ministra Komunikacji z dnia 6 lipca 1932 r., wydanego w porozumieniu z Ministrami: Spraw Wewnętrznych, Spraw Wojskowych, Przemysłu i Handlu, Sprawiedliwości, Poczt i Telegrafów oraz Skarbu, a co do § 5 w porozumieniu z Ministrem Spraw Wewnętrznych, w sprawie wykonywania powyżej cytowanej ustawy (Dz. Ust. R. P. Nr. 95 poz. 821) oraz w myśl przepisów rozporządzenia Ministra Komunikacji i Ministra Spraw Wewnętrznych w porozumieniu z Ministrem Spraw Wojskowych z dnia 13 sierpnia 1932 r. w sprawie regulaminów: przewozu osób i ich bagażu oraz towarów pojazdami mechanicznemi (Dz. Ust. R. P. Nr. 104 poz. 868)

UDZIELAM

w porozumieniu z odnośnemi władzami
Spółce Autobusowej "Lidzianka"

posiadającej siedzibę w m. Lidzie
ul. Mackiewicza Nr.2 w dalszym ciągu
tego dokumentu nazywanej dla skrócenia „Koncesjonarjuszem"

KONCESJI BEZ PRAWA WYŁĄCZNOŚCI

na wykonywanie zarobkowego przewozu osób i ich bagażu pojazdami mechanicznemi na liniach

*Канцэсійны дакумент аўтобуснай суполкі "Лідзянка" на 1938 - 1945 гг.*

(podpis koncesjonarjusza)

Edward Krüger
Przewodniczący S-ki Autobusowej
„LIDZIANKA" w Lidzie

*Подпіс Эдварда Крыгера*

дакумент" № 3 на 1938 год, падпісаны навагрудскім ваяводам 12 студзеня 1938 года і атрыманы кіраўніком суполкі Эдвардам Крыгерам 14 студзеня 1938 года. Паводле гэтага дакумента суполка атрымлівала права і абавязвалася ажыццяўляць платную перавозку пасажыраў і багажу механічным транспартам на лініях:

1) Здзецел (Дзятлава) - Беліца - Ліда - Радунь - Эйшышкі - Араны, адлегласць 143 км;

2) Ліда - Ліпнішкі - Іўе - Лугамавічы - Мікалаеў - Любча, адлегласць 75 км;

3) Ліда - Мыто - Забалаць - Сабакінцы, адлегласць 55 км;

4) Ліда - Тракелі - Геранёны - Дзевянішкі - Ашмяны, адлегласць 80 км;



***Аўтобусы суполкі “Лідзянка” перад гаражом***



***Аўтобус суполкі “Лідзянка”***

5) Беліца - Жалудок - ст. Ражанка - Шчучын - Астрына, адлегласць - 64 км;

6) Ліпнішкі - Суботнікі, адлегласць 18 км.

Паводле дакумента суполка павінна была мець не менш, чым пяць аўтобусаў, з іх чатыры новыя і адзін ужываны, а таксама два рэзервовыя аўтобусы (ужываныя). Улады абавязвалі суполку купляць толькі польскія аўтобусы, але Польшча сваіх аўтобусаў не вырабляла. На тэрыторыі краіны ажыццяўлялася зборка аўтобусаў замежных фірмаў, і аўтапрадпрыемствы прымусова абавязваліся купляць менавіта гэтыя аўтобусы.




***Аўтобус на Алкенікі цераз Вільню***

522 14653

POŚREDNIK ch. Chmielińska (IMIĘ I NAZWISKO)

SIEDZIBA Lida (DOKŁADNY ADRES)

Storno pol. Nr. 3711241
Płatne w Biurze Inkasowym
Związku Prywatnych Zakładów Ubezpieczeń w Polsce
w Wilnie, ul. Ad. Mickiewicza Nr. 15.

OPŁATY STEMPLOWE TOWARZYSTWA UISZCZAJĄ BEZPOŚREDNIO, W MYŚL USTAWY O OPŁATACH STEMPLOWYCH.

# POLISA ZBIOROWA
## NA UBEZPIECZENIE OD OGNIA

NA PODSTAWIE WNIOSKU Z DNIA 28 czerwca 1938r. ORAZ WEDŁUG ZAŁĄCZONYCH OGÓLNYC WARUNKÓW UBEZPIECZENIA OD OGNIA T-STWA WARSZAWSKIEGO. - I SZCZEGÓLNYCH WARUNKÓW W NINIEJSZEJ POLISIE ZAWARTYCH, NIŻEJ PODPISANE TOWARZYSTWA UBEZPIECZAJĄ N RZECZ: Firmy: Spółka Autobusowa " L i d z i a n k a"

W Lidzie UL. Zamkowa 43

POW.

PONIŻEJ WYSZCZEGÓLNIONE MIENIE NA ŁĄCZNĄ SUMĘ:

Zł. 25,000,- SŁOWAMI złotych dwadzieścia pięć tys. -

ZNAJDUJĄCE SIĘ W Lidzie UL. Zamkowa 43

POW.

UBEZPIECZENIE ZAWIERA SIĘ NA CZAS r o c z n y T. J. OD DNIA pierwszego lipca 1938r. DO DNIA pierwszego lipca 1939r. GODZ. 12 W PO

ŁĄCZNA SUMA SKŁADKI WRAZ Z NALEŻNOŚCIAMI DODATKOWYMI, PRZYPADAJĄCA NA UDZIAŁY POSZCZEGÓLNYCH T-STW ZA CZAS OD DN. 1.VII.1938r. DO DN. 1.VII.1939r.- W WYSOKOŚC Zł. 516,62 ORAZ DALSZE RATY ROCZNE PŁATNE Z GÓRY DNIA -,- KAŻDEGO ROKU W WYSOKOŚCI -,- KAŻDA, WINNA BYĆ UISZCZONA W CAŁOŚCI RZY Biuru Inkasowemu Związku Prywatnych Zakładów Ubezp. w Polsce KTÓRE JES UPOWAŻNIONE DO DZIAŁANIA W IMIENIU I NA RZECZ WSZYSTKICH TOWARZYSTW W SPRAWACH DOTYCZĄCYCH INKAS SKŁADKI WRAZ Z NALEŻNOŚCIAMI DODATKOWYMI, A W SZCZEGÓLNOŚCI DO WYSYŁANIA UPOMNIEŃ I UDZIELANIA DODA KOWEGO TERMINU PRZEWIDZIANEGO PRAWEM DLA POWSTANIA SKUTKÓW ZWŁOKI W PŁATNOŚCI SKŁADKI NASTĘPNI

UBEZPIECZENIE NINIEJSZE SKŁADA SIĘ Z TYLU UMÓW UBEZPIECZENIA SAMODZIELNYCH I ODRĘBNYCH, ILE TOWARZYST UCZESTNICZY W UBEZPIECZENIU, PRZY CZYM UBEZPIECZENIE KAŻDEGO TOWARZYSTWA OBEJMUJE CZĘŚĆ WYMIENION ŁĄCZNEJ SUMY UBEZPIECZENIA I ODPOWIADAJĄCEJ JEJ SKŁADKI WEDŁUG PONIŻEJ WYSZCZEGÓLNIONEGO OBLICZENI

| TOWARZYSTWO UBEZPIECZEŃ | % UDZIAŁ | NR. POLISY | SUMA UBEZPIECZENIA | SKŁADKA | OPŁATY UBOCZNE | OPŁATY POLIS. | OPŁATA STEMPL. | STRAŻ OGNIOWA | RAZE |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | ZŁOTE: | | | | | | |
| Warszawskie | 60% | 13216 | 15,000,- | 300,- | | 5,50 | 6,72 | | 312,22 |
| Florjanka | 40% | 55517 | 10,000,- | 200,- | | -,- | 4,40 | | 204,40 |
| | 100% | | 25,000,- | 500,- | | 5,50 | 11,12 | | 516,62 |

***Страхавы поліс аўтобуснай суполкі “Лідзянка” на перыяд 1.07.1938 - 1.07.1939 гг.***

У 1938 годзе склад суполкі некалькі змяніўся. У яе ўваходзілі Эдвард Крыгер, які меў 20% долевага ўдзелу (акцый), Вацлаў Пуйдак - 19%, Невах Апановіч - 19 %, Бэрка Кавальскі - 20%, Войцях Мусял - 10%, Юзаф Раманоўскі - 12%. Юзаф Раманоўскі закрыў сваю “Хрысціянскую аўтобусную суполку” і вярнуўся ў суполку “Лідзянка”.

Суполка абавязвалася, акрамя названых сямі аўтобусаў вывесці на лініі яшчэ чатыры новыя аўтобусы польскай зборкі: два не менш чым на 22 пасажырскія месцы і два не меш, чым на 28 пасажырскіх месцаў, а таксама адзін ужываны аўтобус. Два новыя аўтобусы і адзін ужываны павінны быць ўведзены ў эксплуатацыю да 1 красавіка 1938 года, трэці новы да 15 траўня 1938 года, чацвёрты новы да 1 жніўня 1938 года.

Суполка абавязана была абнаўляць аўтобусны парк, замяняючы ўжываныя аўтобусы на новыя польскай зборкі: адзін да 31 снежня 1941 года, адзін да


Spółka Autobusowa
„LIDZIANKA"
Lida, ul. Mackiewicza Nr 2 m. 2


Spółka autobusowa „LIDZIANKA"
Lida, ul. Mackiewicza Nr 2 m. 2

***Фірмовыя бланкі аўтобуснай суполкі "Лідзянка"***

UBEZPIECZALNIA SPOŁECZNA w LIDZIE.

Pokwitowanie Nr. 34331

P. T. Ska Autobus. „Lidzianka"

w Lidzie

ulica Mackiewicza № 2 Konto № 1828

wpłacił (a) dnia 6 XII 1937 tytułem:

| | zł. | gr. |
|---|---|---|
| 1) należności na rzecz ubezpieczeń społecznych i Funduszu Pracy, powstałych po 1. I. 1934 r. | 168 | 25 |
| 2) należności za czas do 31. XII. 1933 r. na rzecz: | | |
| a) ubezpieczenia na wypadek choroby (b. Kasy Chorych) | | |
| b) Fundusz Pracy | | |
| 3) | | |
| RAZEM | 168 | 25 |

słownie [illegible]

(pieczęć Ubezp.) UBEZPIECZALNIA SPOŁECZNA w Lidzie.

Podpis i pieczątka inkasenta.

***Квітанцыя сацыяльнай страхоўкі за 1937 г.***

31 снежня 1942 года, трэці да 31 снежня 1943 года, чацвёрты да 31 снежня 1944 года. Канцэсійны дакумент у цэлым быў дзейным да 31 снежня 1945 года. Але відавочна, што пункт па абнаўленні аўтобуснага парку канцэсіянерам выконваць не прыйшлося.

Максімаліны тарыф на перавозку быў устаноўлены ў памеры 7 грошаў за чалавека/кіламетр. Тарыф быў мясцовы (ваяводскі) і мог не супадаць з тарыфамі ў іншых ваяводствах. А вось ільготы і зніжкі насілі агульнадзяржаўны характар і былі наступныя:

- для дзяцей да 10 гадоў і школьнай моладзі пры наяўнасці адпаведнага дакумента скідка на 20%;
- для дзяржаўных чыноўнікаў і вайскоўцаў скідка 20 %;
- пры пакупцы сезонных білетаў летам не менш, чым на два месяцы скідка 20 %;
- пры пакупцы месячных праязных білетаў на 50 паездак у буднія дні скідка 20%.

Службоўцы дзяржаўнай паліцыі, вайсковай жандармерыі, дарожнай службы, усе ў форменным абмундзіраванні, мелі права на бясплатны праезд, але не больш чым два чалавекі ў кожным аўтобусе, калі не ўсе месцы выкуплены. Гэта не тычыцца экстранных выпадкаў, пры якіх неабходна забяспечыць безумоўны бясплатны праезд названых службоўцаў.

Багаж большых памераў ад 30х40х60 см павінен быў перавозіцца ў спецыяльнам адсеку па адпаведных тарыфах. Багаж можна перавозіць толькі тады, калі гаспадар яго едзе ў аўтобусе.




***Дом сям'і Крыгераў на вуліцы Перацкага, № 46 у Лідзе, 1938 г.***



***Аўтобус “Вільня - Ашмяны”***



***Аўтобус суполкі “Лідзянка”***



***Аўтобус суполкі “Лідзянка”***

Канцэсіянер мусіў выконваць расклад. Змены ў расклад мог унесці Наваградскі ваяводскі ўрад.

Максімальны тарыф пры арганізацыі паездак зарэгістраванымі турыстычнымі фірмамі ўстаноўлены для аўтобусаў да 22 месцаў у памеры 50 грошаў, а ў аўтобусах да 28 месцаў у памеры да 65 грошаў за 1 аўтобуса/кіламетр.

Канцэсіянер пагаджаўся перавозіць аўтобусамі групы людзей з культурна-асветніцкімі мэтамі па льготных цэнах - 25 грошаў за аўтобуса/кіламетр, пры працягласць маршруту не большым за 500 кіламетраў. Права на такую льготу даецца асобам і таварыствам Наваградскім ваяводскім урадам.

Колеры аўтобусаў зацвярджаліся Наваградскім ваяводскім урадам.

22 чэрвеня 1938 года наваградскі ваявода даў да-




***Аўтобус “Беліца - Ліда”***



***Аўтобусы суполкі “Лідзянка” на плошчы Славы ў Лідзе (каля Фарнага касцёла)***



***Паштоўка з аўтобусам на плошчы Славы ў Лідзе***

звол суполцы “Лідзянка” адкрыць яшчэ адзін маршрут: Ліда - Коўчыкі - Васілішкі - Астрына на ўмовах той жа канцэсіі. Пры гэтым ваявода абавязаў суполку набыць яшчэ адзін новы аўтобус не меншы, чым на 20 месцаў зноў жа польскай зборкі і пусціць яго на маршрут не пазней за 1 кастрычніка 1938 года.

11 ліпеня 1938 года навагрудскі ваявода даў дазвол суполцы “Лідзянка” адкрыць яшчэ два маршруты: 1) Сабакінцы - Васілішкі - Касцянева - Шчучын Навагрудскі - чыг. ст. Жалудок - Голдаў - Белагруда - Ліда; 2) Шчучын Навагрудскі - Ражанка - Галынка - Орля - мяст. Жалудок на ўмовах той жа канцэсіі. Пры гэтым суполка павінна была да 1 ліпеня 1939 года пусціць на лінію яшчэ адзін новы аўтобус польскай зборкі не меншы, чым на 20 месцаў.

Komunalna Kasa Oszczędności
POWIATU LIDZKIEGO
w LIDZIE
Zabezpieczona całym majątkiem i dochodami Sejmiku Lidzkiego
Rok założenia 1929.
R-ki bieżące:
w Państwowym Banku Rolnym Oddział w Wilnie,
w Banku Gospod. Krajowego Oddział w Wilnie,
w Polskim Banku Komunalnym w Warszawie
Telefon Nr. 95.

Lida, dnia 2 maja 1939 r.
3-go Maja 13

WPan
Krygier Edward
Lida

Niniejszym stwierdzamy, że WP. jako spólnik Spółki Autobusowej "Lidzianka" w/m subskrybował w dniu dzisiejszym w n/Kasie 1 obl. 5% Pożyczki Obrony Przeciwlotniczej na zł. 500.-/zł. pięćset/.-

Z poważaniem

*Квітанцыя пакупкі аблігацыі пазыкі на развіццё супрацьпаветранай абароны*

Паводле сведчання Збігнева Ганцэвіча суполка “Лідзянка” ў 1938 годзе мела 16 аўтобусаў.

На падставе страхавога поліса (страхаванне на выпадак пажару) № 3711241 ад 28 чэрвеня 1938 года відно, што маёмасць суполкі знаходзілася па адрасу: вул. Замкавая, 43. У страхавы поліс упісаны ў драўляным гаражы механічныя транспартныя сродкі, розныя запасныя часткі да аўтамабіляў, прыстасаванні і начынне для рамонтнай майстэрні ў тым жа будынку. Уся гэтая маёмасць ацэньвалася ў суму 66666 злотых. На ўласную рызыку брался 16666 злотых. Страхавалася маёмасць на суму 50000 злотых. Сума страхоўкі складала 25000 злотых. Гадавая страхавая выплата складала 516,62 злотага.

Акрамя страхавых выплат ад пажару суполка рабіла і іншыя. 6 снежня 1937 года былі заплачаны 168,25 злотых сацыяльнай страхоўкі. 2 траўня 1939 года Э. Крыгер купіў аблігацыю коштам у 500 злотых пазыкі на развіццё супрацьпаветранай абароны.

Дзейнасць суполкі ажыццяўлялася да самага пачатку вайны. Апошні банкаўскі вексель на 400 злотых падпісаны Э. Крыгерам і Н. Апановічам 30 жніўня 1939 года за дзень да вайны.

З пачаткам мабілізацыі ўсе лідскія аўтобусы былі мабілізаваны на вайсковыя патрэбы. Ні адзін з іх не вярнуўся. Суполка “Лідзянка” спыніла сваё існаванне.

Сам Эдвар Крыгер мабілізаваны не быў. Пры савецкай уладзе ў 1939-41 гг. працаваў шафёрам. Пры немцах таксама працаваў шафёрам на вялікіх грузавых машынах. У 1945 годзе сем’і Крыгераў і Ганцэвічаў выехалі ў Польшчу ў г. Гданьск.

Urzędowy blankiet wekslowy
OPŁATA STEMPLOWA 1 zł 20 gr
1 ZŁOTY 20 GROSZY

Lida dnia 30 sierpnia 1939 r. Na 400 złotych
Dnia 7 marca 1940 r. zapłac. za ten weksel na zlecenie sumę
czterysta złotych
Płatny w Lidzie

S-ka Autob. „LIDZIANKA" w Lidzie

*Вексель на 400 злотых падпісаны Э. Крыгерам і Н. Апановічам 30 жніўня 1939 года*

Наступны рэйсавы аўтобус прайшоў праз Ліду недзе праз 20 гадоў. На два дзесяцігоддзі “аўтобусная цывілізацыя” ў Лідзе спынілася.

***Валеры Сліўкін***

# Лідскія ветракі

Ветракі з’явіліся пазней за вадзяныя млыны. Вынайшлі іх альбо кітайцы, альбо персы. У Іране млыны круціліся з VII ст. Прыводзіліся яны ў рух ветразямі, усталяванымі вертыкальна на коле, якое круцілася ў гарызантальнай плоскасці. Мусульмане распаўсюдзілі ветразевыя млыны ў Міжземнамор’е, такія млыны меліся ў X ст. на паўночнай мяжы мусульманскай Іспаніі. (1) У канцы X -пачатку XI стагоддзя ветразевыя млыны з’явіліся ў Францыі і Англіі, а затым у Галандыі. (2)

Канструкцыя ветразевага млына была прымітыўна простай: рух кола, забяспечанага ветразямі, перадаваўся напроста на верхні жорнавы камень, які верціцца на ніжнім нерухомым камені Ніякіх зубчастых перадаткавых прыстасаванняў, ніякіх праблем з арыентацыяй млына адносна ветравога струменя - ветразі прымалі любы вецер.

У Азіі ветразевыя ветракі на працягу стагоддзяў круціліся ў гарызантальнай плоскасці. У Еўропе невядомы вынаходнік у XII стагоддзі ўсталяваў крылы ў вертыкальную плоскасць, магутнасць пры гэтым прыкметна павялічылася. У XII стагоддзі млыны з крыламі з’явіліся ў Англіі, у XIII ст. - у Францыя, у XIV ст. - у Галандыі, Нямеччыне і Польшчы. Паўночная Еўропа ў гэтых адносінах апярэджвала Паўднёвую, і гэта зразумела, у суровыя зімы вадзяныя млыны спынялі працу. Найбольшае распаўсюджванне ветракі атрымалі ў Галандыі. Іх шматлікасць была вызначана неабходнасцю бесперапынна адпампоўваць грунтовыя воды з адваяваных у мора багністых тэрыторый. Галандцы ўдасканалілі ветракі, яны прыдумалі тармазную прыладу для хуткага прыпынку жорнаў.

Спачатку з’явіліся слупковыя (стрыжневыя) або казловыя млыны, у Еўропе іх звалі “падсвечнікі”, у нас “казлоўкі”. Гэта драўляны, звычайна чатырохгранны будынак, вышынёй да 8-I2 м, з двухсхільным дахам, зманціраваны на вертыкальным слупе, які абапіраўся на крыжавіну (казлы) і падтрымліваўся падкосамі. Да крыжавіны прымацоўваўся брус - “дышаль”, якім паварочвалі млын вакол восі па кірунку да ветру. Крылы ўсталёўваліся на гарызантальным вале, размешчаным пад дахам. Умацаванае на гэтым ж вале кола перадавала вярчальны рух з дапамогай шасцярэнчатай перадачы на вертыкальны вал, злучаны з верхнім жорнам пастава. Перадача звычайна разлічвалася такім чынам, каб за адзін аварот крылаў жоран рабіў 7-12 аваротаў. Вось крылаў ніколі не была строга гарызантальнай, яе нахіл рэгулявалі эмпірычным шляхам. Сістэма дапаможных механізмаў забяспечвала пад’ём наверх мяшкоў са збожжам, дазваляла рэгуляваць хуткасць кручэння крылаў, тонкасць памолу мукі і г.д. “Казлоўка” звычайна была двухяруснай, ярусы злучаліся з дапамогай унутраных лесвіц. Каркас рабіўся з брусоў, ашалёўка - з дошак; казлы - з дубу, зубы колаў - з грабу, яблыні, дубу.

У 16-м стагоддзі з’явіліся вежавыя шатровыя млыны або як іх звалі ў Еўропе, “млыны ў блюзах”. Гэта манументальныя, высокія (да 18 м), мураваныя конусападобныя або драўляныя васьмігранныя на зрубе з 3-4 вянкоў, звужаныя дагары будынкі. Шатровыя млыны больш складанай у параўнанні з “казлоўкамі” канструкцыі і складаюцца з двух асноўных частак: нерухомай апорнай асновы і лёгкай верхняй шапкі з крыламі або шатра, якія паварочваюцца. Шацёр паварочваўся вакол восі на падшыпніках, на жалезных шарах або на драўляных палазах. Бакавыя каркасныя сцены абшываліся дошкамі, часам гонтай. Прынцып працы шатровага млына засноўваўся таксама на выкарыстанні сістэмы гарызантальных і вертыкальных валоў, злучаных шасцярэнчатымі перадачамі.

Вядомыя былі млыны, якія спалучалі ў сабе абодва канструктыўных рашэнні. На тэрыторыі музея народнай архітэктуры і побыту пад Менскам экспануецца



***Вятрак у Тарнове***

млын - “пальтрак”, які грунтуецца не толькі на масіўным кантаваным восевым слупе, але і на драўляным коле, што ляжыць на камянях, у кола ўмантаваны колцавы металічны полаз, па якім паварочваецца корпус млына. (3)

Існавалі таксама невялікія ветракі, якія прызначаліся для абслугоўвання адной або некалькіх сялянскіх гаспадарак. Гэтыя млыны мелі вышыню 2-4 м., усталёўваліся непасрэдна на зямлю. Часам іх убудоўвалі ў жылую хату, восевы слуп прапускалі праз канёк даху. Вядомыя былі і перавазныя млыны на колах.

У ВКЛ ветракі з’явіліся ў XVI стагоддзі. У пачатку 1860-х гадоў у Гарадзенскай губерні налічалася 374 ветраных і 592 вадзяныя млыны. (4) На Лідскай зямлі ветракі існавалі ў XIX - першай палове XX стагоддзя ў невялікай колькасці. Гэта і зразумела - тэрыторыя багатая праточнымі вадаёмамі. У сучасных межах Лідскага раёна мне вядомыя пяць ветракоў - у Тарнове, Лідзе, Кульбаках, Капачэлях і Козічах.

Самая старажытны, тэхнічна пісьменна і капітальна збудаваны шатровы вятрак знаходзіцца ў Тарнове. Збудаваны ў 1880-х гадах па распараджэнні і на сродкі ўладальніка Тарноўскага маёнтка графа Зміцера Маўраса . Размешчаны ён за 700 м на ўсход ад палаца. Гэты магутны трохярусны конусападобны будынак, складзены з гранітных валуноў на цэментавай рошчыне. Дыяметр асновы 11,6 м. Верхняя частка млына ўяўляла сабой лёгкі драўляны шацёр, які паварочваўся






***Вятрак у Лідзе***

на металічных шарах вакол сваёй восі па кірунку да ветру. У 1948- 51 гг. млын цалкам забяспечваў памол збожжа, якое нажыналася ў саўгасе "Тарнова". Цяпер ад млына захаваліся толькі сцены асноўнага аб'ёму.

У Лідзе вятрак размяшчаўся на Крупаўскім завулку каля абутковай фабрыкі і належаў у 1914 г. Янкелю Моўшавічу Віленскаму. Захаваліся тры фатаграфіі гэтага млына, зробленыя ў 1916-1917 гг. Млын драўляны, шатровы, стаіць на пагорку, побач дзве хаты і невялікая адрына.




*Вятрак у Лідзе*

Яшчэ адзін вятрак знаходзіўся на хутары каля в. Кульбакі і належаў Стасю Грышэлю. Вядома, што працаваў ён падчас Другой Сусветнай вайны і некаторы час пасля.



*Вятрак у Козічах*

Капачэльскі вятрак быў 3-павярховы, драўляная, невялікі па кубатуры, на катках, паварочваўся лопасцямі да ветру. Макет прыдумаў і ажыццявіў Фелікс Капачэль падчас вайны. Адпрацаваў гады чатыры, прыйшлі камуністы: "Разбяры, а то пасадзім". Разабраў у 1949 г. Дачка мельніка Геня Феліксаўна і яе муж жывуць у Капачэлях. Там пад плотам яшчэ ляжаць каткі ад млына.

Млын у Козічах дзейны і належыць сям'і Кедык. Гэта невялікі 8-лопасцевы вятрак, умацаваны на металічным вале над дахам адрыны. Драўляныя лопасці перадаюць круцільны момант на вал, які праз ланцужную перадачу круціць верхні жоран. Пры сярэднім ветры вятрак за гадзіну перамолвае да двух вёдраў збожжа. Прыдумаў і пабудаваў гэты мініяцюрны вятрак Часлаў Мацвеевіч Кедык, пенсіянер, трыццаць гадоў ён прапрацаваў слесарам на збожжатоку. (5)

Павінен адзначыць, што ў Лідзе і наваколлях былі таксама млыны, якія працавалі ад механічных прывадаў. У Сяльцы ў 1920-30-я гады быў паравы млын з лакамабілем, які працаваў на абрэзках дошак. У Кербедзях быў млын, які працаваў на рухавіку ўнутранага згарання. Некалькі паравых млыноў было і ў Лідзе, у прыватнасці на вуліцы Дваранскай у Абрама Беркавіча быў паравы млын, які ў 1913 г. прыносіў яму 300 руб. прыбытку.

**Літаратура:**


1. Бродель Ф. Материальная цивилизация, экономика и капитализм, XV-XVIII вв.
2. Техника в ее историческом развитии. М.1979. с.98.
3. Сергачев С.А. Белорусское народное зодчество. Минск. С.140-144.
4. Канавальчык Ю. Крылы на вежах.// Культура. 2003. № 35
5. Талмачова С. Вятрак над Козічамі. // Лідская газета.

***Уладзімір Васько***

# Пад аўрай Васіля Быкава

Васіль Уладзіміравіч, дарагі і незабыўны, няўжо цябе зараз няма сярод нас, няўжо зараз не гучыць над планетай твой роўны, пранікнёны голас, часам напоўнены шчырым, здаровым гумарам, часам трывогай і неспакоем за лёс нашай Айчыны, за лёс нашай зямелькі роднай, якая дала табе спачын пасля доўгіх і нялёгкіх дарог?

Не, Васіль Быкаў з намі. Такое адчуванне ніколі не пакідае мяне. Я шчаслівы, што набыў усё, што ён напісаў, яго неўміручую спадчыну, якой няма цаны. І ўсё, што ён напісаў, я прачытаў. А многія творы не па адным, а па два, па тры і па чатыры разы (“Сотнікаў”). І кожны раз знаходжу ў іх штосьці новае для сябе, няўлоўнае з першага разу. Вобраз Васіля Уладзіміравіча ва ўсю веліч паўстае са старонак яго твораў, ён жыве ў іх, а значыць, жыве і ў нас.

Васіль Быкаў - мая студэнцкая маладосць, мае светлыя гады. З 1960 года па 1965 год я займаўся ў Гарадзенскім дзяржаўным педагагічным інстытуце імя Янкі Купалы і ўвесь гэты час даволі часта сустракаўся з Васілём Уладзіміравічам.

Зараз, калі я пішу гэтыя радкі, перада мною раскрытаю ляжыць кніга “Гродна”, выдадзеная выдавецтвам “Беларусь” у 1975 годзе. А ў ёй на цэлую старонку буйным планам - партрэт Васіля Быкава. Добра прыкметны ўсе рыскі яго мужнага адкрытага твару, а засяроджаны пранікнёны позірк яго ясных, праўдзівых вачэй гаворыць: не адступіся ад ісціны, усё перажыві - і ты пераможаш. Менавіта такім, і нават намнога маладзейшым, Васіль Уладзіміравіч запомніўся мне.

Першы раз мне пашчасціла сустрэцца з Васілём Уладзіміравічам на занятках літаратурнага аб’яднання пры рэдакцыі газеты “Гродзенская праўда”. Гэта было восенню 1960 года. Васілю Быкаву ў той час было трыццаць шэсць гадоў, а мне — дваццаць тры.

Заняткі праходзілі ў Доме Элізы Ажэшкі. Вёў іх Аляксей Карпюк. Сабралася чалавек пятнаццаць. З пединстытута прыйшлі разам са мною Уладзімір Шурпа, Сяргей Габрусевіч, Марк Віленскі, Аляксей Дземідовіч і Канстанцін Станкевіч. Паэты чыталі свае вершы, а пасля амаль усе прысутныя іх абмяркоўвалі. Дайшла чарга і да мяне. Я прачытаў каля дзесяці вершаў. Некалькі чалавек падзяліліся сваімі ўражаннямі ад іх. Калі ахвочых выступіць больш не знайшлося, Аляксей Карпюк прамовіў:

- Васіль Уладзіміравіч, што вы скажаце?

З-за століка падняўся стройны, русавалосы, з чыстым, свежым тварам чалавек, які сядзеў між намі ў невялікай чытальнай зале, і які, як мне падалося, не намнога старэйшы за нас, студэнтаў. Ён адзначыў, што з прачытанага мною найбольш уражвае пейзажная лірыка, што ў вершах гэтага кшталту адчуваецца натуральнасць дэталей і непасрэднасць аўтара, ёсць запамінальныя радкі. Вершы ж грамадскага характару маюць патрэбу у дапрацоўцы, у іх не адчуваецца асобы аўтара, яны ў некаторай ступені дэкларатыўныя.

У той час я не ведаў, што гэта быў Быкаў і паціхеньку, каб ніхто не пачуў, запытаў у Шурпы, які сядзеў побач са мною, і які на два курсы ішоў раней за мяне, (я быў на першым).

- Быкаў,- адказаў ён. - У рэдакцыі “Гродзенскай праўды” працуе.

Ад першага разу і ён сам, і словы вымаўленыя ім, неяк натуральна запалі мне ў душу і ў памяць. Я прыйшоў вечарам у свой студэнцкі інтэрнат і яшчэ раз удумліва, не спяшаючыся, прачытаў тыя вершы, якія выносіў на суд літаб’яднання, і сам для сябе зрабіў вывад: Быкаў сказаў праўду. Вершы грамадскага гучання падаліся мне нязграбнымі, чужымі, а ў пейзажнай лірыцы было сёе-тое ад свайго “я”.

Літкансультантам на той час у “Гродзенскай праўдзе” працаваў Міхась Васілёк, а Васіль Быкаў, мабыць, - у сакратарыяце.

Неўзабаве, той жа восенню, Міхась Васілёк памёр, а рэдакцыя “Гродзенскай праўды” пераехала ў новы будынак. Літкансультантам стаў Васіль Быкаў. Неяк я сабраў свае вершы і панёс у рэдакцыю. У калідоры сустрэў незнаёмую жанчыну і спытаў:

- Каму можна паказаць свае вершы?

- Быкаву, - адказала яна. - Ідзіце па калідоры і пасля направа. У аддзеле культуры ён.

Гэта, як аказалася пазней, была Ірына Міхайлаўна Суворына - загадчыца ўпамянёнага аддзела, якая пасля стала жонкай Васіля Быкава.

Я зайшоў. Васіль Уладзіміравіч падняўся з-за стала і першым падаў мне руку. У яго была такая звычка - заўжды вітацца першым - гэта, відаць, каб мы, студэнты, былыя вяскоўцы, не так губляліся. Праўда, гэта падбадзёрвала нас, прыдавала духу.

Ён адабраў тое-сёе з прынесенага і паабяцаў, што прапануе ў літстаронку. Пазней вершы былі надрукаваны. А я ўсё часцей пачаў заглядваць у рэдакцыю “Гродзенскай праўды” - калі адзін, а калі разам з сябрамі. Ні разу не прапусціў заняткаў у літаб’яднанні. Пра гэта Васіль Уладзіміравіч успамінае ў сваёй кнізе “Доўгая дарога дадому”, дзе згадвае прозвішчы Уладзіміра Шурпы і маё.

Іншы раз я заходзіў у рэдакцыю і без вершаў. Бадзяюся, бадзяюся па горадзе - і раптам падумаю: давай загляну да Васіля Быкава - хоць розуму набяруся. Ішоў я да яго, як на споведзь, а выходзіў з кабінета, як з чысцілішча. Так ён уздзейнічаў не

на аднаго мяне, а на ўсіх маіх сяброў, як яны ў размове прызнаваліся. Пасля сустрэчы з Быкавым, сапраўды, неяк станавілася лёгка і светла на душы, у ёй усталёўвалася святая, нерастлумачальная гармонія. Сваімі наведваннямі рэдакцыі я, магчыма, і назаляў Васілю Уладзіміравічу, але выгляду ён не паказваў. Наадварот, пры маім з’яўленні ў яго кабінеце, ён як быццам ажыўляўся і з зацікаўленасцю слухаў мае вершы. Праўда, любіў тонка і востра прыпусціць толіку гумару ў мой адрас, што Ірыну Міхайлаўну Суворыну, якая сядзела з ім у адным кабінеце, і мяне здорава смяшыла (за гумар я не крыўдаваў). Аднойчы, напрыклад, ён сказаў:

- Ты, Васько, пішаш, як ідзе па вуліцы салдат, у якога на адной назе бот, а на другой - лапаць: то грукне ботам, то шлёпне лапцем. А патрэбна штонебудзь адно: ці грукаць, ці шлёпаць. Патрэбна гармонія ў творах. Разумееш?

Сам жа Васіль Уладзіміравіч усміхаўся стрымана, з характэрнай для яго цёплай хітрынкай у вачах. Трэба сказаць, што заўвагі яго падштурхоўвалі зусім па-іншаму глядзець на свае творы.

Адчуваючы высокі інтэлект і глыбіню думкі Васіля Быкава, часам я звяртаўся да яго па параду чыста жыцейскага характару. Было такое: аднойчы, знаходзячыся ў Доме адпачынку “Рось” Ваўкавыскага раёна і скачучы з трампліна на лыжах, я падкруціў сабе нагу - і яна перастала выпроствацца ў калене. Адправілі мяне ў Гародню, у гарадскую бальніцу. Прафесар пры аглядзе сказаў, што прыйдзецца рабіць аперацыю, і даў мне суткі на роздум. Засмучаны, я пасядзеў крыху ў палаце, пагараваў, а пасля падумаў: “Ці не патэлефанаваць Васілю Быкаву, усё ж ён - удзельнік вайны, сам не раз быў паранены. Можа ён дасць якую параду”. Я проста з бальніцы, з паста, патэлефанаваў яму.

- Ведаеш, што, Валодзя,- прамовіў ён,- на калене даволі складаная аперацыя. Там сухажыллі. Глядзі, каб яны цябе зусім не зрабілі інвалідам. Няхай пашукаюць якія іншыя сродкі: праграванні ці гразь.

Я адмовіўся ад аперацыі і лячыўся амбулаторна: на каленны сустаў накладвалі гразь, прыкладвалі нейкія металічныя пласцінкі. Разам з тым, не прапускаў заняткаў. Клыпаючы, хадзіў у інстытут. Праўда, тут мяне маральна падтрымлівалі хлопцы з майго пакоя. Каб не выдаць сапраўднага клыпатага, і яны пачалі кульгаць. Прычым кожны з іх прыдумаў сваю арыгінальую манеру накульгвання. Асабліва “па-мастацку” рабіў гэта Ваня Лашко. Ён неяк нязграбна выкідваў правую нагу ў бок, а на левую рэзка прысядаў. Пры падыходзе да інстытута, у калідоры і ў кабінетах мае сябры браліся за сваё штукарства. Не забываліся яны рабіць гэта і на перапынках. Студэнты смяяліся, асабліва дзяўчаты. І ўсе казалі:

- Як гэта раптам вы ўсе заклыпалі?

У нядзелю я паехаў на аўтобусе ў лясны масіў Пышкі, што туліўся да самага горада. Ішоў па вузкай, пратаптанай у снезе сцяжынцы, пазіраў на калматыя ад снегу галінкі соснаў - і раптам у калене маім штосьці пстрыкнула, і нага выпрасталася. Далей я пакрочыў нармальна, як хадзіў раней. Можаце сабе ўявіць маю радасць! “Я не інвалід” - вырвалася ў мяне з грудзей. - Я не інвалід!”

А ў панядзелак я ўжо быў у кабінеце Васіля Быкава. Удзячнасці маёй у яго адрас не было мяжы!

- Я ж табе казаў, - прамовіў Васіль Уладзіміравіч. - Аперацыя на калене - штука сур’ёзная. Гэта не тое, што выразаць апендыцыт.

Помню, мы ехалі выступаць у вайсковую частку, якая размяшчалася ў лесе, далекавата ад горада. У грузавой вайсковай машыне, крытай брызентам, па адзін бок на лаўцы сядзелі Васіль Быкаў, Марк Віленскі і Уладзімір Шурпа, па другі - Данута Бічэль, Сяргей Габрусевіч і я. Была позняя халодная восень. Машыну трэсла на калдобінах і гразевых мерзляках, на каранях дрэў, якія перараззалі дарогу. У кузаве завіхурваўся сцюдзёны вецер. Быкаў шмат жартаваў, казаў:

- Ну, усе позіркі салдатаў будуць скіраваны на Дануту.

- Так ужо, - адказвала яна і рассыпала па кузаве чаромхава-бэзавыя смяшынкі.

- Адна ўсяго дзяўчына між нас. Я ведаю рэакцыю салдат.

Маладая, прыгожая, чарнавокая Данута Бічэль усё адбівалася словамі ад быкаўскіх кампліментаў і вельмі прывабна паружавела.

Пасля Васіль Уладзіміравіч засунуў руку за пазуху і выняў з унутранай кішэні дэмісезоннага паліто нейкую кніжку.

- Во кнігу выдалі, - прамовіў ён,- “Жураўліны крык”.

Мы ўсе ахнулі. Ні ў кога з нас яшчэ не было кнігі. А тут побач сядзіць аўтар, наш старэйшы сябра. Мы па-шчыраму пазайздросцілі яму, парадаваліся такой важнай падзеі ў яго жыцці. І глядзець на Быкава сталі ўжо, як на Бога. Гэта была яго першая кніга. Ну, а ў салдацкім клубе ўсё было так, як Васіль Уладзіміравіч напрарочыў. Але ж і аўтара “Жураўлінага крыку” афіцэры і шарагоўцы слухалі з затоеным дыханнем.

Пасля першай кнігі Васіль Уладзіміравіч. узлятаў у зеніт сваёй славы вертыкальна. У Маскве адна за другой друкаваліся яго аповесці. Найчасцей у часопісе “Новый мнр”, рэдактарам якога быў Аляксандр Твардоўскі. У той час казалі, што менавіта Твардоўскі першым убачыў у асобе Васіля Быкава таленавітага празаіка і прадказаў яму зайздросную літаратурную будучыню. Так і сталася.

А ў нашым інстытуце і выкладчыкі, і студэнты адно толькі і гаварылі, што Васіля Быкава вынесла на літаратурную арбіту “Трэцяя ракета”. Яго запрашалі на сустрэчы ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, у школы, у тэхнікумы, па яго прысылалі машыны з раённых цэнтраў. Хоць, я добра ведаю,

што выступаць ён не любіў і казаў:

- Няхай чытаюць творы. Навошта яшчэ сябе выстаўляць на паказ як экспанат.

І яшчэ адзін цікавы эпізод. (Я думаў, прыгадваць яго тут ці не - і рашыўся). Сакратар абкама партыі па ідэалогіі Еўдакія Емяльянава, даволі інтэлігентная і разумная жанчына, у мінулым выкладчык ВНУ, запрасіла нас на гутарку з нагоды свята Кастрычніка. Яна гаварыла, каб мы што-небудзь з твораў прысвяцілі гэтай даце. І згодна са спісам, які ляжаў перад ёю, персанальна апытвала кожнага.

Карпюк сказаў, што піша аповесць, але тэматыка ў ёй зусім не звязана з Кастрычнікам, і што ён не ведае, ці разумным было б ставіць над ёй такое прысвячэнне.

- А новую я ўжо не паспею напісаць,- расчаравана закругліў ён.

Быкаў жа прамовіў:

- У мяне ўсе аповесці ваеннага зместу. Таксама з прысвячэннем атрымліваецца пэўная нестасоўка. Але, калі нават я і напісаў бы новую аповесць адпаведнага зместу, то пакуль яна будзе ўключана ў план, пакуль будзе праходзіць усе інстанцыі, пакуль яе надрукуюць, дык і Кастрычнік пройдзе.

Дайшла чарга і да нас, літаратурнай галоты. Што мы маглі сказаць? Абяцалі, што будзем старацца, будзем пісаць, а атрымаецца што-небудзь з нашых патугаў ці не - не ведаем. Летуценнае расчараванне адбілася на твары сакратара па ідэалогіі, аднак яна развіталася з намі даволі тактоўна і шчыра.

Мы выйшлі на вуліцу. Быў цёплы, бязхмарны вераснёўскі дзянёк. На плошчы Савецкай «віравала» моладзь. Усё радавала нас. Ля скверыка Карпюк развітаўся з кожным за руку і пакіраваў дадому. А мы пайшлі ўніз па Савецкай і дабраліся да вуліцы Ажэшкі, запруджанай звычайна ў пачатку навучальнага года студэнтамі. Васіль Уладзіміравіч жартаваў, пасмейваўся, і пабочнаму чалавеку лёгка можна было прыняць яго за студэнта - такім ён быў маладым і вонкавым выглядам і настроем і, здавалася, нічым не адрозніваўся ад нас.

Насупраць педінстытута, на рагу вуліц Леніна і Ажэшкі, стаяла кавярня ці закусачная, з дахам накшталт каляровага (у палоску) парасона. Мы заглянулі туды. Якраз нікога не было. Васіль Уладзіміравіч прапанаваў апробаваць сухое малдаўскае віно. Мы тут жа ўвішна пасунулі рукі ў свае кішэні.

- Супакойцеся, - спыніў нашы памкненні Быкаў. - Студэнты. Бедната. Няма чаго ў вас там трэсці.

Ён замовіў тры бутэлькі і паўкілі цукерак. Пакуль ён разлічваўся, мы паставілі ўсё гэта на стол.

- Авансам адзначым Кастрычнік, - прамовіў Васіль Уладзіміравіч. І мы ўсе па старой завядзёнцы дружна чокнуліся. У нас на сэрцах стала ўтульна і цёпла, весела і сонечна. Ах, маладосць, маладосць, чаму ты так хутка збегла ад нас і ад нашага літаратурнага настаўніка?!

Цікава праходзілі заняткі літаб'яднання пры рэдакцыі «Гродзенскай праўды». Пры абмеркаванні твораў выказваліся амаль усе, крытыкавалі адзін аднаго, спрачаліся, кожны даводзіў свае думкі, як хацеў. Помню абмяркоўвалі адзін раз мае вершы. У калідоры, перад гэтым, мяне сустрэла Ірына Суворына і падбадзёрыла:

- Сёння ты імяніннік. Трымайся.

Даклад рабіў пажылы паэт, падпалкоўнік у адстаўцы, Яўген Яўсцігнееў, які часта пісаў скаргі ў ЦК КПБ, чаму нідзе не друкуюць яго вершы. Найбольш ён прычапіўся да ўрыўка з маёй паэмы «Цаліна», які я даслаў з цаліны, будучы там са студэнцкім будаўнічым атрадам, і які ўжо быў надрукаваны ў «Гродзенскай праўдзе».

Васіль Быкаў не ўтрываў пасля яго крытыкі. Ён падняўся і зазначыў:

- Якраз тыя месцы, якія вы крытыкуеце, самыя моцныя ў паэме. А дэталі не прыдуманыя, не штучныя, як вы кажаце, а натуральныя, дакладныя і даюць магчымасць убачыць каларыт той мясцовасці, якую аўтар апісвае, адчуць тую абстаноўку, у якой апынуліся студэнты. Мне, напрыклад, спадабаўся ўрывак.

Падтрымалі мяне рэдактар газеты Андрэй Колас і загадчык аддзела Барыс Папоў, якія засталіся пасля работы і прысутнічалі на літаб'яднанні, а таксама мае інстытуцкія сябры. Карта Яўсцігнеева была бітай.

У 1965 годзе я скончыў інстытут і паехаў настаўнічаць на Дзятлаўшчыну. Пасля перайшоў на працу ў рэдакцыю мясцовай газеты «Перамога», затым пераехаў у Ліду, дзе таксама ўладкаваўся на працу ў рэдакцыю аб'яднанай газеты «Уперад». І з Васілём Уладзіміравічам бачыўся ўсё радзей і радзей. Уласна кажучы, адбыліся ўсяго чатыры сустрэчы: адна на Свіцязі, другая ў Лідскім Доме афіцэраў, дзе ён выступаў з Генадзем Бураўкіным, Рыгорам Барадуліным і Васілём Зуёнкам (на сцэну запрасілі і мяне), трэцяя - на пленуме Саюза пісьменнікаў Беларусі ў Доме літаратараў, чацвёртая - у фае гасцініцы «Ліда», дзе ён жыў падчас чарговага прыезду ў горад з Генадзем Бураўкіным і Алесем Разанавым. Гэта, аднак, былі кароткія сустрэчы і мінутныя гутаркі. Пасля я бачыў толькі фотаздымкі Васіля Быкава ў часопісах, газетах і ў яго кнігах, а самога - у тэлеперадачах.

Аднойчы я паслаў яму паштоўку, у якой павіншаваў з 60-годдзем з дня нараджэння і пажадаў напісаць звяз баявых аповесцей. Не падлічваў, сабраўся з іх звяз ці не, але перакананы: колькі іх ні ёсць - праўдай сваёй і сілай мастацкай вартасці яны паспяхова заваёўваюць сэрцы мільёнаў людзей.

# Песні Яўгена Петрашэвіча на вершы лідскіх паэтаў

Яўген Петрашэвіч нарадзіўся 18 чэрвеня 1930 года ў вёсцы Падбараны Мастоўскага раёна, беларускі музычны педагог, кампазітар. З 1975 года кіруе ўзорным фальклорным ансамблем “Дударыкі” пры Гарадзенскім абласным палацы дзіцяча-юнацкай творчасці. Калектыў выступаў з канцэртамі ў Беларусі, Літве, Польшчы, Францыі. Аўтар вакальна-інструментальных і вакальна-харэаграфічных кампазіцый, шматлікіх песень, рамансаў, інструментальнай музыкі. Піша песні на ўласныя словы, апрацоўвае народныя песні. Займаецца скульптурай (камень, дрэва). Сябруе з лідскімі паэтамі, напісаў на іхнія словы шэраг песень.

## Расцвітай, мая харошая

*Словы П. Макарэвіча* *Музыка Я. Петрашэвіча*

Ніў прынёманскіх красавіца
Над каралямі азёр,
Аж да неба дакранаецца
Ліда-зорка паміж зор.

***Прыпеў:*** Расцвітай, мая харошая,
Радуй песней салаўя.
Шэсць вякоў цябе ўпрыгожвае,
Ліда слаўная мая.

Пад вясёлкай шляхапровада
Пралятаюць паязды:
Падарункаў тваіх золата
Ўсе чакаюць гарады.

***Прыпеў:*** Расцвітай, мая харошая,
Радуй песняй салаўя.
Шэсць вякоў цябе ўпрыгожвае,
Ліда слаўная мая.

Свету стала ты знаёмая
За мінулыя гады.
Ліда й вуснамі мядовымі
Зачаруе назаўжды.

***Прыпеў:*** Расцвітай, мая харошая,
Радуй песняй салаўя.
Шэсць вякоў цябе ўпрыгожвае,
Ліда слаўная мая.

# Добры дзень, горад Ліда

***Словы У. Васько*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***



Добры дзень, горад Ліда, -
Наша слава і доля,
Лёгкакрылая песня і радасць мая.
Прывітанне вам, ліпы,
Прывітанне, таполі,
Прывітанне, бяроз маладая сям’я!

***Прыпеў:*** Добры дзень, горад мой.
Прывітанне, бяроз маладая сям’я!

Колькі вуліц і сквераў,
Колькі школ і заводаў.
Уздымаецца замак на ўзгорку крутым.
Ты расцеш і квітнееш
Разам з нашым народам.
Над табой пралятаюць, як птушкі, гады.

***Прыпеў:*** Добры дзень, горад мой.
Над табой пралятаюць, як птушкі, гады.

І сівыя легенды,
І былыя паданні,
І вясёлыя песні бяруць у палон.
Добры дзень, родны горад,
Добры дзень вам, лідчане!
Колькі светлых усмешак і слаўных імён!

***Прыпеў:*** Добры дзень, горад мой.
Колькі светлых усмешак і слаўных імён!

Па-геройску граміла
Ты усякіх чужынцаў,
Каб не ведаць няволі варожай цяпер.
Ты умееш змагацца,
Працаваць, весяліцца,
І шчаслівае заўтра чакае цябе.

***Прыпеў:*** Добры дзень, горад мой,
І шчаслівае заўтра чакае цябе!

# Люблю прынёманскія сцежкі

***Словы М. Мельніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***



Люблю прынёманскія сцежкі,
Сады над ціхаю вадой.
Твое вясёлыя усмешкі,
Край светлы мой, ты край цудоўны мой.

***Прыпеў:*** Край светлы, край цудоўны,
Прынямонскі краю мой.

Люблю твае сівыя вежы,
Узлёты птушак над ракой
І васільковых даляў свежасць,
Край светлы мой, ты край цудоўны мой.

***Прыпеў.***

Сады вішнёвыя ля хаты
Люблю вясенняю парой.
Люблю, калі пяюць дзяўчаты,
Край светлы мой, ты край цудоўны мой.

***Прыпеў.***

Тваё раздолле залатое
Люблю сыноўняю душой,
Ну, як жа не любіць такое.
Край светлы мой, ты край цудоўны мой.

***Прыпеў:*** Край светлы, край цудоўны,
Прынямонскі краю мой.

# Лідскі замак

***Словы С. Судніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

Між белых снягоў і белых нябёсаў
Чырвоныя сцены стаяць.
За ласку вячыстых і зменлівых лёсаў
Стагоддзі над імі бруяць.

Стагоддзі няслі разруху і войны,
Пажарамі горад пылаў.
А сімвал зямлі, у вяках неадольны
Мацней да муроў прырастаў.

Парушаны сцены, вежы ўзарваны,
І цалкам у крушні залёг,
Ды ў сіле нязменнай і славе нязганнай
Яго абярог моцны Бог.

І вось з-пад грахоў, бяздоння наносаў
Зноў час нам спадобіў паўстаць...
... Між белых снягоў і белых нябёсаў
Чырвоныя сцены стаяць.

# Шуміць, бруіць Лідзейка

***Словы С. Судніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

Шуміць, бруіць Лідзейка
Струменямі вады.
Бягуць, лятуць калейкай
Імклівыя гады.

Ды тольдкі замак лідскі,
Як некалі стаіць,
Ды толькі дух ліцьвінскі,
Як некалі іскрыць.

Ступае рыцар збройны
Па замкавай гары,
На тарчы пашчапанай
Наш слаўны лёс гарыць.

Над вежаю Пагоня
У новы век ляціць.
Наш вольны крок сягоння
Нікому не спыніць.

Полацк будзіць звон вячовы
З верхняе званіцы,
І да бою люд гатовы
На пляцы тлуміцца.

Князь Мінгайла ўсердаваны
Полацкім свавольствам,
Хоча помсціць палачанам
Ды з усім геройствам.

Дарам збройны люд храбрыцца,
Князь перамагае,
І крывіцкая сталіца
Браму адчыняе.

З таго часу ў вечнай згодзе
Полацк быў з Літвою,
І не помняць у народзе
Нават бойкі тое.

# Родная мова

***Словы Л. Шот***

***Музыка Я. Петрашэвіча***

Родная мова, нібы крыніца
З чыстай, студзёнай вадой.
Нібы пад сонцам
Мірным серабрыцца
І ажыўляе вясной.

І як вясёлка на небе ззяе,
Так мілагучна гучыць
Песняй жаўронка
Над маёй старонкай
У даль так нястрымна ляціць.

Родная мова – голас матулі
У будні і святы гучыць.
Дзеці, гудзіце,
Нібы пчолкі ў вуллі
Мова – адзежа душы.

# Дзітва

***Словы М. Мельніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

Сарамлівай вясковай дзяўчынаю,
Што хаваешся ў вербах і травах
Ты юнацтва маё салаўінае,
Ты мая патаемная мара.

***Прыпеў:*** Дзітва, Дзітва,
Ты мая патаемная мара.

Кожнай хваляй сваёй, кропляй кожнаю
Ты глыбока ў душу пранікаеш,
Песняй мілаю і пяшчотнаю
Землякоў і гасцей сустракаеш.

***Прыпеў:*** Дзітва, Дзітва,
Землякоў і гасцей сустракаеш.

Тваёй добрай, вясёлай усмешкаю
Я заўсёды жадаю сагрэцца.
І прыйду да цябе песняй-сцежкаю –
І любоў адзавецца у сэрцы.

***Прыпеў:*** Дзітва, Дзітва,
І любоў адзавецца у сэрцы.

# Спявайце, дзеці, песню

***Словы М. Мельніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

Умерана, радасна

Спеў

f-p

Спя- ва- йце, дзе- ці пе- сню пра наш цу- до- ўны край. Ня- хай жа ве- цер ве- сні а- бу- дзіць зыро- чны гай. Ня гай.




Спявайце, дзеці, песню
Пра наш цудоўны край.
Няхай жа вецер весні
Абудзіць змрочны гай.

Краса зямлі любімай
Загляне у вакно.
А сонца над радзімай
Для нас усіх адно.

Хай кожны з нас сталее
І ў радасці жыве,
І ветразем надзеі
Удалячынь плыве.

# Бярозка

***Словы М. Мельніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

Умерана, з цеплынёй

Ты ча-го су-му-еш, ю-на-я бя-ро-зка? Што ця-бе хва-лю-е, мі-ла-я, ска-жы?
Мо-жа клён га-рэ-зны, што шу-міць за вё-скай, у-звя-нтэ-жыў стру-ны ма-ла-дой ду-шы?
Мо-жа клён га-рэ-зны, што шу-міць за вё-скай, у-звя-нтэ-жыў стру-ны ма-ла-дой ду-шы.




Ты чаго сумуеш, юная бярозка?
Што цябе хвалюе, мілая, скажы?
Можа, клён гарэзны, што шуміць за вёскай,
Узбянтэжыў струны маладой душы.

Можа, адчуваеш ты маю трывогу.
Боль вялікай страты у маім жыцці...
Не вярнуць ніколі той шчаслівай песні,
Што была, як сонца, для мяне заўжды.

Годы пралятаюць, нібы тыя коні,
Колькі прамінула ў радасці хвілін.
Восень разуквеціць серабрынкай скроні,
Астаецца толькі светлы успамін.

# Каханая мая

***Словы М. Мельніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

Павольна, задушэўна

До-ўга-до-ўга пе-сня не зма-ўка-ла Над ра-кой вя-чэ-рня-ю па-рой,

І так мі-ла, ла-ска-ва гу-ча-ла, са-гра-ва-ла ду-шу ця-плы-нёй.

І так мі-ла,




Доўга-доўга песня не змаўкала
Над ракой вячэрняю парой,
І так міла, ласкава гучала.
Саграваla душу цеплынёй.

Плаўна-плаўна рэчка працякала
Ў незнаёмы і далёкі край,
А бярозка сумная стаяла
І ківала кронаю: “Бывай...”

Не забуду той чароўнай стрэчы,
У дуброве песні салаўя,
З той пары у ціхі летні вечар
Ты завеш, каханая мая...

# Ліда - горад мілы

***Словы М. Мельніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

Умерана, проста

Го-рад Лі-да, го-рад мі-лы сьве-тлы як вя-сна.
Лю-дзі мі-рна і ру-плі-ва тут жы-вуць з да-ўна.
Лю-дзі мі-рна і ру-плі-ва тут жы-вуць зда-ўна.

Горад Ліда, горад мілы
Светлы, як вясна.
Людзі мірна і рупліва
Тут жывуць здаўна.

Тут акінь наўкола вокам,
Запяеш душой.
Горад ведаюць далёка
Ў нас і за мяжой.

З кожным днём растуць будынкі
Да нябёс і ўшыр.
І шчаслівае дзяцінства
Ў песнях славіць мір.

Ліда - гарадок з душою.
Наш табе паклон.
Над табою хай лунае
Многа шчасных дзён.

# Лідчанка

***Словы і музыка Я. Петрашэвіча***



Пакахала дзяўчына-лідчанка
Маладога, прыгожага Янка.
Пакахала на радасць, уцеху,
А ён сеў на каня і паехаў.

Ён паехаў у горад Гародню
І купіў падаруначак модны
Так дзяўчыну-лідчанку разчуліў,
Што пайшла з мілым Янкам на гулі

Мілаваліся сціпла па-свойску,
Але час надышоў быць у войску.
Праліла слёз лідчанка не мала.
Калі Янка служыць выпраўляла.

Так бывай жа, дзяўчына-лідчанка,
Ты нявеста мая, не каханка.
А як з войска дамоў я вярнуся,
Абяцаю, з табой ажанюся.

# Бярозанька

***Словы Д. Бічэль*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***



Ой, бярозанька,
Вецце - косы паразвесіла.
Шапчу адна
З вятрамі дапазна
І сумна мне і весела

Ой, заранaчка,
Адзіноту рана выбрала.
Твой сумны спеў
З’явіцца не паспеў
З далёкіх сініх выраяў.

Ой, бярозанька,
Доля ў нас з табой аднолькава.
Пяю сама,
Каханага няма
Суседа сінявокага.

# Палюляй мяне ў аблоках

***Словы В. Пазнуховай*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

Песціць мой слых
Мілы матыў
Там дзесь пяюць купалінку.
Ліпеньскі пах,
Як добры знак
Дорыць нам шчасця хвілінку.

***Прыпеў:*** Палюляй мяне ў аблоках,
У аблоках палюляй.
Мой каханы, яснавокі,
У вечар тайнасці глыбокай
Палюляй мяне, люляй.
Палюляй мяне у хмарцы,
У хмарцы шчасця палюляй.
Патаемнай светлай казкай
У вечар млоснасці купальскай
Палюляй і залюляй.

Папараці цвет –
Шчасця букет,
Радасць ад нашае стрэчы.
Вогнішча чад,
Чулы пагляд.
Нас хмеліць купальскі вечар.

***Прыпеў.***

Клікнем, “люблю”
На ўсю зямлю
У цеплых купальскіх абдымках.
А на губах мядовы смак
Кліча на аблачынку.

***Прыпеў:*** Палюляй мяне ў аблоках,
У аблоках палюляй.
Мой каханы, яснавокі,
У вечар тайнасці глыбокай
Палюляй мяне, люляй.
Палюляй мяне у хмарцы,
У хмарцы шчасця палюляй
Патаемнай светлай казкай
У вечар млоснасці купальскай
Палюляй і залюляй.

# Мой гарадочак Ліда

***Словы Л. Вінніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

умерана, замілавана

Dm F B A7 Dm F G7 A7 B D7/A
Па

Gm /E Dm/F /H E7 A7 B D7/A
ву- ла- чках пра- йду на- лю- ба- ва- цца ві- дам. Ля

Gm Gm/B Dm /C G7/H C7 F A7/E
крэ- па- сьці і зноў у за- ду- ме па- ста- ю. Мой

Cm/Eb D7 Gm Dm/F Gm/E C7 Dm B
га- ра- док за- снуў, мой га- ра- до- чак Лі- да. У су-

Gm A7 B7 Dm/A Gm /E F A7/E
зо- р'і а- га- ньку ця- бе як па- зна- ю. Мой

Cm/Eb D7 Gm Dm/F Gm/E C7 Dm B
га- ра- док за- снуў, мой га- ра- до- чак Лі- да. У су-

Gm A7 B7 D7/A Gm A7 1. Dm
зо- р'і а- га- ньку ця- бе я па- зна- ю.

Зна-

2. Dm Am B C7 F Am Cm D7 Gm Dm/F
ю. А... ... ... ... ... ... ... ... ... ...

Gm/E C7 F B G7/H C7 F A7 B D7/A
А... ... ...




Па вулачках прайду
Налюбавацца відам.
Ля крэпасці ізноў
У задуме пастаю.
Мой гарадок заснуў,
Мой гарадочак Ліда,
У сузор'і аганькоў
Цябе я пазнаю.

Тут знаю кожны кут,
Як ўласна імя знаеш.
Любуюся ўначы
І ў ранішняй зары.
Шчаслівы (ва) я таму,
Што шчыра прынімаеш,
Па дабраце душы
У добрыя сябры.

Сляды пакінуў час
На векавечных плітах.
Праходзіць ноч ў цішы,
Дзень крочыць у жыццё.
І родніць, пэўна, нас,
Мой гарадочак Ліда
І дабрата душы,
І дружбы пачуццё.

# Гармонік іграе

***Словы І. Гушчынскага*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

Умерана, прыветліва




Там за лугам гармонік іграе...
Рэчка, быццам юнацтва парог.
І чагосьці так сэрца чакае?
Для каго гэта песня лунае
З летуценных юнацкіх трывог?

Узыйсці на забытую кладку
На сустрэчу з той песняй хутчэй!
Там і месяц свой танец – загадку
З купкай зорак танцуе ўпрысядку,
І хутчэй час за рэчку цячэ.

А за лугам гармонік іграе
Песню даўніх, шчаслівых трывог.
І чаго мае сэрца чакае?
Для каго гэта песня лунае?
Заклікае з далёкіх дарог.

# Крыжы

***Словы С. Судніка*** ***Музыка Я. Петрашэвіча***

1. На зя-млі Бе-ла-ру-сі кры-жы да ба-цько-ўскай па-хі-ле-ны ве- ры. Вас а- пла-ква-лі ча- ста ла-

1. На зя- млі кры- жы да ве- ры. Вас а- пла-ква- лі да-

кры- жы да ба- цько-ўскай па-хі-ле-ны ве- ры.

сьлёз і гра-хоў па-зба-ўлен-не. Вы ад
сьлёз і гра-хоў па-зба-ўлен-не. Вы ад
сьлёз і гра-хоў па-зба-ўлен-не.
сьлёз і гра-хоў па-зба-ўлен-не.

На зямлі Беларусі крыжы
Да бацькоўскай пахілены веры.
Вас аплаквалі часта дажджы
Халадзілі студзёныя ветры.

***Прыпеў:*** Крыжы, крыжы –
Сведкі многіх трагічных падзеяў.
Крыжы, крыжы –
Сімвал веры, любові, надзеі.

Над зямлёй Беларусі буслы,
Як прадвеснікі шчасця і волі.
Як небёсаў святыя паслы
Векапомнага, вечнага болю.

***Прыпеў.***

Памажы нам, Збавіцель Ісус,
Ў нашым прагным да волі імкненні,
Бо яшчэ на крыжы Беларусь
І чакае свайго ўваскрашэння.

***Прыпеў:*** Крыжы, крыжы –
Сведкі многіх трагічных падзеяў.
Крыжы крыжы –
Сімвал веры, любові, надзеі.
Крыжы, крыжы –
Вы заступнікі ў нашых маленнях.
Крыжы, крыжы –
Вы ад слёз і грахоў пазбаўленне.

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**У выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшаў I том энцыклапедыі “Культура Беларусі” 704 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**




**Інстытут беларусістыкі (г. Вільня) і Беларускае гістарычнае таварыства (г. Беласток) выдалі кнігу Алега Латышонка і Яўгена Мірановіча “Гісторыя Беларуі ад сярэдзіны XVIII ст. да пачатку XXI ст.” 368 ст.**




**На Менскай фабрыцы каляровага друку надрукавана кніга Анатоля Цітова “Геральдыка Беларусі” 144 ст. Наклад 3000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “ФУАниформ”, г. Менск, выйшла кніга Ю.В. Чарняўскай “Белорусы от “тутэйшых” к нации” 562 ст. Наклад па 1000 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларусь”, г. Менск, выйшла кніга Ю. Бохана “Ваяры Грунвальдскай бітвы” 222 ст. Наклад па 1500 асобнікаў.**




**У выдавецтве “Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, г. Менск, выйшаў альбом “Беларусь - Литва: вместе через столетия”. 168 ст. Наклад 2000 асобнікаў.**



**Сядзіба Іваноўскіх у Лябёдцы (Галавічполе) былога Лідскага павету.** *Здымак Валерыя Сліўкіна. 2010 г.*